# “КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”

**незалежны перыядычны *online* часопіс**

**у падтрымку беларускай культуры і беларускасьці**

## №24

## Сьнежань 2019

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*

*З 2018 года выходзіць два разы на год*

*Атава, Канада*

## Дарагія сябры!

Часопіс **“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і нацыянальнага будаўніцтва.

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі і нацыянальнага будаўніцтва.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на рускай, англійскай, і французскай мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net



*Атава, Канада*

## Зьмест часопіса

*Краязнаўства*



*Юбілеі*



*Інфармацыя аб падзеях з культурнага жыцьця беларускіх суполак*



*Каляндар важнейшых дат у жыцьці беларусаў у 2019 годзе*



*Прыемнага чытаньня.*

*Пётра Мурзёнак, галоўны рэдактар часопіса*

*22 сьнежня 2019 года, Атава*

*Наступны 25-ты нумар часопіса выйдзе ў красавіку-маі 2020 года*

*Прадмова рэдактара да 24-га нумара часопіса*

**Пётра Мурзёнак: На поўдарозе да К. Каліноўскага**

***(вэб-часопіс "Культура. Нацыя", № 24, сьнежань 2019, с.5-9, www.sakavik.net )***

Чытаючы ўзвышаныя артыкулы пра перапахаваньне астанкаў паўстанцаў 1863-1864 гг. у Вільні (22 лістапада 2019 года) і непасрэдна назіраючы за падзеяй, можна было заўважыць без акуляраў прысутнасць шматлікіх беларусаў і бел-чырвона-белых сцягаў падчас цырымоніі. Натуральна, што эмацыйна ўсе беларусы, якія туды прыехалі (і тыя, якія не змаглі туды прыехаць), былі перапоўнены эмоцыямі зверх краю. Сапраўды, постаць Каліноўскага і факты, як сапраўдныя, так і ствараемыя міфы, працуюць на карысць беларускай справе - беларускай нацыянальнай ідэі.

Дэманстрацыя прысутнасці беларускасці на гэтай падзеі, пры недастковых знешніх (толькі знешніх) праяўленьнях "літоўскасці" і "польскасці" была відавочнай. І яна сведчыла з аднаго боку аб тым, якую важнасць у гэтым працэсе надалі Літва і Польшча ўганараваньню герояў паўстання за аднаўленьне краю, а з другога боку засьведчылі, што беларуская нацыя палітычна толькі нараджаецца. Нараджаецца ў тым сэнсе, як гэтага хацелі б бачыць нацыянальна-дэмакратычныя сілы.

Не маючы палітычнай свабоды ў сябе на радзіме, дэманстрацыя беларускай прысутнасці ў Вільні была важнай як для саміх беларусаў - для падняцьця духа і веры, што дарогу да сапраўднай свабоды можна асягнуць, так і для Еўропы, якая магла пабачыць, што беларусы ёсць і былі часткай гэтай самай Еўропы (у канцы XVI стагоддзя, 77% тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага складалі беларускія землі).

Не віна беларускіх людзей, што афіцыйная улада адмяжоўваецца ад постаці К. Каліноўскага. Робіць яна гэта толькі з адной асноўнай прычыны - светапогляд кіраўніка дзяржавы скіраваны ў савецкае мінулае, і ў тую гісторыю, якую ён вывучаў і ў якую свята верыць. А тое, што ўсе падзеі ў дзяржаве сёння залежаць ад аднаго чалавека, здаецца, ніхто не сумняваецца.

Сапраўды, як сп. Лукашэнка, гісторык па адукацыі, можа адмовіцца ад догмы - што Каліноўскі паляк, католік, і заклікаў выгнаць маскалёў? Цэлы 2019 год ідуць сакрэтныя перамовы і таргі па паглыбленай інтэграцыі Беларусі і Расіі. Пад самым

КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ, №24, сьнежань 2019 ISSN 2562-9506

носам хутка перамовы з двумя папераменнымі пераемнікамі, Пуціным і Мядзведзевым, а тут перапахаваньне К. Каліноўскага? Паехаць у Вільню? А як жа нафта? А як жа газ? Малако, сыр, сала ...? Выгадныя пошліны на нафту? Гандаль не на жарты. Нацыянальны гонар і суверэнітэт прадаецца за нафту і газ?!

З другога боку, каб падражніць усходняга "мядзведзя" выкарыстоўваецца нацыяналістычны жупел - віцэ-прэм'ер, сп. І. Петрышкевіч, усё ж адпраўлены ў Вільню на пахаванні паўстанцаў, каб заявіць там, што імя К. Каліноўскага нельга выкарыстоўваць у палітычных мэтах, і ў той жа час, 7, 8 і 20 снежня, дазваляюцца маніфестацыі, арганізаваныя сп. П. Севярынцам. Трэба дадаць - недазволеныя маніфестацыі - аднак ніхто іх не спыняў і людзям дазволілі хадзіць па цэнтральных вуліцах горада. Гэта ж невыпадкова - у Сочы, у Санкт-Пецярбургу сп.Лукашэнка усё яшчэ вёў гандаль з Пуціным.

Такая згубная для краіны тактыка выкарыстоўвацца сп. Лукашэнкам даўно - ён прадае нацыянальную будучыню Беларусі за стабільнасць сваёй улады і пры неабходнасці выкарыстоўвае ў адносінах з Расіяй нацыянальныя сілы, якія ім жа і яго памагатымі, бязлітасна ганьбяцца і прыцясняюцца ў роднай краіне. Саступкі нацыянальнаму робяцца вельмі нязначныя і даволі марудна. Той жа сп. І. Петрышкевіч заявіў у Вільні, " ... што дзейнасьць Кастуся Каліноўскага «зьвязаная зь перарастаньнем беларускага нацыянальна-культурнага руху ў барацьбу за беларускую дзяржаўнасьць у форме народаўладзьдзя».

Падобны прыклад можна даць і з Т. Касцюшкам: У 1997 годзе, каля Косава, я чытаў тэкст на невялічкім мануменце, на якім па-руску было напісана: «В доме, стоявшем на этом месте, в 1746 году родился Т. Костюшко – видный политический деятель Польши» (падкрэслена мной). Зараз на гэтым месцы збудаваны пры ўдзеле дзяржавы дом-музей Т. Касцюшкі з гаспадарчым будынкам і студняй і пастаўлены вялікі валун з наступным надпісам, па-беларуску, што разам у нейкай ступені характарызуе вымушаную змену адносін дзяржавы да нацыянальных герояў:

*«1746.04.02-1817.15.10*

*Тут, ва ўрочышчы Марачоўшчына, нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, вялікі сын беларускай зямлі, які ў далейшым стаў нацыянальным героем Польшчы, ЗША, ганаровым грамадзянінам Францыі*

*Удзячныя нашчадкі».*

У 2018 годзе там пастаўлены помнік Т. Касцюшку на сродкі саміх беларусаў.

Такім чынам, атрымоўваецца, што свядомыя беларусы пакуль што ўспамінаюць і ўганароўваюць К. Каліноўскага не ў сябе на радзіме, а ў старадаўняй сталіцы ВКЛ - у горадзе, які уяўляе сабой агульную гістарычную спадчыну для беларусаў, літоўцаў і палякаў. А беларускія ўлады сціпла, і магчыма нават фальшыва, толькі зрабілі крок па дарозе да Каліноўскага.

Тое ж можна казаць і пра тое, што беларусы на поўдарозе (ці хіба меней) да свайго нацыянальнага самавызначэння, да вызначэння каб "Людзьмі звацца", як піша сп. І. Хадарэнка ў сваім артыкуле ў гэтым нумары часопіса.

Зараз беларусы бліжэй да Масквы, чым да Берліна і Варшавы на шляху да нацыянальнага самаўсведамлення! Як жа гэта цяжка бачыць, што беларусы зноў ціха і памяркоўна паўзуць ва ўсходнюю імперыю. Ці ж магчыма такое было б бачыць пры адпаведнай дзяржаўнай нацыянальнай палітыцы? Нават, калі лічыць, што Масква для нас не вораг, якой яна ёсць для Украіны, нашай напарніцы па цывілізацыі. Які маем шанс для памяркоўнай, нейтральнай пазіцыі у Еўропе?

Канешне, аптымальным было б разумнае, узважанае рашэнне афіцыйнай эліты аб безумоўнай незалежнасці і будаўніцтве нацыянальнай нейтральнай дзяржавы, на якую можна спадзявацца пакуль што вельмі тэарэтычна. Як заявіў на днях расійскі міністр перамовы ідуць аб стварэнні фактычна новай мадэлі дзяржавы - як было сказана "аднак эканоміка, дзве дзяржавы". Гэта нешта зусім новае ў гісторыі чалавецтва. Адна нацыя-дзяржава не можа быць часткай другой нацыі-дзяржавы - гэта хутчэй за ўсё нагадвае каланіяльныя адносіны, дзе калоніяй якраз ва ўсё большай ступені і становіцца Беларусь. Вось у такім балоце зараз апынулася краіна пад прадажным кіраўніцтвам Першага Прэзідэнта. А да прыкладу, людзі вострава Бугенвіль з насельніцтвам не больш 180.000 у гэтым месяцы прагаласавалі за незалежнасць ад Папуа Новай Гвінеі. Вось такія розныя тэндэнцыі.

Аднак, якія шансы застаюцца? Абсалютна, пагаджаючыся з ідэямі новага руха "Свежий ветер", ініцыяванага паважаным сп. У. Мацкевічам, які асноўнай задачай прапануе скліканне "Усенароднага схода", на гарызонце беларускай палітыкі, апроч асобных яркіх лідэраў (М. Статкевіч, Д. Дашкевіч, П. Севярынец), асабліва нікога больш заўважыць не ўдаецца. Аднак, гэта лідэры індывідуальныя, за якімі стаіць зусім недастковая колькасць людзей. Для аб'яднаньня іншых нацыянальна-дэмакратычных арганізацый у большую сілу пакуль няма волі.

Пасля Віленскага падпісанага пад эгідай БНР пагаднення (2012) нічога істотнага не адбылося для кансалідацыі беларускіх сіл. Чарговы заклік, без канкрэтнага праекта і пастаўленых неабходных задач, і не мог закончыцца нейкім пазітыўным вынікам

(зараз хтосьці з гонарам можа толькі сказаць, што быў падпісантам таго пагаднення). Такі заклік быў падобным на заклікі кампартыі КПСС на святы, такіх як “дагонім і перагонім”. Можа крыху жорстка, але гэта праўда. Палітычна падобныя заклікі ёсць мэтазгоднымі, але асноўная іх адмоўнасць заключаецца ў тым, што яны не былі данесены да народа. А па другое, народ прывык да заклікаў, кшталту, “вось-вось заўтра рэжым рухне”, “засталося зусім крыху”. Не трэба сябе падманываць. Абсалютная большасць народа слухае прапагандыста еўразійскіх ідэй сп. Салаўева па цэнтральных каналах Расіі, глядзіць расійскія фільмы і слухае расійскую папсу. Скаардынавай працы незалежных сродкаў інфармацыі да гэтага часу не было. Вельмі пазітыўнай з’явай з’яўляецца яднанне блогераў, якія нарэшце змаглі злучыцца ў напісанні агульнай заявы пра пагрозу згубнай для Беларусі інтэграцыі. Станоўчым момантам (за доўгі час) было гуртаванне лідэраў розных беларускіх арганізацый пры арганізацыі маніфестацыі супраць інтэграцыі з Расіяй 20 снежня 2019 года ў Мінску.

Нешматлікая нацыянальная эліта ва ўмовах гета на радзіме пачынае ідэалагічныя спрэчкі - хто з іх большы хрысціянін і ці патрэбны ў краіне гей-парады? Пытанне мэтазгоднасці (палітычнай ці іншай) ставіцца наперадзе прынцыпаў дэмакратычнасці. Яркі прыклад, гарачыя дыскусіі ў ПЭН-цэнтры. Аднак, парушэнне прынцыпаў дэмакратызма заўважна і ў беларускай дыяспары. Дык што, гэта нацыянальная асаблівасць - дзейнічаць індывідуальна, нікога не слухаць і г.д.? Магчыма гэта і ёсць прычынай адсутнасці вынікаў у спробах кансалідацыі.

Дык дзе ж выхад? Рэвалюцыя? Наўрад ці народ наш яе вытрымае. Як ні прыкра аб гэтым казаць - асноўныя перамены ў жыцці беларускага народа адбываліся толькі пры змене знешепалітычных абставін (прыклад, развал Расійскай імперыі і СССР і ўтварэнне БНР\БССР і Рэспублікі Беларусь, адпаведна). Але далейшыя падзеі заўжды падказвалі, што такія змены неўстойлівыя і недоўгавечныя. Трэба саспець. Саспець народу. Таму, зноў як і раней, паўстае пытанне падключэння да асьветніцтва народа усіх існуючых рухаў і партый.

Да Каліноўскага яшчэ крочыць і крочыць!

**Выкарыстаныя крыніцы:**

1. Алексіевіч старшыня ПЭН-цэнтра https://www.svaboda.org/a/30237739.html

2. Севярынец чупраць Хадановіча https://www.svaboda.org/a/30234586.html

3. Севярынец да ПЭН цэнтру 22 .10.2019 https://naviny.by/article/20191022/1571755546-pavel-sevyarynec-fenamenalogiya-belarusi-kulturny-marksizm-i-yago

4. Мацкевіч пісьмо Макею https://naviny.by/article/20191027/1572168630-vladimir-mackevich-chto-delat-otkrytoe-pismo-vladimiru-makeyu

5. Дубавец супраць Севярынца https://www.svaboda.org/a/30232347.html

6. Хадановіч і геі 23.10.2019 https://nn.by/?c=ar&i=239777

7. Хадарэвіч пра выхад з ПЭН цэнтра 27.10. 2019 https://nn.by/?c=ar&i=239991

8. Някляеў, Купала, і палітыка 25.10.2019 https://nn.by/?c=ar&i=239912

9. І. Петрышкевіч пра Кастуся Каліноўскага https://www.svaboda.org/a/30286799.html

10. Глядзіце таксама інтэрв’ю рэдактара часопіса ў гэтым нумары, дадзенае кампаніі “Будзьма”.

*Editorial*

**Piotra Murzionak: On the half-way to K. Kalinouski**

***(web-magazine "Culture. Nation", issue 24, December 2019, p.10-13, www.sakavik.net)***

Reading the articles about the re-burial of rebels (1863-1864) in Vilnja on November 22, 2019, and directly observing the event anyone could be note without glasses the presence of many Belarusians with white-red-white flags during the ceremony. Naturally, the emotionally all Belarusians who got there (and those who were not able to come) were filled with emotion over the edge. Indeed, the figure of K. Kalinouski and facts, both real and created myths, work for the benefit of the Belarusian national idea.

Demonstration of Belarusian presence in this event, without that from Lithuanian or Polish sides (not visible externally but only externally), was obviously recorded. The ceremony made it clear the importance of event organized by Lithuanian and Polish governments to co-memorate the heroes fighting for the Commonwealth freedom, and from the other side, it indicated that the Belarusian nation is only born politically. It is born in that sense as national-democratic forces want to see it.

Lacking a political freedom at home, the demonstration of the Belarusian presence in Vilnja was important for Belarusians, firstly, to lift the spirit and the belief that the road to true freedom can be attained, and secondly, for Europe, which could see that the Belarusians are and were part of Europe itself (at the end of the XVI century, 77% of the territory of the Grand Duchy of Lithuania were Belarusian lands).

It is not the fault of the Belarusian people that officials dissociate themselves from K.Kalinouski figure. Belarusian government does it with only one main reason - the vision of the head of the state is directed to the Soviet past, and to the history, which he studied and which he strongly believes. It is the fact that all the events in the country today depends on one person, no one doubts.

Indeed, in what way Mr. Lukashenko, a historian by education, may abandon the dogma that Kalinouski is Polish, Catholic, and urged Muscovites to drive? The whole 2019, there are secret negotiations and trading for in-depth integration of Belarus and Russia. It is soon expected the negotiations with two alternately successors, Putin and Medvedev, but here K. Kalinouski? Go to Vilnja? But what about oil? But what about gas? Milk, cheese, bacon ...? Favorable dues on oil? A trade is not for a joke. National pride and sovereignty are sold for oil and gas?!

On the other hand, a nationalist bogey is used to tease the east "bear". Deputy Prime Minister, I. Petryshkevich, who was yet sent to Vilnja for the funeral of the rebels declared that K. Kalinouski' name can't be used for political purposes; and at the same time, on December 7, 8 and 20, unauthorized demonstrations, organized by P. Sevjarynets were not stopped by officials and people were allowed to walk through the main streets of the city. It was not by chance - in Sochi, and St. Petersburg, Mr. Lukashenko still traded with Putin.

This pernicious for the country tactics is used by Lukashenka since long time. He sells the national future of Belarus for the stability of his power and, if necessary, he profiteth in its relations with Russia national forces which relentlessly cursing and suppressed by him and his assistants. Concessions to all national are very small and quite slow. The same I. Petryshkevich said in Vilnja, "... that the Kalinouski activities were linked to escalate the Belarusian national and cultural movement into the struggle for Belarusian statehood in the form of democracy".

A similar example can be given in regard to T. Kascjushka. In 1997, when I was in Kosava, I read the text on a small monument, where in Russian was written: "In the house that stood on this spot, T. Kascjushka was born in 1746 - a prominent Polish politician " (emphasis mine). Now on this place, T. Kascjushka state house-museum with farm buildings and a well was built with the assistance of the state. A large boulder was put in place with the following inscription in Belarusian (to some extent it characterizes the forced change of attitude of the state to the national heroes):

*"1746.04.02-1817.15.10. Here, in Merachoushchyna, Andrew Thaddeus Bonaventure Kascjushka was born, the great son of the Belarusian land, who later became a national hero of Poland, the United States, and an honorary citizen of France. Grateful descendants."*

In 2018, a monument of T. Kascjushka was put in place at the expense of the Belarusians themselves.

Thus, it turns out that conscious Belarusians yet recall and honour K. Kalinouski not at home but in the ancient capital of the GDL, common historical heritage for Belarusians, Lithuanians, and Polish people. Belarusian authorities modestly, and perhaps even false, but made a step on the road to Kalinouski. And we can say about all Belarusians as well that they are on the half-road (or perhaps less) to its national self-identification, an identification "to be called as people ", as writes I. Khadarenka in her article in this issue.

Belarusians are now closer to Moscow than to Berlin and Warsaw on the way to the

national identity! How is it difficult to see that Belarusians again are creeping quietly and tolerant into the eastern empire. Would it be possible to see that with an appropriate state national politics? Even in the case if we assume that Russia is not the enemy for us, what it is for Ukraine, our co-member of civilization. Have we a chance for a tolerant, neutral position in Europe?

Of course, the best outcome would be if the official elite made a reasonable, balanced decision of unconditional independence and national construction of a neutral state. However, you can count on very theoretically yet. As announced recently by the Russian minister, the negotiations between Belarus and Russia are actually about creating a new model of the state - "one economy, two states". This is something completely new in the history of mankind.

A nation-state can’t be a part of the second nation-state. It is rather reminiscent of the colonial relationship, where a word “colony” is increasingly relevant to Belarus. The country under the corrupt leadership of the First President is now facing to be in the swamp. As opposite example, the people of Bougainville Island with a population of less than 180,000 in this month voted for independence from Papua New Guinea. These are the different trends.

However, what chances are? Someone may be in agreement with the ideas of new movement "Fresh wind" initiated by U. Mackjevich, the main objective of which is the convening of the "national assembly" of Belarus. What else? Belarus has a few individual brightest leaders (M. Statkevich, D.Dashkevich, P.Sevjarynets), However, there are a very insufficient number of people behind them. To join the other national-democratic organizations in the greater force is no enough will yet. After signing of Vilnja agreement, under the auspices of the BDR (2012), nothing significant has happened to consolidate the Belarusian forces. The next call, without a specific project couldn’t result in some positive outcome (now someone with pride can only say that I was a subscriber of that agreement). This call was similar to the Communist Party calls on holidays, such as "catch up and overtake." Maybe a little hard, but it's true. Politically, such appeals have fit to a situation, but “a negativity” of most of them is in that they were not communicated to the people.

There are many other similar calls, like "is about regime to collapse” or “only a few is remained”. Do not fool ourselves. The vast majority of people are listening to a promoter of Eurasian ideas Solovjov on the central Russian channels, watch Russian movies and listening to Russian pop music. Quite opposite, Belarusian independent media are not coordinated so far. A very positive recent development is the union of bloggers who were

finally able to connect in the writing of general statements about the threat of harmful integration of Belarus with Russia. The other positive moment (for a long time) was the union of the leaders from various Belarusian organizations in preparation for demonstration against integration with Russia in Minsk on December 20, 2019.

A small national elite, in a ghetto conditions at home, is involved in ideological disputes, who is the more Christian, and if gay parades are necessary in the country? Feasibility (political or other) is ahead of democratic principles. A striking example of a hot debate is in the PEN-center. However, the violation of principles of democracy is markedly observed in the Belarusian diaspora. So, is this a national feature - act individually, no one to listen to, etc.? Perhaps this is the reason for the lack of results in attempts to consolidate.

So where is a solution? Revolution? It is unlikely that our people will sustain it. No matter how annoying to talk about it, the major changes in the life of Belarusian people occurred only with the external political circumstances (for example, the collapse of the Russian Empire and the Soviet Union and the creation of the BNR \ BSSR and the Republic of Belarus, respectively). But subsequent events have always suggested that such changes are unstable and short-lived. People must mature. So again, as before, it is a necessity for all the existing movements and parties to work together in the enlightenment of the Belarusian people.

We have still walk and walk to Kalinouski!

*Слово редактора*

**Пётра Мурзёнак: На полпути к К. Калиновскому**
***(вэб-журнал «Культура. Нация», №24, декабрь 2019, с. 13-17, www.sakavik.net)***

Читая возвышенные статьи о перезахоронении останков повстанцев 1863-1864 гг. в Вильнюсе (22 ноября 2019 года) и непосредственно наблюдая за событием, можно было заметить без очков присутствие многих беларусов и бело-красно-белых флагов во время церемонии. Естественно, что эмоционально все беларусы, которые туда приехали (и те, которые не смогли туда приехать), были переполнены эмоциями сверх края. Действительно, фигура Калиновского и факты, как настоящие, так и создаваемые мифы, работают на благо беларусского дела - беларусской национальной идеи.

Демонстрация присутствия беларускости на этом событии, при недостаточных внешних (только внешних) проявлениях "литовскости" и "польскости" была очевидной. И она свидетельствовала с одной стороны о том, какую важность в этом процессе уделили Литва и Польша, чевствуя героев восстания за восстановление края, а с другой стороны засвидетельствовали, что беларусская нация политически только рождается. Рождается в том смысле, как это хотели бы видеть национально-демократические силы.

Не имея политической свободы у себя на родине, демонстрация беларусского присутствия в Вильнюсе была важной как для самих беларусов - для поднятия духа и веры, что дорогу к подлинной свободе можно осилить, так и для Европы, которая могла увидеть, что беларусы есть и были частью этой самой Европы (в конце XVI века, 77% территории Великого Княжества Литовского составляли беларусские земли).

Не вина беларусских людей, что официальная власть отмежёвывается от фигуры К. Калиновского. Делает она это только по одной основной причине - мировоззрение главы государства направлено в советское прошлое, и в ту историю, которую он изучал и в которую свято верит. А в том, что все события в государстве сегодня зависят от одного человека, кажется, никто не сомневается.

Действительно, как г-н Лукашенко, историк по образованию, может отказаться от догмы - что Калиновский поляк, католик, и призывал выгнать москалей? Целый 2019 год идут секретные переговоры и торги по углубленной интеграции Беларуси

и России. Под самым носом переговоры с двумя попеременно-преемниками, Путиным и Медведевым, а тут перезахоронение К. Калиновского? Поехать в Вильнюс? А как же нефть? А как же газ? Молоко, сыр, сало ...? Выгодные пошлины на нефть? Торговля не на шутку. Национальная гордость и суверенитет продается за нефть и газ ?!

С другой стороны, чтобы подразнить восточного "медведя" используется националистический жупел - вице-премьер И. Петрышкевич, все же отправлен в Вильнюс на похороны повстанцев, чтобы заявить там, что имя К. Калиновского нельзя использовать в политических целях, и в то же время, 7, 8 и 20 декабря в Минске разрешаются манифестации, организованные П. Северинцем. Надо добавить - недозволенные манифестации - однако никто их не останавливал и людям разрешили ходить по центральным улицам города. Это же не случайно - в Сочи, в Санкт-Петербурге г-н Лукашенко все ещё вел торговлю с Путиным.

Такая пагубная для страны тактика используется г. Лукашенко давно - он продает национальное будущее Беларуси за стабильность своей власти и при необходимости использует в отношениях с Россией национальные силы, которые им же и его помощниками безжалостно ругаются и притесняются в родной стране. Уступки национальному делаются очень незначительные и довольно медленно. Тот же г. И. Петрышкевич заявил в Вильнюсе, «... что деятельность Кастуся Калиновского" связана с перерастанием беларусского национально-культурного движения в борьбу за беларусскую государственность в форме народовластия ».

Подобный пример можно дать и относительно Т. Костюшко: В 1997 году, около Косово, я читал текст на небольшом монументе, на котором по-русски было написано: «В доме, стоявшем на этом месте, в 1746 году родился Т. Костюшко - видный политический деятель Польши» (подчеркнуто мной). Сейчас на этом месте возведен при участии государства дом-музей Т. Костюшко с хозяйственным зданием и колодцем и поставлен большой валун со следующей надписью, по беларусски, что вместе, в какой-то степени характеризует вынужденную смену отношения государства к национальным героям: *«1746.04.02-1817.15.10. Здесь, в урочище Меречёвщина, родился Андрей Тадеуш Бонавентура Костюшко, великий сын беларусской земли, который в дальнейшем стал национальным героем Польши, США, почетным гражданином Франции. Благодарные потомки».*

В 2018 году там поставлен памятник Т. Костюшко на средства самих беларусов.

Таким образом, получается, что сознательные беларусы пока что вспоминают и отдают дань К. Калиновскому не у себя на родине, а в старинной столице ВКЛ -

городе, который представляет общее историческое наследие для беларусов, литовцев и поляков. А беларусские власти скромно, и возможно даже фальшиво, только сделали шаг по дороге к Калиновскому. То же можно говорить и о том, что беларусы на полпути (или даже меньше) до своего национального самоопределения, определения чтобы "Людьми зваться", как пишет И. Хадарэнка в своей статье в этом номере журнала.

Сейчас беларусы ближе к Москве, чем до Берлина и Варшавы, на пути к национальному самоосознанию! Как же на это трудно смотреть, что беларусы снова тихо и терпимо ползут в восточную империю. Разве же возможно такое было бы видеть при соответствующей государственной национальной политике? Даже, если считать, что Москва для нас не враг, какой она есть для Украины, нашей напарницы по цивилизации. Имеем ли шанс для взвешенной, нейтральной позиции в Европе?

Конечно, оптимальным было бы разумное, взвешенное решение официальной элиты о безусловной независимости и строительстве национального нейтрального государства, на что надеяться можно пока что только теоретически. Как заявил на днях российский министр переговоры идут о создании фактически новой модели государства - как было сказано "однако экономика, два государства". Это что-то совершенно новое в истории человечества. Одна нация-государство не может быть частью второй нации-государства - это скорее всего напоминает колониальные отношения, где колонией как раз во все большей степени и становится Беларусь. Вот в таком болоте сейчас оказалась страна под продажным руководством Первого Президента. А к примеру, люди острова Бугенвиль с населением не более 180.000 в этом месяце проголосовали за независимость от Папуа Новой Гвинеи. Вот такие разные тенденции.

Однако, какие шансы остаются? Абсолютно, соглашаясь с идеями нового движения "Свежий ветер", инициированого уважаемым В. Мацкевичем, который основной задачей предлагает созыв "Всенародного собрания", на горизонте беларусской политики, помимо отдельных ярких лидеров (Н. Статкевич, Д. Дашкевич, П. Северинец), особенно никого больше заметить не удается. Однако, это лидеры индивидуальные, за которыми стоит совсем недостаточное количество людей. Для объединения же других национально-демократических организаций в большую силу пока нет достаточной воли. После Вильнюсского соглашения, подписанного под эгидой БНР (2012), ничего существенного не произошло для консолидации беларусских сил. Очередной призыв, без конкретного проекта и поставленных необходимых задач, и не мог закончиться каким-то позитивным результатом

(сейчас кто-то с гордостью может только сказать, что был подписантом того соглашения). Такой призыв был похожим на призывы компартии КПСС на праздники, таких как "догоним и перегоним". Может немного жестко, но это правда. Политически подобные призывы есть целесообразными, но основной их недостаток заключается в том, что они не были донесены до народа.

А во-вторых, народ привык к призывам, вроде, "вот-вот завтра режим рухнет", "осталось совсем немного". Не надо себя обманывать. Абсолютное большинство народа слушает пропагандиста евразийских идей г. Соловьева по центральным каналам России, смотрит российские фильмы и слушает российскую попсу. Скоординированной работы независимых средств информации до сих пор не было. Очень позитивным явлением стало единение блоггеров, которые наконец смогли соединиться в написании общего заявления об угрозе пагубной для Беларуси интеграции. Положительным моментом (за долгое время) было объединение лидеров различных беларусских организаций при организации манифестации против интеграции с Россией 20 декабря 2019 года в Минске.

Немногочисленная национальная элита в условиях гетто на родине начинает идеологические споры - кто из них больший христианин и нужны ли в стране гей-парады? Вопрос целесообразности (политической или иной) ставится впереди принципов демократичности. Яркий пример, горячие дискуссии в ПЕН-центре. Однако, нарушение принципов демократизма заметно и в беларусской диаспоре. Так что, это национальная особенность - действовать индивидуально, никого не слушать и т.д.? Возможно в этом и заключается причина отсутствия результатов в попытках консолидации.

Так где же выход? Революция? Вряд ли народ наш ее выдержит. Как ни досадно об этом говорить - основные изменения в жизни беларусского народа происходили только при изменении внешнеполитических обстоятельств (пример, развал Российской империи и СССР и создание БНР \ БССР и Республики Беларусь, соответственно). Но дальнейшие события всегда показывали, что такие изменения неустойчивые и недолговечные. Надо созреть. Созреть народу. Поэтому, снова, как и прежде, встает вопрос подключения к просветительству народа всех существующих движений и партий.

К Калиновскому еще шагать и шагать!

 *ISSN 2562-9506*

*Артыкулы*

**Ірына Хадарэнка: ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА**



*ІРЫНА ХАДАРЭНКА – пісьменніца, перакладчыца, культуролаг. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў і ПЭН-цэнтра, прэзідэнт Беларускай Асветніцкай Лігі Амерыкі. Нарадзілася ў Мінску, жыве ў Нью-Ёрку.*

Пакуль айчынныя інтэлектуалы (а дакладней, тыя, хто сябе такімі лічыць) валтузяцца ў дрыгве вызначэння беларускай нацыянальнай ідэі, наш геніяльны класік Янка Купала ўжо зрабіў гэта больш за стагоддзе таму ў вершы “А хто там ідзе?..”. Зірнем уважліва на апошнія радкі, якія паўсталі акурат у часы фармавання падмуркаў нацыянальнай самасвядомасці: - А чаго ж захацелася ім, пагарджаным век, сляпым і глухім? - Людзьмі звацца.

Інакш кажучы, разнастайныя тэзісы пра тое, што “беларусы – мірныя людзі”, “наш край – мост паміж Захадам і Ўсходам” і г.д. – гэта ўсё дадаткі да асноўнай стравы. Людзьмі звацца – вось чаго спакон вякоў прагнуць беларусы. Гэта значыць, успрымацца звонку без пагарды, знаходзіцца на годным узроўні ў міжнароднай грамадзе, а галоўнае – быць не горш за астатніх.

Што характэрна, быць лепш і ўзвышацца над іншымі беларусы ніколі не імкнуліся. І гэта, з аднаго боку, значна больш рацыянальная пазіцыя ў параўнанні з

хваравітымі акцэнтуацыямі кшталту “мы – абраная звыш нацыя”, “мы – ратавальнікі сусветнай духоўнасці з асаблівым шляхам развіцця”, “мы – найбольш моцная і ўплывовая краіна ў свеце”. Таму што ў апошніх выпадках назіраюцца гіпербалізаваныя неўрозы нацыянальных маштабаў, якія не толькі недарэчныя, але і шкодныя. А вось людзьмі звацца – у першую чаргу азначае натуральнае жаданне захоўваць сваё, а не разяваць зяпу на чужое.

З іншага боку, арыентацыя на ўхваленне звонку спрыяла ўзмацненню прыстасавальніцтва і іншых негатыўных сацыяльных з’яваў. “Людзьмі звацца” падчас Рэчы Паспалітай азначала быць у шчыльным спалучэнні з польскай мовай і культурай, у часы Расійскай імперыі і пазней СССР – адпаведна з рускай мовай і культурай. Усё спрадвечна беларускае было запхнута ў цёмную камору “халопства” і “сялянщчыны”, “калгасніцтва” і “архаізму”. Хочаш быць не горш за астатніх (то бок тых, хто пры ўладзе) – чапляй на сябе андарак памяркоўнасці і не спрабуй выглядаць разумнейшым. А тым больш пратэставаць супраць чагосьці. Гэтак не толькі “ў людзі” не выйдзеш, але і страціш усё тое нешматлікае, што маеш.

Беларусы, са сваёй рахманасцю і стрыманасцю, здаецца, аказаліся бліжэй не да неўтаймаванага заходняга рыцара, які ў бойцы перамагае нячысціка, а да абагульненага вобразу ўсходняга назіральніка, што цярпліва чакае, пакуль па рацэ праплывуць трупы ягоных ворагаў. Але разам з тым, недахоп пасіянарнасці і даўняя звычка “не выпінацца” нібы ўсталявалі над галовамі беларусаў нябачную мяжу, якую нельга перакрочваць. Гэтым часткова тлумачыцца той факт, што беларусы замежжа рэдка маюць дастаткова амбіцый, каб здзяйсняць неверагодныя мэты. Большасць імкнецца прызвычаіцца да новых варункаў жыцця, наладзіць больш-менш прыстойны дабрабыт і зусім не прагне змяняць свет. Быць не горш за астатніх – вось ужо і шчасце, а быць лепш – надта складаная задача, якая патрабуе шмат высілкаў і прадугледжвае цяжар адказнасці.

“Каб лепш, дык і навошта” – сцвярджае народная мудрасць. Гэта амерыканцы прызвычаіліся да канкурэнцыі, таму памкненне стаць лепшымі ва ўсім у іх фарміруецца з маленства. Беларусам жа такія лідэрскія пазіцыі не надта даспадобы. Бо значна прасцей “схавацца ў бульбу”. Як ні дзіўна, проста атрымліваць асалоду ад жыцця беларусы таксама не могуць – яны ўвесь час або маюцца або змагаюцца. Прычым маяцца можна, нават маючы ўсе відавочныя рысы агульнапрызнанага “камплекта” шчасця: здароўе, жытло, працу, сям’ю. А змагацца – сярод іншага, і на ўзроўні неандэртальцаў – падчас цісканіны ў чарзе за дармовымі цукеркамі і гамбургерамі, таннымі лапсердакамі з “сэканд хэнду” і старымі іншамаркамі, якія варта было б здаць на металалом.

Гэтак жа і з вызначэннем нацыянальнай ідэі: пакуль адны маюцца, спрабуючы ідэйна сфармуляваць нешта адмыслова беларускае, другія змагаюцца за тое, каб апрануць беларусаў у вопратку з чужога пляча і зацягнуць іх ці то ў “рускі свет”, ці то ў “еўразійства”, ці то ў “постнацыянальную мадэрнасць”. Спробы закансерваваць нашу нацыянальную ідэнтычнасць у слоіку суседскіх ментарскіх парадыгм фактычна ставіць беларусаў на ўзровень таго самага “пагарджанага век, сляпога і глухога люду”, не здольнага вызначаць свой лёс і сваю місію ў свеце самастойна. А гэта значыць, што людзьмі звацца ў дадзеным становішчы будзе складана, бо з самапавагай і шанаваннем уласнай спадчыны ў нас па-ранейшаму кепска.

У дачыненні да сутнасці нацыянальнай ідэі варта яшчэ падкрэсліць некалькі істотных момантаў. Па-першае, нацыянальная ідэя мусіць выяўляць адметнасць асобна ўзятай нацыі ў параўнанні з іншымі. Таму пастулаты ў выглядзе дабрабыту, суверэнітэту або хрысціянскай маралі выступаць у якасці нацыянальнай ідэі не могуць. Па-другое, нацыянальная ідэя не заўсёды прыгожая. Чалавецтва за мноства тысячагоддзяў так і не навучылася пераадольваць свае асноўныя хібы, таму чакаць ад адносна маладых супольнасцяў, абагульненых прыналежнасцю да пэўных народаў, высокай эстэтыкі ў фармуляванні сэнсу свайго існавання неяк не прыходзіцца. Па-трэцяе, (і гэта адзначалася мной ужо шматразова раней), нацыянальная ідэя не можа існаваць без паняцця “нацыя”, якое ў апошні час шэраг “інтэлектуалаў” так моцна прагне знівеляваць і наогул пазбавіцца, спрабуючы ўводзіць замест яго нейкія штучныя субстытуты.

Відавочна, што нацыянальнасць – гэта ў першую чаргу тое, што ў людской свядомасці, а не тое, што ў ДНК або пашпарце. Наогул, нацыянальная ідэя – гэта не гістарычны стрыжань фармавання этнасу, не набор яскравых эмацыйных лозунгаў і не сацыяльна-палітычны кірунак развіцця грамадства. Гэта хутчэй лакальны далягляд, які адначасова бачыць і ўсведамляе кожны паасобку і ўсе мы супольна. Таму нягледзячы на тое, што беларусам, як трапна адзначаў Максім Гарэцкі, “нудна ўрозні, цесна разам”, аднак жаданне “людзьмі звацца” ўсё ж падштурхоўвае шукаць шляхі да ўзаемнай згоды. У тым ліку, і ў характары вызначэння сваёй адмысловай місіі.

Сёння, ва ўмовах узмацнення рызыкі страты незалежнасці, наяўнасць пашпарту або віду на жыхарства не азначае аўтаматычна быць беларусам. Таму што людзьмі звацца можна толькі ў тым выпадку, калі добра ўсведамляецца адмысловасць уласнай нацыі, а гонар і годнасць не абменьваюцца на дробныя прывілеі з кожнай чарговай зменай улады.

**Iryna Khadarenka: Be considered human beings**
***(magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p.18-21,*** www.sakavik.net ***)***

The author describes existing difficulties with the definition of a national idea. She states that a nation is not related to citizenship only, and the national idea is not a historical core of forming an ethnic group, not a set of bright emotional slogans and not a direction of the society's development. This is a kind of mission, and, metaphorically saying, a local horizon, which every representative of the nation is able to see and to accept. As for Belarusians, they always aimed to be not worse than the others and to get equality at the international level. But it looks impossible without self-respect and in the conditions of exchange of sovereignty for petty personal privileges.

**Ирина Хадаренко: Зваться людьми**
***(вэб-журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019 г., выпуск 24, стр.18-21, www.sakavik.net)***
Автор описывает существующие трудности с определением национальной идеи. Она утверждает, что нация связана не только с гражданством, а национальная идея это не историческое ядро формирования этнической группы, не набор ярких эмоциональных лозунгов и не направление развития общества. Это своего рода миссия и, метафорически говоря, местный горизонт, который каждый представитель нации может увидеть и принять. Что касается белорусов, то они всегда стремились быть не хуже других и добиваться равенства на международном уровне. Но это выглядит невозможным без чувства собственного достоинства и в условиях обмена суверенитета на мелкие личные привилегии.

**Юры Грыбоўскі: Алесь Махноўскі (1902 - 1967)**

Беларускі нацыянальны рух мае ўсе падставы, каб ганарыцца многімі сваімі сынамі і дочкамі. Сярод іх знаходзяцца постаці, якія з’яўляюцца добра вядомымі даследчыкам і ўсім тым, хто цікавіцца гісторыяй Беларускага Адраджэння. Ёсць аднак і тыя, хто заслугоўвае не меншай пашаны, а чые імёны па шэрагу прычынаў менш вядомыя альбо зусім забытыя. Да ліку апошніх належыць многія прадстаўнікі беларускага руху ў Латгаліі. Магчыма, што па прычыне геаграфічнай адлегласці, мясцовы беларускі рух працяглы час не атрымаў належнага навуковага асвятлення. А тым часам, гэты рэгіён, які з’яўляецца культурным і этна-канфесійным памежжам, даў беларускаму адраджэнню шэраг руплівых і самаахвярных дзеячоў. Да пляяды беларускіх нацыянальных актывістаў, якія паходзілі з Латгаліі, належыў Алесь Махноўскі, беларускі грамадска-палітычны дзеяч і педагог.

Герой нашай публікацыі нарадзіўся 24 верасня 1902 г. у Дзвінску ў беларускай праваслаўнай сям’і. Яго бацька, Сцяпан Махноўскі, у царскай Расіі атрымаў педагагічную адукацыю і да Першай сусветнай вайны настаўнічаў на Дзвіншчыне, якая тады ўваходзіла ў склад Віцебскай губерні. Падчас вайны сям’я Махноўскіх была вымушаная пакінуць родныя мясціны і апынулася ў бежанстве. У выніку пачатковую асвету юнак атрымаў у расійскім Курску. Аднак пасля заканчэння баявых дзеянняў разам з бацькамі вярнуўся да хаты. Вяртанне ў родныя мясціны азначала пераезд у Латвію, паколькі Латгалія тады ўжо стала часткай незалежнай Латвійскай Рэспублікі. Безумоўна, Махноўскія былі не адзінымі беларусамі, якія прынялі латвійскае грамадзянства.

Нагадаем, што ў межах міжваеннай латвійскай дзяржавы налічвалася некалькі дзесяткаў беларусаў, якія паводле колькасці належылі на ліку найбуйнейшых сярод нацыянальных меншасцяў у гэтай краіне. Кампактным месцам жыхарства беларускага насельніцтва з’яўлялася менавіта Латгалія. Вяртанне Махноўскіх адбылося ў час, калі сярод латвійскіх беларусаў распачыналася нацыянальна-культурная праца. Дэмакратычнае заканадаўства Латвіі прадугледжвала існаванне нацыянальна-культурнай аўтаноміі для нацыянальных меншасцяў, у тым ліку беларусаў. У выніку мясцовыя беларусы атрымалі вельмі добрыя ўмовы для развіцця ўласнай культуры і асветы. На працягу кароткага часу атрымалася

разгарнуць шпаркую грамадска-культурную, асветную, выдавецкую і палітычную працу.

Першай і найбуйнейшай арганізацыяй латвійскіх беларусаў стала Беларускае культурна-асветнае таварыства "Бацькаўшчына", якое было створана ўвесну 1921 г. у Дзвінску. Згодна са стututам таварыства ставіла сабе за мэту праводзіць ідэю беларускага нацыянальнага адраджэння ў масы беларускага народу і яго суседзяў праз выданне кнігаў, брашураў і газетаў на беларускай, латышскай, літоўскай, расійскай, нямецкай, польскай і ідыш мовах; спрыяць асвеце беларускага народу праз адкрыццё школаў, чытальняў, бібліятэкаў, тэатраў, кніжных шапікаў, клубаў, а таксама дапамагаць незаможным вучням і прадстаўнікам інтэлігенцыі. На правінцыі таварыства мела свае гурткі (філіі), якія мелі за заданне пашыраць сярод беларускую насельніцтва нацыянальную культуру на роднай мове. Дэвізам гурткоў было: "Жыве мова – жыве народ". Паводле Езавітава, таварыства праводзіла працу ў трох асноўных напрамках: 1) пашырэнне сваіх уплываў сярод латгальскіх беларусаў праз арганізацыю рэгіянальных філіяў і аб'яднанне ў іх нацыянальна-свядомай часткі грамадства, 2) інфармаванне латвійскіх уладаў і грамадства аб становішчы беларускай меншасці і ейных культурна-асветных патрэбах, 3) арганізацыя беларускага школьніцтва.

Натуральным прыярытэтам дзейнасці таварыства "Бацькаўшчына" было стварэнне беларускага школьніцтва. Неўзабаве, з першых месяцаў свайго існавання таварыства распачало працу над арганізацыяй беларускіх школаў у Дзвінскім, Люцынскім і Рэжыцкім паветах Латгаліі, а таксама ў Ілуцкім павеце Земгаліі. З мэтай падрыхтоўкі педагагічных кадраў у беларускіх школах ў ліпені 1921 г. у Дзвінску былі арганізаваны 6-тыднёвыя курсы беларусазнаўства для настаўнікаў. Праграма курсаў складалася з лекцыяў па гісторыі Беларусі, гісторыі беларускай літаратуры, гісторыі беларускага адраджэння, геаграфіі Беларусі, а таксама беларускай мове. У жніўні 1921 г. курсы скончыла 20 першых слухачоў, якія атрымала права працаваць у беларускіх школах. Гэтым людзям было наканавана ўвайсці ў гісторыю як першым настаўнікам беларускага школьнцітва ў Латвіі. У верасні 1921 г. працу распачалі першыя 16 пачатковых (4- і 6-класных) школаў на Дзвіншчыне. Восенню 1921 г. пры Міністэрстве асветы быў створаны Беларускі школьны аддзел (кіраўнік Сяргей Сахараў), які ажыццяўляў агульнае кіраванне беларускай школьнай справай і прадстаўляў культурна-асветныя інтарэсы беларускай меншасці ў адносінах з дзяржаўнымі ўладамі. 1 снежня 1921 г. у Дзвінску распачалі працу гадавыя Беларускія дзяржаўныя настаўніцкія курсы, якія сталі кузьняй новых педагагічных кадраў на патрэбы беларускага школьніцтва. Значным дасягненнем беларускага актыву была арганізацыя беларускай гімназіі ў

Дзвінску (кіраўнік І. Краскоўскі), якая распачала працу ў верасні 1922 г. У 1922/23 навучальным годзе беларускае школьніцтва ў Латвіі налічвала 54 пачатковыя і 2 сярэднія школы (гімназіі), у якіх працавала 158 настаўнікаў і навучалася 3 629 вучняў.

Вышэйзгаданыя падзеі мелі вырашальны ўплыў на маладога Алеся Махноўскага. Сям'я Махноўскіх не засталася ў баку ад беларускай справы. Сярод тых, хто адгукнуўся на заклік таварыства "Бацькаўшчына" і ўзяў удзел у арганізацыі і працы беларускага школьніцтва ў Латгаліі знаходзіўся Сцяпан Махноўскі. Улетку 1922 г. ён праслухаў курсы беларусазнаўства і быў прызначаны кіраўніком Дудэльскай пачатковай школы (Дзвінскі павет). У хуткім часе сын падзяліў лёс бацькі. Юнаку было наканавана быць не толькі сведкам, але і актыўным удзельнікам нацыянальна-асветнай працы. З самага пачатку існавання беларускай гімназіі ў Дзвінску Алесь Махноўскі быў ейным вучнем. Улетку 1923 г. адбыўся першы выпуск гімназістаў, сярод якіх знаходзіўся таксама Махноўскі. Акрамя гэтага, ён скончыў вышэйзгаданыя беларускія настаўніцкія курсы ў Дзвінску.

Восеньню 1923 г. Махноўскі, разам з жонкай Антанінай, таксама настаўніцай, распачаў працу ў беларускім школьніцтве ў Латгаліі. Першым месцам працы стала 6-гадовай пачатковая школы ў мясцовасці Пустын. Першыя гады існавання беларускага школьніцтва ў Латвіі былі не толькі перыядам уздыму, але і часам сур'ёзных выпрабаванняў. Нягледзячы на поспехі ў адкрыцці новых школаў хапала таксама праблемаў, з якімі быў вымушаны змагацца беларускі актыў. Дзейнасць беларускага школьніцтва моцна ўскладняла прысутнасць у ім настаўнікаў-небеларусаў. Праз недахоп педагогаў-беларусаў у школах працавалі настаўнікі іншых нацыянальнасцяў. Гэта акалічнасць была прычынай значных праблемаў і нават ставіла пад пагрозу існаванне беларускіх школаў. Некаторыя настаўнікі-небеларусы ставіліся абыякава да нацыянальнага выхавання вучняў, а многія нават дэманстравалі адкрытую варожасць да беларускай справы і адмаўляліся выкладаць па-беларуску. Падбухторанае гэтымі настаўнікамі маласвядомае ў нацыянальным сэнсе мясцовае беларускамоўнае сялянства нярэдка выступала супраць таго, каб іх дзеці наведвалі беларускія школы і адначасова патрабавалі ператварэння іх у рускія. У выніку многія школы ў першыя гады існавання былі перададзены ў падпарадкаванне Рускага школьнага аддзелу альбо Агульнага школьнага дэпартаменту. Не абмінуў гэты лёс і Пустынскую школу, якая апынулася ў Агульным школьным дэпартаменце.

А. Махноўскі працаваў у беларускім школьніцтве да 1934 году. Вядома, што на прыканцы 1920-х г. і на пачатку 1930-х г. ён кіраваў Келаўскай і Савейкаўскай 4-класнымі школамі. Тым часам, жонка – Антаніна Махноўская – кіравала

беларускім камплектам у Ліўчанскай школе, а потым працавала ў Кулаўскай школе. Настаўніцкую працу Махноўскі спалучаў з актыўнай грамадскай працай на ніве беларускасці. Ён прадстаўляў інтарэсы беларускага настаўніцтва ў Дзьвінскай школьнай павятовай управе. Адначасова быў сябрамі беларускіх культурна-асветных таварыстваў – “Беларуская Хата” і “Прасвета” (створана ў 1926 г.). У апошнім выпадку быў першым старшынём арганізацыі. Абодва таварыствы займаліся арганізацыяй беларускіх імпрэзаў і фэстаў, стварэннем хатаў-чытальняў, апекай над беларускімі школамі і дзіцячымі садкамі. Акрамя таго, Махноўскі быў актыўным сябрам Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі (ТБНЛ).

У траўні 1934 г. у Латвіі адбыўся дзяржаўны пераварот, у выніку якога ўлада апынулася ў руках Карліса Ульманіса. Апошні значна абмежаваў нацыянальна-культурную аўтаномію нацыянальных меншасцяў. Аднак нават ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму латвійскія беларусы не былі цалкам пазбаўлены магчымасці нацыянальнай працы. Да канца 1930-х г. працягвала дзейнічаць Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі. Захавалася вельмі не шмат крыніцаў, якія дазволілі б прасачыць дзейнасць Махноўскага ў згаданы перыяд. На падставе ўскосных крыніцаў можна зрабіць выснову, што ў гэты час ён настаўнічаў на Прыдруйшчыне, дзе працаваў да 1939 году. Апрача таго, працягваў утрымліваць сувязі з беларускім актывам, што адбывалася галоўным чынам па лініі ТБНЛ. На прыканцы 1930-х г. арганізацыя значна актывізавала сваю дзейнасць. У гэты час было вырашана пераіменаваць ТБНЛ у Беларускае таварыства ў Латвіі. Арганізацыя пад такой назвай пачала дзейнічаць са жніўня 1939 г. і ставіла сабе за мэту ахапіць сваімі ўплывамі усё беларускае жыхарства Латвіі.

Тым часам, у рэгіёне імкліва мянялася міжнародная і палітычная сітуацыя. Латвія разам з іншымі краінамі Балтыі стала ахвярай палітыкі двух таталітарызмаў – Трэцяга Рэйха і Савецкага Саюза. У жніўні 1940 г. Латвія была інкарпаравана ў склад СССР. З гэтага часу латвійскія беларусы апынуліся ў новай палітычнай рэчаіснасці, якая характызавалася страхам і тэрорам. Праўда, у параўнанні з іншымі нацыянальнымі меншасцямі ў Латвіі, беларусаў у найменшай ступені закранулі сталінскія рэпрэсіі ў 1940-1941 г. Нягледзячы на патрабаванні беларускага актыву аб ўзнаўленні нацыянальна-культурнай аўтаноміі, новыя ўлады не збіраліся ісці яму насустрач. Рэактывацыя беларускага школьніцтва не адпавядала палітыцы савецкіх уладаў. Палітыка СССР у дачыненні да нацменаў была накіравана на іх асіміляцыю і саветызацыю. У Латгаліі і Земгаліі адчыняліся рускамоўныя школы, а тамтэйшыя беларусы мусілі задаволіцца толькі беларускай мовай як дадатковым прадметам. У адной з такіх школаў працаваў Махноўскі. У

1940-1941 г. ён займаў пасаду дырэктара няпоўнай сярэдняй школы ў Ілуцкім павеце.

У выніку маланкавага наступлення нямецкіх войскаў на пачатку ліпеня 1941 г. тэрыторыя Латвіі была занята Вермахтам. У краіне ўсталяваўся нямецкі акупацыйны рэжым, які на большай частцы Латвіі доўжыўся тры гады. Пад нямецкай акупацыяй у Латвіі адбылося ажыўленне мясцовага беларускага руху. Галоўным чыннікам, які гэтаму паспрыяў, была нацыянальная палітыка акупантаў. Кіруючыся халодным палітычным разлікам і жаданнем падначаліць сабе захопленыя землі ўлады Трэцяга Рэйху дазволілі існаванне пэўнай культурна-асветнай аўтаноміі для беларусаў. Акупанты лічылі, што адпаведнае стаўленне да беларускай меншасці спрычыніцца да ўзмацнення сярод яго пранямецкіх настрояў, тым часам, як магчымая дыскрымінацыя з боку тытульнай нацыі зробіць іх падатнымі на бальшавіцкую прапаганду.

Рэалізуючы вышэйзгаданую палітыку было вырашана дазволіць існаванне органаў даверу беларускай меншасці. Восенню 1941 г.у Рызе быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) (ад сакавіка 1942 г. – Беларускае аб'яднанне, БА) у Генеральнай акрузе "Латвія". Арганізацыю ачоліў Кастусь Езавітаў. Згодна са статутам арганізацыя ахоплівала ўсю тэрыторыю Генеральнай акругі "Латвія", а галоўнай мэтай арганізацыі было "*злучэнне ўсіх беларусаў, што жывуць на абшары б. латышскага гаспадарства дзеля супольнае працы і ўзаемнага падтрымання ў культурным матар'яльным сэнсе*".

Пасля таго, як БНК распачаў працу ў Рызе, у Латгаліі пачалася праца па стварэнні рэгіянальных аддзелаў арганізацыі. Асноўны цяжар арганізацыйнай справы быў ускладзены на мясцовую беларускую інтэлігенцыю. Алесь Махноўскі не збіраўся заставацца ў баку гэтай працы. Улетку 1941 г. ён заангажаваўся ў стварэнне аддзелаў БНК на Дзвінчыне. Праўда, праца рухалася вельмі павольна. Нягледзячы на тое, што ў Дзвінску пражывала група нацыянальна свядомай беларускай інтэлігенцыі, мясцовы асяродак працяглы час не праяўляў ніякай актыўнасці. Адной з прычынаў самаарганізацыі была няпэўная будучыня і няўпэўненасць у тым, якую палітыку будуць ажыццяўляць акупанты. Пра настроі дзвінчукоў можна меркаваць па лісце Махноўскага да К. Езавітава (18 жніўня 1941 г.), у якім чытаем: "*Альбо мы павінны атрымаць магчымасць працаваць хоць у больш-менш спрыяючых варунках, альбо кінуць гэтае балота і перайсці працаваць на Беларусь*". Аднак арганізацыйная праца прынесла свае вынікі. На працягу першага году нямецкай акупацыі ўдалося стварыць філіі камітэту ў Дзвінску, Краславе, Пасіене, Індры і Зілупе. Алесь Махноўскі ўвайшоў у склад кіраўніцтва Дзвінскага аддзела БНК і заняў пасаду сакратара ўправы. Аналіз даступных крыніцаў дазваляе

сцвярджаць, што ён адыгрываў далёка не апошнюю ролю ў дзейнасці беларускага дзвінскага асяродка.

Аднак асноўным клопатам Алеся Махноўскага стала беларускае школьніцтва. Нямецкія акупанты дазволілі, каб беларуская моладзь у Латвіі атрымоўвала пачатковую і сярэднюю асвету на роднай мове. У выніку мясцовы беларускі актыў атрымаў шанец на адраджэнне ў Латгаліі школьніцтва, якое не існавала тут з 1934 г. Улетку і восенню 1941 г. распачалася праца па арганізацыі беларускіх школаў у Латгаліі і Земгаліі. Гэту працу беларускага актыву належыць прызнаць вельмі эфектыўнай. У Дзвінску арганізацыяй школаў займаўся Махноўскі, якому на працягу ліпеня і жніўні 1941 г. ўдалося сабраць 540 заяваў да бацькоў, якія жадалі, каб іх дзеці наведвалі беларускія школы. Да пачатку 1942 г. у Латвіі дзейнічалі 32 пачатковыя (5- і 7-гадовыя) школы, якія наведвала каля 3 тыс. вучняў. У 1942/43 г. навучальным годзе працавала ўжо 35 беларускіх школаў, у якіх навучалася 3 432 вучняў і працавала каля 100 настаўнікаў. Маштаб беларускай школьнай дзейнасці не можа не ўражваць, паколькі ён нічым не саступаў паказчыкам 1921-1934 гг., а ў дачыненні да пазнейшага перыяду – знаходжання краіны пад панаваннем рэжыму Карліса Ульманіса (1934-1940 гг.), а потым пад савецкай акупацыяй (1940-1941 гг.) – быў непараўнальна большы.

З мэтай кіравання працай беларускага школьніцтва ў снежні 1941 г. была створана пасада інспектара беларускіх школаў у Латгаліі і Земгаліі. Першым інспектарам быў прызначаны М. Дзямідаў. Аднак ужо ў лютым 1942 г. ён быў адкліканы з гэтай пасады ў сувязі з ад’ездам ў Люцыншчыну. Частка беларускага актыву прапанавала, каб пасаду інспектара заняў К. Езавітаў. Аднак апошні адмовіўся падтрымаўшы кандыдатуру Махноўскага, якога вельмі цаніў і паважаў за актыўнасць на грамадскай ніве. У лісце Езавітава да Махноўскага чытаем: “*Мой персанальны пагляд гэткі. На пасаду гэтую пажаданы малады беларус-вучыцель, свядомы і энергічны, не палахлівы і не лісліва, але і не зазанты і не чванлівы, каб мог спакойна рэпрэзентаваць беларусаў, а разам з тым, каб і быў педагог і канцылярыю ведаў і грамадскую жылку меў. Вымаганняў, як бачыце, шмат, бо праца паважная і справа ідзе не аб гонару і акладзе, але аб нацыянальнай нашай асвеце. Як і заўсёды, каля гэтае пасады курыцца смуродны дым дробных самалюбстваў, атручваючы паветра і засцілаючы “дымавую завесаю” самы сэнс справы ды самую нашую справу. Высоўваюць зноў і зноў маю кандыдатуру, хто шчыра, а хто і з тактычных мытываў, маючы таемную надзею, што яна: або “не пройдзе”, або я сам адмоўлюся. Я – заняты іншымі справамі: руплюся аб кніжках для школ, бо пакуль што аб гэтым іншыя не думаюць і чакаюць, што кніга сама зваліцца ім з неба. У звязку з гэтым я павінен быць у Рызе. Павінен я быць тутака*

*яшчэ і таму, што тут Цэнтральнае Праўленне і наагул – цэнтр. Таму быць інспектарам на Дзвінскі вокруг я адмаўляўся ўжо некалькі разоў і рашуча адмаўляюся зараз. З тае-ж прычыны не магу я быць і ў Дзвінскай гімназіі. Супраць Вашае кандыдатуры, зразумела, ёсць галасы, але яны бываюць супраць кождае кандыдатуры. Куды важней тое, што вы самі адчуваеце: калі адчуваеце, што справа Вам па сілах і што Вы з ёй не будзеце таптацца, а павядзеце энергічна ўперад, дык і вядзіце яе адразу, нягледзячы на тое, ці вы толькі часовы ці вы ўжо назаўсёды, бо гэта, па-перш, не мае абсалютна ніякое розніцы для ходу справы, а па-другое, гэта дасць Вам пэўныя перавагі, бо Вам заўсёды "забяспечаны тыл" тэю пасадаю, якую Вы займаеце, як кіраўнік школы; па-трэцяе-ж, нічога назаўсёды на свеце не бывае, гэта закон развіцця. Дык працуйце шчыра і энергічна!*".

25 лютага 1942 г. Махноўскі прыступіў да выканання службовых абавязкаў. Сядзіба інспектара знаходзілася ў Дзвінску, на вул. Мірнай 38. Інспектар беларускіх школаў быў падначалены рэферэнту асветы і культуры ўправы гебітскамісара Дзвінска немцу Рольфу Вінбергу. Пачаткі працы Махноўскага па пасадзе школьнага інспектара былі даволі цяжкімі. Вось якім чынам ён апісваў момант прыняцця абавязкаў ад свайго папярэдніка: "*Хаос. Дабіваўся я ад М.[ікалая]Я.[навіча] хоць спіса вучыцялёў, дзе былі-б пададзены супраць кожнага з якой датай і ў якую школу вучыцель прызначаны. Пакуль не дабіўся. Копій выходзячых папер няма. Вучыцялі-беларусы не атрымалі пенсіі за студзень, не кажучы аб лютым. Спісы на пенсію ляжаць у інспектараце (беларускім), бо М.Я. "не мае часу" на іх напісаць (...) Некаторыя вучыцялі не атрымалі пенсіі і за 4 месяцы (...). Кожны дзень 5-6 тэлефонных званкоў – грошы! У першую чаргу вазьмуся за гэта. 28 II М.Я. зусім у інспектараце не з'явіўся, нягледзячы на тое, што ўмовіліся на 9 гадзін зрання. Сродкі БНК жалкія, бо М.Я. іх раскалашмаціў і ніякіх рахуб не даў*". У красавіку 1942 г. А. Махноўскі скардзіўся кіраўніку БА, што ў інспектараце адсутнічае справавод, бухгалтар, машыніст-перакладчык і канцылярскі супрацоўнік.

Нягледзячы на вышэйзгаданыя цяжкасці іспектар не ўхіліўся ад адказнасці і ўскладзеных на яго абавязкаў. Ён не мог наракаць на адсутнасць працы. Да абавязкаў інспектара належыла арганізацыі новых школаў і дагляд за ўжо дзеючымі. Пераважная большасць беларускіх размяшчаліся ў незаможных вёсках, дзе матарыяльныя ўмовы былі вельмі цяжкімі. У выніку некаторыя школы знаходзіліся ў гаротным стане: адчуваўся недахоп мэблі і неадпаведнае абсталяванне будынкаў. Больш за тое, некаторыя школы ў паўднёвай Латгаліі часта былі ахвярамі нападаў з боку савецкіх партызанаў. Большасць беларускіх школаў

знаходзілася на Дзвіншчыне, тым часам, як жадала быць лепшага справа арганізацыі беларускамоўнай асветы ў Ілуцкім павеце Земгаліі. У красавіку 1942 г. Махноўскі наведаў Ілукшчыну з мэтай арганізацыі там беларускай школьнай справы. У вынікуў Ілуцкім павеце ўдалося адчыніцьсем беларускіх школаў, якія ў 1942/43 навучальным годзе наведвалі 523 вучні і працавала 18 настаўнікаў. Падчас кіравання інспектаратам Махноўскім беларускае школьніцтва ў Латвіі мела яшчэ адзін істотны поспех. У 1942/43 навучальным годзе распачала працу беларуская гімназія ў Зілупе. Рабіліся таксама захады па арганізацыі гімназіяў у Дзвінску і Пасіене, аднак яны не прынеслі вынікаў.

Праца школьнага інспектара не была пазбаўлена клопатаў і непрыемнасцяў, якія былі вынікам складаных міжнацыянальных і палітычных адносінаў у Латгаліі. Так, напрыклад, 12 снежня 1942 г. генеральны дырэктар асветы генеральнай дырэкцыі зажадаў звальнення А. Махноўскага з займанай пасады фармуючы ў яго адрас цяжкія абвінавачванні ў шкодніцкай дзейнасці і свядомым ўвядзенні ў зман органаў школьнага кантролю. Паводле латышскага дырэктара А. Махноўскі 5-кротна завышаў колькасць вучняў у беларускіх школах, каб пазбегнуць іх закрыцця. У якасці прыкладу падавалася народная школа ў Граверы (Аўлейская воласць), якая дзейнічала нягледзячы на тое, што, на думку чыноўніка, у ёй было толькі 13 вучняў. Згодна з правам яе належыла зачыніць, а вучняў перанесць у суседнюю школу ў Дзудзелях. Замест гэтага інспектар беларускіх школаў прыхаваў інфармацыю наконт сапраўднага колькаснага складу школы. Генеральны дырэктар выдаў загад аб закрыцці гэтай школы, але інспектар А. Махноўскі яму не падпарадкаваўся. Акрамя таго, латышскі генеральны дырэктар лічыў, што А. Махноўскі беспадстаўна дамагаўся адкрыцця новых беларускіх школаў і дзіцячага садка ў Краславе, бо ў рэчаіснасці там не было адпаведнай колькасці дзяцей-беларусаў. На думку генеральнага дырэктара асветы дзеянні А. Махноўскага прыносілі школу школьнай справе, паколькі праз захаванне нерэнтабельных школаў і стварэнне новых месцаў працы, там, дзе не было ў іх патрэбы, адбывалася марнаванне значных грашовых сродкаў.

Вышэйзгаданыя падзеі былі адлюстраваннем шырэйшых працэсаў, якія адбываліся ў латышска-беларускім памежжы. У сапраўднасці ішло своесаблівае змаганне паміж беларускімі і латвійскімі дзеячамі за “сэрцы і душы” тутэйшага славянскамоўнага сялянства, якога нацыянальная свядомасць знаходзілася ў стадыі фармавання. Як вядома, яшчэ ў міжваенны час, асабліва пасля 1934 г., латвійскія дзеячы рабілі захады, каб надаць Латгаліі як мага латышскае нацыянальнае аблічча, што было гарантам захавання рэгіёну ў складзе латвійскай дзяржавы. Стаўленне латвійскага боку можна зразумець, паколькі ў Латгаліі ў міжваенны час існавала

рэальная праблема інтэграцыі гэтага рэгіёну з астатняй часткай латвійскай дзяржавы. У паўднёвалатгальскіх валасцях толькі ў другой палове 1930-х г. латышам удалося дасягнуць перавагі ў мясцовым самакіраванні. Натуральна, што ва ўмовах нямецкай акупацыі латышскі бок намагаўся не дапусціць да страты з такім цяжарам здабытых уплываў. Латышскі і беларускі бакі разумелі, што будучыня рэгіёну можа залежыць ад нацыянальнага складу яго жыхароў, а тым часам, нацыянальна маласвядомае мясцовае сялянства было схільна пад уплывам вонкавых чыннікаў падаваць розную нацыянальнасць. Неўзабаве, як беларускія, так і латышскія актывісты, збіралі подпісы ад бацькоў аб тым, што яны належаць да латышскай ці беларускай нацыянальнасці і жадаюць высылаць сваіх дзяцей у адпаведныя школы.

Неабходна аднак адзначыць, што Махноўскі на пасадзе школьнага інспектара не адзначаўся радыкалізмам у дачыненні да недобразычліўцаў беларускай справы. Ён намагаўся захоўваць далікатнасць і такт у адносінах як з прадстаўнікамі латвійскага самакіравання, так і нямецкай акупацыйнай адміністрацыі. Дзеяч лічыў, што не належыць фарсаваць школьнага пытання, каб пазбегнуць непатрэбнай напругі. Ён сцвярджаў, што трэба дзейнічаць па прыкладу беларусаў у Літве, дзе ў паразуменні з літоўцамі і немцамі беларусам было перададзена шмат школаў. 18 жніўня 1942 г. А. Махноўскі пісаў К. Езавітаву: “*Я ўжо звярнуўся з дакладам у Дзвінскі гебітскамісарыят з гэтым, і хутка надышлю і ў Мітаву. А Вам і рэферэнту не шкодзіла-б звярнуцца у Рэйхскамісарыят і да Адольфі. “Вольнае-ж змаганне” па адчыненню школ вызывае толькі варожыя настроі і пасягненні на нас латышоў, што надта балюча адгукнулася на вучыцялёх нашых, так і на сялянстве. Сяляне цэлымі вёскамі перапісываюцца ў латышы (...) Дайце-ж нарэщце зразумець, што не да бясконца можа змагацца тутака ў Латвіі невялічкая кучка інтэлігенцыі за свае правы з арганізаванай сілай (урадам і паліцыяй) ульманаўскай Латвіі*”.

Гісторыя захавала сведчанні пра выпадкі пераследу беларускіх настаўнікаў з боку мясцовага самакіравання і дапаможнай паліцыі. Са скаргаў, якія прыходзілі ў 1942–1944 г. у Беларускае аб’яднанне ў Рызе ад мясцовых актывістаў гэтай арганізацыі вынікала, што ў правінцыі частай з’явай быў адкрыты ціск на педагогаў-беларусаў. Многія настаўнікі станавіліся ахвярай вывазу на прымусовыя працы. Здаралася, што некаторыя педагогі затрымліваліся некалькі нават разоў. Інспектар Махноўскі мусіў абараняць беларускае школьніцтва перад вышэйзгаданымі нападамі і рэпрэсіямі. 15 студзеня 1943 г. ён разам з кіраўніком Дзваінскага аддзела БА А. Якубецкім сустрэўся з наместнікам гебітскамісара ў Дзвінску і ўручыў яму ліст з просьбай вызваліць спад варты беларускіх настаўнікаў. У выніку частка

затрыманых была вызвалена, але іншыя вывезены на працу ў Эстонію. Рэпрэсіі ў дачыненні да настаўніцтва аднак не спыніліся і адбываліся ў пазнейшы час. У жніўні 1943 г. паліцыя арыштавала 6 беларускіх настаўнікаў краслаўскай, дземанаўскай, юхнавецкай і гараўскай школаў. У гэтых ж час былі, таксама, затрыманыя 4 вучні індраўскай гімназіі. У сувязі з гэтымі інцыдэнтамі інспектар А. Махноўскі зноў быў вымушаны звярнуцца па дапамогу да Дзвінскага гебітскамісара. Яму ўдалося дамагчыся вызвалення кіраўніка беларускай школы ў Краслаўцы і настаўніцы гэтай жа школы, якія былі высланы на працу.

Чарговай праблемай у функцыянаванні беларускіх школаў было тое, што не заўсёды настаўнікі ў дастатковай ступені валодалі беларускай мовай. Бяручы над увагу працяглую адсутнасць у Латгаліі беларускага школьніцтва не павінна здзіўляць тое, што ў некаторых школах педагогі ў зносінах з вучнямі карысталіся латышскай ці расійскай мовамі. Некаторыя беларускія дзеячы (напрыклад, Андрэй Якубецкі) абураліся такім становішчам. Больш за тое, гэта не адпавядала таксама латышскім школьным уладам. У сувязі з гэтым генеральны дырэктар асветы ў звароце да рэферэнта асветы Генеральнай акругі “Латвія” (12 снежня 1942 г.) патрабаваў выдання адмысловага загаду аб тым, каб заняткі ў беларускіх школах адбываліся на роднай мовы. У сваю чаргу інспектар беларускіх школаў ставіўся да гэтай справы значна больш памяркоўна. 4 снежня 1942 г. А. Махноўскі пісаў да К. Езавітава: “*Мне добра вядомы недахопы кадраў вучыцельскіх і тая вучнёўская маса, якая запаўняе гэтую школу, але я лічу, што мы зараз заняты будаўнічай працай і павінны асцярожна і ўважліва падыходзіць і да differently рознашорснай вучнёўскай масы, і да набранага вучыцельскага персанала. Мне каштавала вялікіх высілкаў арганізацыя гэтае школы і я лічу, што такі падыход грам.[адзяніна] Якубецкага да справы беларускасці, які ён ўжывае, можа разагнаць вучняў і вучыцялёў. Так востра ставіць пытанні, закранутыя грам.[адзянінам] Якубецкім, мы маглі-бы тут у Дзвінску толькі пасля некалькі гадоў працы і пры іншых абставінах і варунках. Беларуская школа зараз перапоўнена беларусамі быўшымі на працягу многіх дзесяцігоддзяў пад польскімі ўплывамі і не адразу можна ставіць нацыянальнае пытанне гэтак востра, як ставіць гэта грам.[адзянін] Якубецкі. Павінен Вам давесці да ведама, што гэта спольшчаная беларуская вучнёўская маса набрана з ведама Дзвінскага Гебітскамісарыята, бо і яны таксама, і я, перакананы ў іх беларускім паходжанні. Няма зараз у нас кім замяніць і тых вучыцялёў, якія ў школе працуюць. Прагнаць – гэта рэч вельмі простая, але сабраць – не так лёгка. Я безумоўна ў сувязі з гэтым схаджу на рэвізію, праслухаю лекцыі паасобных вучыцялёў, спакойна і па сяброўску зраблю ім некаторыя заўвагі, але агалошываць паперу спадарада Якубецкага, альбо рабіць “захады”, каб людзі*

*адразу перарадзіліс перятварыліс – не буду. Нападкі на Гайлевіча, што датычыцца школьнага жыцця, дарэмныя, ён выкладаў і выкладае па беларуску, але некаторы пераход ад польскага тэксту малітв да беларускага павінен існаваць, бо ломка ў школьным жыцці не павінна быць войстрай. Калі грам.[адзянін] Камаржынскі не падыходзіць на пасаду кіраўніка, дык трэба гэта сказаць яму спакойна і па сяброўску. Але я павінен зазначыць, што ў сучасны момант у нас няма кім яго замяніць і мы павінны быць задаволены яго працай. Калі патрэбна даць якія ўказанні, патрэбна даць, але не ў форме цыркуляраў і адношанняў. Спадар Якубецкі па свайму здароўю не можа і не хоча заняць пасаду кіраўніка Дзвінскае школы. Выходзіць так: самі мы не хочам працаваць, а крытыкуем і зневажаем працу другіх. Другія дзе вось не дасягнулі тэй вышыні, якую патрэбна было-б дасягнуць! Гэтак лягчэй за ўсё рабіць*".

Сур'ёзнай перашкодай на шляху да нармальнай працы беларускага школьніцтва ў Латвіі была адсутнасць дастатковай колькасці адпаведна падрыхтаваных настаўнікаў. Сітуацыю пагаршаў факт, што на прыканцы 1942 г. генеральны камісар Беларусь Вільгельм Кубэ выдаў распараджэнне аб тэрміновым вяртанні ў Беларусь тых нешматлікіх настаўнікаў, якія ў 1942/43 навучальным годзе выехалі ў Латвію і знайшлі працу ў тутэйшым школьніцтве. Інспектар беларускіх школаў А. Махноўскі прасіў старшыню Беларускага аб'ядання хадайнічаць перад уладамі Генеральнай акругі "Латвія", каб гэтыя настаўнікі надалей працавалі ў Латгаліі.

Беларускае школьніцтва змагалася таксамі з незахопам падручнікаў. Часткова дэфіцыт быў пакрыты шляхам атрымання навучальнай літаратуры з Генеральнай акругі "Беларусь". Аднак гэта была кропля ў мовы патрэбаў. У сувязі з гэтым ў сярэдзіне 1942 г. К. Езавітаў ініцыяваў сярод настаўнікаў збор сродкаў на выдавецкі фонд. Кожны настаўнік ахвяроўваў на справу адзін месячны заробак. У гэтай справе К. Езавітаву актыўна дапамагаў інспектарат беларускіх школаў. Пры гэтым часамі ўдавалася сабраць нядрэнныя сумы. 21 верасня 1942 г. А. Махноўскі пераслаў Езавітаву 800 марак на выданне падручнікаў. У чэрвені 1943 г. інспектар беларускіх школаў паведамляў, што ён атрымаў ад настаўніцтва Дзвіншчыны яшчэ 1550 марак. Праца прынесла свой плён і ў сярэдзіне 1943 г. накладам 3 тыс. асобнікаў выйшла чытанка К. Езавітава "Беларуская школа" (передрук даваеннага выдання). Выданне аказалася вельмі памоцным у педагагічнай працы, хоць не было пазбаўлена пэўных хібаў. У лісце да А. Махноўскага выдавец скардзіўся, што праз малы наклад кошты выдання былі вельмі вялікія. Больш за тое, тэкст рыхтавалі да друку латышскія наборшчыкі, якія не ведалі беларускай мовы, што адбілася на

якасці. Бяручы пад увагу нешматлікасць мясцовай выдавецкай прадукцыі беларускія школы надалей былі залежныя ад даставаў з-за межаў Латвіі.

11 кастрычніка 1943 г. інспектар А. Махноўскі звярнуўся да Язэпа Найдзюка, тэхнічнага кіраўніка Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі з просьбай даслаць шэраг кнігаў на патрэбы беларускіх школаў у Латвіі. У першую чаргу ён звяртаў увагу на тое, што існуе запатрабаванне на выданне Антона Лёсіка "Беларускі Правапіс". У лістападзе 1943 г. А. Махноўскі і кс. Язэп Гайлевіч накіравалі ліст да кс. Адама Станкевіча, у якім прасілі даслаць у Латвію 3-4 тыс. асобнікаў беларускамоўнага малітоўніка. Аўтары лісту прасілі таксама згоды на перавыданне даваеннага малітоўніка "Голас душы. Кніжка да набажэнства для беларусаў-каталікоў (Вільня 1934)".

Працу школьнага інспектара Махноўскаму даводзілася спалучаць з грамадскай і культурнай актыўнасцю. Па-ранейшаму ён з'яўляўся сакратаром управы Дзвінскага БА. Як адзін з наймалодшых і адначасова найактыўнейшых сяброў БНК-БА на Дзвіншчыне Махноўскі ўдзельнічаў ва ўсіх пачынаннях арганізацыі на тэрыторыі Латгаліі. Адным з накірункаў працы БНК-БА была агітацыя народнай культуры шляхам арганізацыі тэатральных пастановак і выступаў. Пры ўдзеле Махноўскага ў Дзвінску ў 1942 г. была створана беларуская драматычная трупа. Ён асабіста звяртаўся да беларускага актыву ў Менску і Вільні з просьбай дапамагчы дзвінчукам наладзіць тэатральную працу на належным узроўні. Акрамя таго, не без яго ўдзелу ў Дзвінску адбыліся гасцінныя выступы актораў з-за мяжы. Поспехам можна лічыць арганізацыю латгальскіх гастроляў Міхася Забэйды-Суміцкага. Рабіліся таксама спробы наладзіць выданне беларускага перыёдыка ў Дзвінску. На пачатку 1943 г. у Генеральнай акрузе "Латвія" адбыўся перапіс жыхарства. У сувязі з гэтым 30 студзеня 1943 г. А. Махноўскі заклікаў кіраўніцтва БА паруціцца пра ўключэнне беларусаў у склад лічыльных камісіяў. На пачатку 1943 г. А. Махноўскі супольна з К. Езавітавым падрыхтаваў мемарыял да генеральнага камісара ў Рызе і Дзвінскага гебітскамісара, які ўтрымліваў адпаведную просьбу да нямецкіх уладаў.

Працу на пасадзе школьнага інспектара і сакратара Беларускага аб'яднання спынілі ў сярэдзіне 1944 г. імгненныя змены на нямецка-савецкім фронце. Улетку 1944 г. савецкія войскі занялі Латгалію. У выніку беларускае школьніцтва, якое дзейнічала тут пад нямецкай акупацыяй спыніла сваё існаванне. Некаторыя мясцовыя беларускія актывісты мусілі ратаваць жыццё і пакінуць бацькаўшчыну. У абліччы новай сітуацыі восеньню 1944 г. Махноўскі разам з сям'ёй рушыў на захад. Беларус падзяліў лёс іншых уцекачоў з цэнтральнай і ўсходняй Еўропы, якія апынуліся ў лагерах для перамешчаных асобаў (ДП). Падчас знаходжання на чужыне ў яго жыцьці здарылася вялікая трагедыя. У ваколіцах Брэгенца (Аўстрыя) трагічна

загінуў яго адзіны сын. Нягледзячы аднак на асабістую трагедыю ён не спыніў сваёй грамадска-палітычнай працы. Наадварот, чынна заангажаваўся ў дзейнасць беларускай незалежніцкай эміграцыі. Пасьля расколу беларускага лагера на прыхільнікаў БЦР і Рады БНР Махноўскі далучыўся да апошніх. 24-25 красавіка 1948 г. у Остэргофэне адбыўся агульны з’езд дэлегатаў беларускіх лагераў і групаў, на якім быў створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт – Цэнтральнае прадстаўніцтва беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. У склад кіраўніцтва новай арганізацыі ўвайшоў таксама Махноўскі. Ён таксама ўваходзіў у склад Прэзыдыума Рады БНР. Належыў да ліку бліжэйшых паплечнікаў Міколы Абрамчыка, аб чым сведчыць факт, што ён быў прызначаны наменікам прэзідэнта БНР. Восеньню 1948 г. па даручэнню ўраду БНР Махноўскі ініцыяваў перамовы з латышскай незалежніцкай эміграцыяй – Латвійскай цэнтральнай радай. Невыпадкова – як латвійскі беларус – увайшоў у склад беларускай дэлегацыі падчас сустрэчы з латышскімі прадстаўнікамі, якая адбылася 20 лістапада 1948 г. у мясцовасці Эслінген.

У 1949 годзе Махноўскі як многія беларускія “дыпісы” эміграваў за акіян. У якасці сталага месца жыхарства абраў ЗША. Апынуўшыся на амерыканскай зямлі ён не забыўся пра суродзічаў, якія заставаліся ў лагерах ДП. Алесь Махноўскі дапамагаў дыпісам у атрыманні дазволу амерыканскіх уладаў на пераезд у ЗША рыхтуючы ім запрашэнні. За акіянам ён не пераставаў браць удзелу ў працы Рады БНР. Неаднаразова кіраваў працамі пасяджэнняў сесіяў Рады, якія адбываліся на пачатку 1950-х г. На Шостай сэсіі Рады БНР (1951-1952) быў абраны кіраўніком Выканаўчага органу. Тады ж ён увайшоў у склад камісіі Рады БНР для апрацавання тэзісаў, якімі павінны былі кіравацца прадстаўнікі Рады БНР у дачыненнях з расійскімі антыкамуністамі. У 1953 г. Махноўскі атрымаў ад кіраўніцтва Беларускага кангрэсавага камітэту Амерыкі запрашэнне да ўдзелу ў падрыхтоўцы да склікання 1-га Усеэміграцыйнага кангрэсу.

Неабходна адзначыць, што – як і большасці тагачасных амерыканскіх беларусаў – Махноўскаму даводзілася спалучаць грамадска-палітычную актыўнасць з цяжкай фізічнай працай, каб пратрымаць сям’ю. Пры гэтым паступова пагаршаўся стан здароўя беларускага дзеяча і ягонай жонкі. На пачатку 1950-х ён перанёс складаную аперацыю. 8 лютага 1953 г. ён пісаў да Віталя Кажана: “*Апошні час (на Коляды) сядзеў у цёмным пакоі, бо хворае было вока. Папала істружка зялезная з машыны. Пару тыдняў прахварэў, ня мог спаць лежучы, а толькі седзючы, бо ад прыліва крыві к воку яно дужа балела. Зараз лепш, але пэўны, што ня будзе бяльма, будзе толькі праз 4 месяцы. Праца для мяне цяжкая, але што-ж зробіш. Задаволены, што яна ёсьць. Жонка ўсё мучаецца з артрытам. Усе шпацыры й лекі*

*даюць толькі аблягчэньне на кароткі час, а не вылячэньне. Часам працуе, часам не*".

У выніку ўнутранага крызісу Рады БНР і непаразуменняў сярод радных у сярэдзіне 1950-х г. Алесь Махноўскі разам з шэрагам іншых актыўных сяброў цалкам адыйшоў ад палітычнай дзейнасці. Аднак адмова ад палітычнай працы зусім не азначала спынення ўдзелу ў беларускім руху. Па-ранейшаму ён працягваў удзельнічаць у нацыянальна-культурным жыцці беларускай грамады ў Амерыцы. Прозвішча Алеся і Антаніны Махноўскіх можна знайсці ў спісе ахвярадаўцаў, дзякуючы якім у 1957 г. быў набыты будынак на Брукліне (*401, AtlanticAvenue*), у якім размясцілася галоўная святыня Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) у ЗША – сабор Св. Кірылы Тураўскага.

Алесь Махноўскі адыйшоў у лепшы свет 19 кастрычніка 1967 г. Апошні свой прытулак знайшоў на беларускіх могілках у Іст-Брансьвіку пры праваслаўнай парафіі Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ (штат Н'ю Джэрсі). Вось якім чынам пра паховіны Махноўскага пісаў яго даўні сябра іншы латвійскі беларус Пятро Міранoвіч: "*У сонечны дзень кастрычніка ён адбыў апошняе падарожжа на беларускія могілкі ў Іст-Брансьвіку. Тут яго ў апошні раз сустрэла і праводзіла з сумнай песьняй "Спі пад курганам" вялікая беларуская грамада. Хай будзе Яму вечная памяць!'*"".

**References**

Архіваліі

Беларускі дзяржаўны архіў музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛіМ)

Ф.3 – Калекцыя дакументаў аддзела рукапісаў Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў г. Вільня

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

Ф. 458 – Кастанцін Барысавіч Езавітаў

Bundesarchiv in Berlin-Lichterfelde (Федэральны архіў), Берлін-Ліхтэрфэльдэ

R 92 - Abteilung für Bildung und Kulturdes Generalbezirk Lettland (Дэпартамент асветы і культуры Генеральнай акругі Латвія)

LatvijasValstsvēstures arhīvs (LVVA)

F. P-712 – Baltkrievijas sabiedrība (Беларускае аб'яднанне ў Генеральнай акрузе Латвія)

F. 2125 – Mazākumtautībuizglītībaspārvaldes. Baltkrievuizglītībaspārvalde (Упраўленне асветы нацыянальных меншасцяў. Беларускае асветнае ўпраўленне)

Апрацаванні

Беларускае жыцьцё ў Латвіі// Раніца. 1942. 22 лютага. С. 4.

Гардзіенка, Алег. Беларуская Цэнтральная Рада: стварэньне, дзейнасьць, заняпад. Менск, 2016.

Гардзіенка, Наталля, Юрэвіч, Лявон. Рада БНР (1947-1970): Падзеі. Дакументы. Асобы. Менск, 2013.

Езавітаў, Кастусь. Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства «Бацькаўшчына» ў Латгаліі і ягоная роля ў справе стварэньня беларускае школы ў Латвіі// Беларуская Школа ў Латвіі. 1932. №1(11).

Езавітаў, Кастусь. Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва «Бацькаўшчына» ў Латвіі. Рыга, 1932.

Езавітаў, Кастусь. Беларусы ў Латвіі.Рыга, 1927 [перадрук: Нью-Ёрк – Мінск 2013].

Екабсонс, Эрик. Белорусы в Латвии в 1918-1940 годах / Беларуская дыяспара як пасярэдніца ў дыялогу цывілізацый. Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў. Мінск, 2001.

Екабсонс, Эрык. Беларусы ў Латвіі ў часы савецкай і нямецка-фашысцкай акупацыі (1940–1945)// Беларускі Гістарычны Агляд. 2006. Т. 13. Сш. 2.

К 5-ці гадоваму юбілею Дзьвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі // Школьная Праца. 1926. №6.

Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Менск, 2017.

Крывіцкія руны. Вып. 2: Беларускі культурны мацярык у Латвіі / укл.: М. Казлоўскі і С. Панізьнік. Менск, 2017.

Статут Беларускага аб'яднаньня (у ген. кам. Латвіі)//Раніца. 1942. 14 чэрвеня. С. 2-3.

Туронак, Юры. Беларуская кніга пад нямецкім кантролем / Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня, 2006.

**Jerzy Grzybowski: Ales Makhnouski (1902-1967)**
**(*magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p. 22-37, www.sakavik.net*)**

Ales Makhnouski (1902-1967), Belarusian public figure and educator, belongs to the famous Belarusian national activists, who came from Latgale (Latvia). He graduated from Belarusian teacher' courses in Dzvinsk in 1923 and worked as a teacher in several Belarusian schools in Latgale (1923-1934). In 1941-1944, he was the member of Belarusian National Committee in Latvia and worked as a school inspector. After WWII, he migrated to the USA where he was the member of the Rada BNR and an activist in Belarusian organizations.

**Юрий Грибовский: Алесь Махновский (1902-1967)**
*(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019 г., выпуск 24, стр. 22-37, www.sakavik.net)*

Алесь Махновский (1902-1967), белорусский общественный деятель и педагог, принадлежит к известным белорусским национальным деятелям, походившим из Латгалии (Латвия). Он окончил белорусские педагогические курсы в Двинске в 1923 году и работал учителем в нескольких белорусских школах в Латгалии (1923-1934). В 1941-1944 гг. он был членом Белорусского национального комитета в Латвии и работал школьным инспектором. После Второй мировой войны он переехал в США, где был членом Рады БНР и активистом белорусских организаций.

КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ, №24, сьнежань 2019 ISSN 2562-9506

**Якуб Філіпавіч Рапецкі: Маё жыццё і духоўная служба** *(аўтабіяграфія)*

Я беларус, які нарадзіўся 30 траўня 1908 года ў вёсцы Новы Дварэц Палескага ваяводства пад Польшчай (сёння гэта ў Брэсцкай вобласці нашай Беларусі) у незаможных бацькоў-земляробаў. Па веравызнанні яны былі праваслаўныя і з дзяцінства выхоўвалі мяне ў сваёй веры, што значыць, навучылі мяне маліцца і выконваць розныя абрады.

У 1924 годзе, калі мне было ўжо 16 гадоў, у нашай мясцовасці разнесліся погаласкі, што ў адной з суседніх вёсак адзін чалавек, які вярнуўся з бежанства, у жылых дамах праводзіць мітынгі ды прапаведуе нейкую новую веру, якія некаторыя называюць баптысцкай, калі іншыя – штундысцкай. Пры першай магчымасці я адведаў тую ж вёску ды прысутнічаў на сустрэчы і пазнаёміўся з тым прапаведнікам, і людзі гэтай сустрэчы пазычылі мне Новы Запавет. Пазней яны разам са мною адведалі маю родную вёску і мы ўпершыню ў нашым доме правялі евангелізацыйную багаслужбу. Дом быў перапоўнены мясцовымі жыхарамі, якія з вялікай увагай слухалі Слова Божае. Месяц пазней тыя ж самыя вернікі, ужо ў большай колькасці, зноў адведалі нашую вёску і правялі евангелізацыйную багаслужбу, падчас якой я пакаяўся ды навярнуўся да Хрыста, прыняўшы Яго сваім асабістым Збаўцам і Госпадам-Уладаром. Гэта здарылася 18 траўня 1924 года.

Пасля таго я пачаў у святочныя дні рэгулярна хадзіць на ранішнюю і вечаровую багаслужбы, але ж таксама ў сваёй вёсцы пры ўсякай магчымасці сведчыў сваім аднавяскоўцам пра Хрыста і запрашаў іх на багаслужбы. У выніку маіх старанняў пяць душ з нашых аднавяскоўцаў навярнуліся да Госпада. Мая вера і актыўная дзейнасць бацьку не падабаліся і ён казаў мне, што я мушу ўсё гэта прарваць ды пакінуць, а ў тым выпадку, што я не перастану гэтымі справамі займацца, то ён пагражаў мяне пабіць. Калі ягоныя пагрозы маёй дзейнасці не прыпынялі, то ён аднаго дня узяў кій і, трымаючы яго над маёй галавой, выкрыкнуў: «Убірайся раз і назаўсёды з маёй хаты, а калі не, то я проста заб'ю цябе!». Нічога іншага я ня мог зрабіць апроч таго, як толькі тут жа пакінуць сямейны дом, і ён за мною выкінуў торбу з ўсімі маімі духоўнымі кнігамі, з якіх я падняў і ўзяў з сабою толькі Біблію. Рэшту кніг я пакінуў на двары, якія мама пазней забрала і захавала ад таты, як толькі ён выйшаў з хаты. Пасля гэтага я пайшоў у найбліжэйшую вёску да веруючых ды расказаў ім пра ўсё, што толькі што са мною здарылася, за што мы

падзякавалі Госпаду і нейкая радасць звыш напоўніла маё сэрца, што Госпад прызнаў мяне годным папакутаваць за Яго накшталт таго, як гэта здаралася з апосталамі.

У наступны дзень я пайшоў у горад Пінск, дзе шукаў сабе працу, і на трэці дзень па выгнанні з хаты я ішоў па тратуары ад хаты, у якой я начаваў, і бачу наперадзе, што ідзе насупраць мяне мая мамачка з ношай на плячах. Калі падышоў да яе, яна залілася слязьмі і, абняўшы мяне, сказала: «Сыночак, што ты са мною зрабіў? Ці ж ня ведаеш ты жорсткасці твайго бацькі? З ім і тады немагчыма было жыць. А што будзе цяпер, я проста не магу сабе ўявіць! Пакінь адкрытае выражэнне тваёй веры, толькі ў сэрцы веруй, пакуль ты не памужнееш». Я адказаў ёй, што так я ні ў якім разе не магу рабіць. Мы з ёю зайшлі ў кватэру, дзе я на кароткі час пражываў. Яна зняла ношу, у якой была мне адзенне для працы, змена нацельнай бялізны ды прадукты як хлеб, сала, масла і малако.

За пару тыдняў я знайшоў сабе працу пры будове чыгуначнага вакзала. Пасля перайшоў на працу пры будове вайсковых казармаў. Восенню зволілі мяне з працы і зіму я правёў у адной веруючай сястры, дзе ўсю зіму цэпам малоў збожжа. На наступнае лета працаваў на лесапілцы і з зробленых грошаў змог на Вялікдзень таго года падзяліцца прадуктовымі падарункамі з бацькам, думаючы, што гэтым чынам пакажу яму, што я не вораг яму, На жаль, ён людзям казаў: «Вот Яша думае сваімі падарункамі неяк прыадобрыцца мне, але я ўсё роўна яго ненавіджу». Пасля таго я перастаў гэтак рабіць. 26 верасня 1926 года я прыняў святое воднае хрышчэнне, якое выканаў у Пінску ў рацэ Піна прэсвітэр Пінскай Царквы Евангельскіх Хрысціян брат Іван Святошчык. У 1927 і 1928 гадах я працаваў у лесапілцы, а у святочныя дні адведваў вакольныя вёскі, дзе праводзіў евангелізацыйныя багаслужбы, за што двойчы мяне арыштавала польская паліцыя.

На зіму мяне звальнялі з працы і я тады займаўся духоўнай працай у Пінску на пасадзе старшыні моладзевага кружка ды ў вакольных вёсках, дзе было нямала чальцоў нашага кружка. У пачатку 1929 года прапаведнік Пінскай Царква, брат Сітаж, звярнуўся да мяне з наступнымі словамі: «Браце Яша, я маю для цябе добрую навіну. У Радасці недалёка ад Варшавы адкрываюцца біблійныя курсы, на якія я раю табе паступіць, а мы дамо табе добрую рэкамендацыю і цябе напэўна прымуць». На гэта я адразу даў сваю згоду, запоўніў усе анкеты, адаслаў і за месяц атрымаў адказ, што мяне прынялі і ў палове лютага я ўжо прысутнічаў на курсах, дзе вучыўся праз гады 1929 і 1930. Там жа мы вывучалі Біблію экзэгэтычным спосабам, гамалетыку, музыку і польскую мову ў народным інстытуце. Дырэктарам

пры тых курсах быў шырока вядомы прапаведнік габрэйскага паходжання доктар Майсей Гітлін. Калі я закончыў курсы, дырэктар біблійнага інстытута парэкамендаваў мне стацца калпортэрам (г. зн. носчыкам) выдавецтва духоўнай літаратуры, кіраўніком якога быў знакаміты ў Польшчы пастар Б. Гецэ. Ён забяспечыў мяне ўсялякай духоўнай літаратурай. З ёю я адправіўся ў родныя краі і займаўся распаўсюджваннем духоўнай літаратуры як па горадзе Пінску, гэтаксама па мясцовых вёстках, ідучы з хаты да хаты. Калі Новых Запаветаў не прадаваў, то бясплатна даручаў частку іх альбо здаваў людзям брашуры духоўнага зместу, і так працаваў аж да 1934 года.

У 1935 годзе я пазнаёміўся з прапаведнікамі, якія працавалі недалёка ад польска-савецкай мяжы – братамі Грамыкам, Скарабчатым і Манцаводам. Браты прапанавалі мне адкрыць місіянерскі пункт ў гандлёвым і культурным мястэчцы Мір, што знаходзіўся ўсяго толькі 35 кіламетраў ад мяжы з Савецкім Саюзам. З дапамогай вышэй-прыгаданых братоў ды пастара Гецэ мы нанялі там жа зал, і я праводзіў рэгулярныя багаслужбы, у выніку чаго некалькі душ навярнуліся да Госпада. Раніцой я ўладжваў нядзельную школу для дзяцей. Але ж тут жа мясцовае духавенства са школьным персаналам данесла да паліцыі, што наш зал непрыгодны для такіх мітынгаў з тае прычыны, што няма бакавых дзвярэй для выхаду пры пажары і існуе трэшчына ў адной сцяне. Таму паліцыя забараняла нам уладжваць багаслужбы і гэтакім чынам закрылі маю там духоўную працу. Але ж дзякаваць Богу і па цяперашні час засталося там жа некалькі веруючых.

У сярэдзіне 1939 года суседняя царква евангельскіх хрысціян у Быкевічах страціла свайго прэсвітэра, і на гэтую пасаду Быкевічэская царква выбрала мяне. Гэта здарылася за тры месяцы да прыходу да нас Савецкай улады, але я пад аховай Господняй стаяў на тым месцы да 1942 года. Ужо пры Саветах я яшчэ раз адведаў сваю родную вёску і ў тым ліку – маю сям'ю з бацькам. Тата ўжо крыху мякчэй ставіўся да мяне, хоць ён рашыў пагаварыць са мною і стараўся адгаварыць мяне ад далейшага пастарскага служэння сярод вернікаў у Быкевічах. «Яша, я раю табе зысці з тваёй прэсвітэрскай пасады, - ён стараўся пераканаць мяне, - лепей перадай службу камусьці з мясцовых чальцоў суполкі, а ты сядзь на заднюю лаўку. Дай іншаму кіраваць той суполкай. Калі савецкія ўлады прыйдуць, то не цябе возьмуць і адправяць кудысьці ў Сібір, а праваднікa». На гэта я адказаў тату: «Не, татачка, так зрабіць я не магу. Я даў абяцанне Госпаду служыць ды заставацца верным Яму да канца, таму не магу пакінуць гэтую Богам дадзеную службу». Бацька ізноў раззлаваўся на мяне, што яшчэ раз я не паслухаўся яго і на гэтым мы разышліся. Гэта была для нас апошняя сустрэча.

Я вярнуўся ў Быкевічы. І сапраўды, нягледзячы на тое, што мне пагражалі вывезці ў Сібір, мясцовыя савецкія ўлады не паспелі гэта ажыццявіць. Тут жа другая частка вайны ўспыхнула паміж Нямеччынай і Савецкім Саюзам і ў даволі хуткім часе з'явіліся немцы. Пасля іхняга прыходу выявілася, што ў нашай Быкевічэскай суполцы сярод вернікаў былі двое вышувальнікаў: адзін чалец царквы, а другі быццам бы прыбліжаны да Госпада. Яны відаць штотыдня даносілі інфармацыю міліцыі пра ўсё, што я рабіў у суполцы.
У красавіку 1942 года, калі нямецкія войскі занялі амаль што ўсю Беларусь, я паехаў у Менск, які знаходзіўся 120 кіламетраў ад нас, каб пашукаць там евангельскіх вернікаў і аднавіць духоўную працу. І вось там жа знайшліся 25 чальцоў-вернікаў, якія пажадалі ўладжваць пастаянныя багаслужбы, для якіх мэр горада (ён быў беларус) адпусціў нам палова-разбураны бомбай будынак у горадзе для нашага ўжытку. На рамонт нашая царква шчодра ахвяравала розным зернем і мы хуценька яго адрамантавалі і пачалі праводзіць рэгулярныя багаслужбы пад кіраўніцтвам брата Антона Мітрафанавіча Кецкі, якога выбралі кіраўніком, а мяне туды запрасілі як прапаведніка. За гадавы перыяд нашай супольнай духоўнай працы царква узрасла ад 25 да 250 чальцоў. У тым годзе мы правялі тры багаслужбы з хрышчэннямі прыбліжаных. Дарэчы, нам было сказана, што з пункту гледжання нямецкіх уладаў лепей нам старацца прапаведаваць і праводзіць багаслужбы на беларускай мове замест расейскай, што мы і стараліся чым больш рабіць. Брат Кецка ў гэты час папрацаваў з іншымі і выдаў беларускамоўны спеўнік, якім мы пачалі карыстацца. Нават дэвіз на шыльдзе, што вісеў над намі абвяшчаў, што мы «мы прапаведуем Хрыста ўкрыжаванага».

Калі мэр горада пачуў, што арганізавалася нашая царква, то ён прапанаваў нам узяць пад апеку і духоўнае выхоўванне два сіроцкія прыстанкі. У адным былі 74 дзеткі па ўзросце ад чатырох да васьмі гадоў, а ў іншым – 53 па ўзросце ад дзевяці да пятнаццаці гадоў. У другім прыстанку жылі пераважна дзяўчаткі. Мэр хацеў, каб царква прадвызначыла асобную адказную асобу, якая павінна была стацца і духоўным настаўнікам або настаўніцай для дзетак. Такому дырэктару вызначалі нейкую плату і немцы пагадзіліся не браць такіх на працу як у Беларусі, так і ў Нямеччыну. Гэтую пасаду брат Кецка даручыў мне, на што я пагадзіўся. Я перадаў кіраўніцтва Быкевіческай царквы двум дыяканам і перабраўся ў Менск. На развітальнай багаслужбе ў Быкевічах, што адбылося 30 траўня 1942 года, пасля майго трохгадовай службы царква з ускладаннем рук прысвяціла мяне на прэсвітэрскае служэнне; рука-ускладанне выканаў прэсвітэр Іван Панцэвіч. Калі я перасяліўся ў Менск, то царква выбрала мяне выхавальнікам моладзі, таксама духоўным выхавальнікам сірот у дзіцячых прыстанках і дырыжорам хору. Будучы

рука-ускладаным прэсвітэрам я выконваў хрышчэнні, праводзіў вячэру Гасподнюю і ўчыняў іншыя пастарскія абавязкі. Засталася ў памяці адна ўнікальная багаслужба ў Слуцку ў чэрвені 1943 года. Мы разам з братам Іванам Панцэвічам правялі багаслужбу над ракой Случ і ахрысцілі ў той дзень 264 душы.

Госпад сапраўды дзейнічаў у людскіх душах, калі падчас вайны ніхто з нас не ведаў, ці заўтра мы застанёмся ў жывых. Мы маглі толькі спадзявацца на Госпада і на Ягоную забарону і ахову. Пры ўсім гэтым я амаль штомесячна адведваў цэрквы ў заходняй Беларусі з тою мэтаю, каб збіраць прадукты і адзежу для сірот, бо ў немцаў не хапала такога для дзетак пад нашай апекай. Павінен тут жа дадаць, што Бог нас усіх такім велізарным чынам захоўваў ад бяды перад уладамі, бо мы даглядалі больш за 70 дзетак габрэйскага паходжання, аб чым немцы не ведалі апроч аднаго. Бог прыслаў нам нямецкага афіцэра Кругера, які нас адведваў і назіраў, чым мы займаемся. Выяснілася, што ён сам веруючы чалавек і ведаў пра прабыванне габрэйскіх дзяцей пад нашай аховай, але ад сваіх немцаў ён гэту інфармацыю скрываў. Сіроткам я чытаў з Бібліі і растлумачваў біблійныя дактрыны на іхнім узроўні ды мы вучылі іх беларускія духоўныя песні, якія яны з радасцю спявалі. Калі Саветы прыйшлі, то ўсе дзеткі пад нашай апекай былі захаваны ад смерці і засталіся здаровымі і ў шчаслівым духу.

Абслугоўваць два сіроцкія прыстанкі мне стала цяжкавата, таму па прапанове мэра я пачаў шукаць другога выхавальніка для прыстанку з старэйшымі дзецьмі. Як раз у гэты час у мяне ўзнікла думка, што найлепш было б ажаніцца і жонку паставіць на гэты пост, хаця было і страшнавата, бо маглі б улады аб'явіць мабілізацыю мужчын на вайсковую службу. І вось пры сустрэчы з братам Іванам Панцэвічам, які нас адведаў у Менску, я адкрыў патрэбу ў выхавальніцы для сіроцкага прыстанку. З усмешкай ён сказаў: «Брат Яша, гэта вам добры выпадак пажаніцца з Жэняй Апанасік, забраць яе сюды і яна станецца тваёй харошай супрацоўніцай як у прыстанку, гэтаксама і ў царкве ды ў хоры». Я дагэтуль двойчы сустрэўся з Жэняй і на гэтую прапанову брата Панцэвіча я ахвотна пагадзіўся. Сустрэчу з ёю ён уладзіў ў сваёй хаце ў Баранавічах, дзе я і выказаў ёй сваё жаданне на жаніцьбу з ёю, але яна адказала, што падумае і за пару месяцаў дасць свой адказ, што супадала з святкаваннем Нараджэння Хрыстовага. Мы і сустрэліся пры святкаванні Нараджэння Хрыстовага ў Слоніме і яна выказала сваю згоду выйсці замуж з мною. Наш шлюб адбыўся 23 студня 1944 года ў Баранавічах.

Перасяліўшыся ў Менск, мы адразу на адпачынак не пайшлі, а чым хутчэй уступілі ў цяжкую духоўную працу ў сіроцкіх прыстанках, царкве і хоры. Апрача ўсіх рэгулярных багаслужбаў мы ў кожны аўторак і чацвер вечарамі ў пажылых дамах

праводзілі асаблівыя сустрэчы: разбор Слова Божага і спеўкі, і ў тых кватэрах заставаліся пераначаваць, бо ноччу хадзіць па горадзе забаранялася і толькі раніцай адтуль разыходзіліся па працах. У тыя дні мы адчувалі сябе стомленымі, але за тое духоўна падбадзёраванымі. Так здаралася, што ў адзін дзень больш за 60 чалавек хрысціліся. Калі пры адступленні немцаў мы пакідалі менскую царкву, то ў ёй ўжо было больш за 360 чальцоў. Калі нямецкае адступленне пачало набліжацца да Менска і мы прадбачылі, што Саветы не дазволяць нам займацца духоўнай працай ды мне пагражала вайсковая служба, мы рашылі, што і Жэні заставацца сярод чужых нельга. Ёй трэба было пераехаць у свой дзяўчыны дом, дзе жыла яе мама.

Хаця з цяжкасцю ўдалося пагрузіцца ды адправіцца на чыгуначны транспарт і нас не туды павезлі, куды мы хацелі, а куды давялося выбраць толькі гэты шлях. Прайшоўшы нямала розных карантынаў і дэзінфекцыяў, мы прыехалі ў паўмільённы індустрыяльны горад Ганновер, і нас змясцілі ў лагер для людзей «з усходу», што азначала – з найгоршымі ўмовамі жыцця. Лагер знаходзіўся паміж пасажырскім чыгуначным і выгрузным пунктамі, а гэтае месца часта бамбардзіравалі амерыканскія самалёты. Таму нам шэсць разоў у суткі прыходзілася ўцякаць у найбліжэйшы бункер – тры разы днём і тры разы ноччу. Мяне паставілі на працу пры рамонце чыгункі, а Жэню – пад галоўным вакзалам таго горада на прыборку бункера.

У Ганноверы мы хуценька знайшлі багаслужбы веруючых немцаў, якія завялі нас у лагер, дзе жылі славянскія вернікі і сярод якіх нядзелямі праводзіліся нашыя славянскія багаслужбы. Мы пачалі рэгулярна хадзіць на гэтыя сустрэчы, але таксама шукалі і у іншых лагерах нашых вернікаў, зацікаўленых евангельска-хрысціянскай праўдай. Іх мы знаходзілі і запрашалі на сустрэчы і гэтак ўсё працягвалася 9 месяцаў да перамогі Саюзнікаў над Нямеччынай. Вайсковыя акупацыйныя ўлады хутка адправілі жадаючых працаўнікоў на іхнія радзімы, а сярод славян, якія не жадалі вярнуцца на радзіму, арганізавалі адзін вялізарны ў вайсковых казармах лагер Чырвонага крыжа, у якім сабралі 4500 душ. Там жа мы арганізавалі евангельскую царкву, якая выбрала мяне сваім прэсвітэрам. Пры першапачатковай арганізацыі запісаліся 15 чальцоў. Мы адрамантавалі адзін пакой на малітоўны зал і пачалі праводзіць рэгулярныя багаслужбы. У сярэдзіне ліпеня 1945 года адбылося першае хрышчэнне моладзі. На той багаслужбе я ахрысціў 15 душ. Мы таксама адведвалі іншыя лагеры ў бліжэйшых мястэчках, дзе праводзілі перыядычныя евангелізацыйныя багаслужбы, падчас якіх людзі каяліся і навярталіся да Хрыста.

Духоўная праца ў толькі што арганізаваных лагерах дэпістаў (тэрмін гэты выходзіць з ангельскага выражэння DP са значэннем «displaced person», гэта значыць – перамешчаны чалавек) пачала паспяхова развівацца таму, што была культурна выгодна для людзей з усходняй Еўропы. У іх былі хоры, юнацкія кружкі, жаночыя групы і нядзельныя школы. Кожнае лета праводзіліся два або тры багаслужбы з хрышчэннямі нованаверненых. Да нас пачалі прыязджаць людзі з іншых лагероў, прапаведнікі пераважна ўкраінскія, бо лагер называўся імем кампазытара Н. Лысэнкі, хаця ў лагеры была і добрая палова з іншых славянскіх нацыяў. З цягам часу некаторыя ўкраінскія браты і сёстры настойвалі, што ім патрэбны сапраўдны ўкраінскі прэсвітэр, хаця я стараўся прапаведаваць па-ўкраінску. Калі я пачуў такія размовы, то на адной дзелавой сустрэчы я адказаўся ад пасады старэйшага прэсвітэра і пагадзіўся займацца евангелізацыйнай працай, на якую мяне выбралі як раз'езднага дабравесніка. Я пачаў адведваць розныя лагеры ў ваколіцах Ганновера, дзе знаходзіліся ўкраінцы, палякі і беларусы ды час ад часу прымаў удзел ў служэнні мясцовай царквы. Калі ў сярэдзіне жніўня 1948 года нашая сям'я рыхтавалася пакінуць лагер, то царква ўзрасла ад 50 да 160 чальцоў.

У Нямеччыне нам з Жэняй нарадзіліся трое дзетак. У 1945 годзе нарадзілася Дзіна, але, на жаль, яна праз некалькі тыдняў памерла. Юрка нарадзіўся 1 сакавіка 1946 года, а Юзё – 23 ліпеня 1947 года. Па прыходзе розных камісіяў у праходным лагеры ў Фаленбоотоне 13 кастрычніка 1948 года нашая сям'я з Брэменскай гавані ў Нямеччыне на караблі «Генэрал Лангфіт» пераплыла акеан і 22 сакавіка прыбыла ў канадскі горад Галіфакс, дзе выступілі на канадскую зямлю. Розныя славянскія сем'і, у тым ліку і сям'я майго добрага сябра з Пінска Івана Калінікавіча Гука, з усходнеславянскіх цэркваў у Канадзе дапамаглі нам сродкамі заплаціць за пераезд у Канаду. З Галіфакса мы цягніком адправіліся ў заходнюю Канаду і падарожнічалі 3 суткі ды сышлі з цягніка ў мястэчку пад назваю Бігар, дзе сустрэлі нас мясцовыя славянскія вернікі, якія ўжо пражылі некалькі гадоў у Канадзе.

Я знайшоў працу ў фірмы цягнікоў і разам з камандай іншых працаўнікоў даглядаў і рамантаваў чыгунку. Мы жылі на адкрытым полі каля чыгункі ў доме для чыгуначных працаўнікоў. У 1951 годзе нам нарадзілася дачка Марыя і ў наступным годзе мы цэлай сям'ёй перабраліся ў горад Саскатун, дзе я знайшоў іншую працу. Будучы ў Канадзе, я працягваў прапаведаваць у розных усходнеславянскія цэрквах: у Саскатуне, Бігары і розных іншых мястэчках, параскіданых ў заходняй Канадзе, дзе пасяліліся ўкраінцы, беларусы і рускія. Калі нашыя дзеці крыху падраслі, мы цэлай сям'ёй выступалі на сустрэчах нашых славянскіх вернікаў – спявалі духоўныя песні цэлай сям'ёй і я прапаведаваў.

Нашыя дзеці прайшлі канадскую школьную сістэму. Сыны вучыліся ва ўніверсітэтах. Наш старэйшы сын, Юры, паступіў у хрысціянскую місію, дзе служыў мой сябра Іван Гук. Яны рыхтавалі евангельскія радыё-перадачы на рускай мове, а пазней мы з Юрыем пачалі беларускамоўную праграму «Добрая вестка», якую высылалі ў Монтэ Карла, што і перадавалася ў эфір на Беларусь хрысціянскай радыё-фірмай «Транс Сусветнае Радыё». Нашыя дзеці цяпер маюць сваіх жонак і мужа і сваіх дзяцей, за што мы надта ўдзячны Богу. На заканчэнне магу сказаць адно: ва ўсіх нашых перажываннях Бог заўсёды прабываў з намі і Ён кіраваў нашым жыццём. Усякая падзяка і слава належаць нашаму Госпаду і Богу за ўсё, што Ён пасылае нам!

*PS: Еўгенія Ісідараўна Рапецкая памерла 4 верасня 1986 года; Якуб Філіпавіч Рапецкі памёр 7 лютага 1998 года*

**Jakub Filipavich Rapetsky: My life and spiritual service** *(autobiography)*
**(*magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p. 38-45, www.sakavik.net*)**

This text was provided to magazine by Jurka Rapetski, the son of the author. It describes the life of Belarusian man, J. F. Rapetski (1908-1998) and his service as protestant pastor in various life circumstances, in Western Belarus (1924-1939), the BSSR (1939-1944), Germany (1944-1948), and then in Canada.

**Якуб Филиппович Рапецкий: Моя жизнь и духовное служение** *(автобиография)* ***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019 г., выпуск 24, стр. 38-45, www.sakavik.net)***

Этот текст был предоставлен журналу Юркой Рапецким, сыном автора. В ней описывается жизнь белоруса Я.Ф. Рапецкого (1908-1998) и его служение в качестве протестантского пастора в различных жизненных обстоятельствах в Западной Беларуси (1924-1939), БССР (1939-1944), Германии (1944-1948), а потом в Канаде.

**Язэп Квач: Маміны словы**



У кожнай мясцовасці ёсць уласныя словы, якія больш нідзе не пачуеш. Дыялектамі багата і мая Бацькаўшчына. Для мяне – гэта Глыбоччына – калыска, дзе я нарадзіўся і спасцігаў родную мову ў сваёй сям'і, сярод сяброў, аднавяскоўцаў і ў школе. А яшчэ – гэта Шаркоўшчынскі край, дзе я ўжо пражыў амаль удвая больш, дзе я стварыў сям'ю і выгадаваў дзяцей.

Хаця два згаданыя раёны мяжуюцца, але адрозненні ў мясцовых гутарках я заўважыў з першага дня. Мая гаспадыня, дзе я кватараваў, цётка Галя, ужывала такія словы, як астроў, байня, мецілка, егдзіць, блаўкіня, камэдаваць і інш. На Глыбоччыне я іх не чуў. Мяне гэта з'ява зацікавіла і я стаў збіраць мясцовыя дыялекты і адначасова прыгадваў глыбоцкія. У маёй публікацыі я іх адпаведна пазначаю: глыбоцкія – літарай "г", а шаркоўшчынскія – літарай "ш". Там, дзе такой пазначкі няма, гэта значыць, што слова сустракаецца ў абодвух раёнах.

Мне ў гэтым дапамагае мая праца з пажылымі людзьмі. У размовах з імі я вышукваю цікавае для сябе і стараюся гэта занатаваць. Часам трапляюцца сапраўдныя перліны, якія паказваюць наколькі багатая, жывая і вобразная наша мова. Да прыкладу цётка Фаня папрасіла мяне нашчапаць ёй на падтопку "жабуркоў". Я ніколі не чуў гэтага слова, але як толькі пачуў – яно мне так спадабалася! Такое мяккае, пяшчотнае! Ад яго, як ад самога аганька, павявае

цяплом. І так можна бясконца прыводзіць прыклады. На жаль, такія дзівосныя і рэдкія словы знікаюць разам з іх носьбітамі, бо кола іх ужывання няўмольна звужаецца. Знікне слова – збяднее наша мова, а разам з ёй і мы. Таму захаваць мясцовую гаворку – лічу сваім абавязкам. У гэтай працы я пастараўся сістэматызаваць і прадставіць чытачу ўсё, што я назбіраў за некалькі год. Ведаю, што падобную працу на Дзісненшчыне праводзіў Язэп Драздовіч год так з сотню таму назад. Хацеў паглядзець яго працу ў бібліятэцы Акадэміі Навук, але без дазволу не змог. Цікава б было параўнаць наколькі ўсё памянялася.

Я прадставіў не толькі словы і іх тлумачэнне, але і даў кантэксты, дзе яны ўжываюцца ў гутарковай мове. Гэтыя маленькія абразкі запісаны граматычна з памылкамі кіруючыся мэтай данесці да чытача фанетыку мясцовай гаворкі. І не толькі гэта. Тут згадваюцца рэальныя людзі і падзеі, якія для мяне маюць асацыяцыю з пэўным словам. Думаю, што мясцовыя дакладна вылічуць каму належыць тое або іншае выказванне.

Мая праца “Маміны словы” названа так не толькі таму, што любоў і павагу да роднай мовы я пераняў з малаком маці. Яшчэ яна была ў мяне, як найаўтарытэтнейшы кансультант, бо я чуў месцамі толькі “звон” і не заўсёды мог дакладна тлумачыць усе адценні слова. З вышыні свайго дзевяностагадовага ўзросту яна давала належную ацэнку і заўвагі маім меркаванням.

Гэты артыкул я прысвячаю маёй матулі.

Беражыце сваіх мам і маміны словы!

_ * _ *_ * _ * _ * _ * _ * _ * _

**Абхадзіцца** (ш.) – упраўляцца па гаспадарцы.
- Я яшчэ вечарам толькі абхадзіўся, бяжыць жонка з мабільным.
- На, нехта табе звоніць!

**Абхадзіць** – непакоіцца нейкімі думкамі, клопатамі.
- А што Самазванаву, яму ж нічога не абходзіць: ні сям’і, ні гаспадаркі, толькі гарод – ды і той, як бабе сесці.

**Адкалыхаць** – вылечыць з цяжкага стану.
- А адзін раз Владзімірка бацьку доўбняй замест свінні заехаў. Чуць адкалыхалі, добра што той у зімовай шапцы быў ды ўдар ужо быў ні з усей рукі.

**Адукцыю зрабіць** – зняць пабоі.
- Ну што, паехала пасля таго Элка ў Шаркаўшчыну і зніла адукцыю.
- Ну і як Вы, дзядзька Жэнік выкруціліся?
- А як выкруцісся? Следаваціль прыізджаў ні раз. Угашчаў добра і ў торбу… Дык толькі штрафу мне далі і ўсё. А так бы пасадзіць маглі. Іна ж парцейная!

**Азіят** – злы чалавек, вораг, як і татарын.
- А ўчора ж мой сусед так збіў сваю Ленку – аж сіняя. У-у-у, азіят!

**Аляксаваць** (ш.) – паносіць.
- Гэта ж матка яго такая врэдная была. Зберыць з малака смятану, і з'есць, і даліець вадой. Тады дапілнавалі дык мусіць даў ей поўху – атучылі.

**Андаляція** – завіўка.
- А ці зрабіла ж ты на вяселле андаляцію?
- Цяпер гэдак ня ў модзе. Нада стрыжку!

**Аправіцца**(г.) – схадзіць у прыбіральню (па вялікай патрэбе).

**Атхожая** (г.) – прыбіральня.
- Ну пайшоў я на астаноўцы ў атхожую каб аправіцца. Цёмна, сяджу. Забігаіць нейкі дзяцюк.
- Ну што, дзед, сядзіш?
- Сяджу!
- Ну і сядзі!
- Шапку ў мяне хоп з галавы андатравую і паляцеў. Дзе там будзеш шукаць у чужым горадзе ды і аўтобус жа ждаць не будзіць!

**Аруд** –засек.
- Мужык у аруд ні глядзіць – дуіць і ўсё, а чым тады бабе дзяцей карміць?

**Асвер** – бервяно-журавель для калодзежа.
- А я ў сваей амшары такі зашыбенны асвер найшоў – ні нада нікуды і ехаць.

**Астроў** (ш.) – на верхавым балоце участак лесу з цвёрдай глебай.
- Пайшлі з Ленкай у Свілы праз астроў праз Дзедаву Бараду. Чуць прабіліся так усё заваліна.

**Асэставаць** – дапамагаць у важнай справе.
- Так, ты Ваня, будзеш дзіржаць парасят, а ты, маці асэставаць: падаваць брытву, парашок, ніткі.

**Бабздыль** (г.) – хлопец сярод дзяцей, што больш лучыўся да дзявочага гурта.
- Мальцы, а чаму вы ня дружыця з Зыфрыкам Язэпішыным?
- Не, ён і з дзеўкамі гуляіць, ён бабздыль!

**Байня** (ш.) – лазня.
- Сёння сыбота – двайное свята!
- Чаму?
- Ну як, чаму? Сёння байняў топка і баб …бка!

**Балясіна** – жэрдка ў масце або кладцы каб трымацца.
- Мост скора адрамантавалі і нават балясіны замянілі хаця ў паводку яны толькі мяшаць будуць.

**Біндас** (г.) – непуцёвы падлетак.
- У Чэся вун Баранчыкавага ўнук трактар сагнаў ды прадаў некаму.
- Во дзе біндас!

**Блаўкіня** (ш.) – бесталковы чалавек.
- Вот ужо Зоньцы з гэтым Толікам гора. Такі ж ужо блаўкіня!

**Бліcь ды ясь** (г.) – ярка зіхацець, пераліваццa.
- У Баразвэччы ўланы польскія стаялі. Едуць бывала – збруя на конях бліcь ды ясь!

**Блузніць** – абы-што непраўдападобнае гаварыць.
- Заткніся ты, ня блузні абы-што!

**Брыдзець сонца** – хаваецца ў хмары.
- Алі сонца нешта троху падбрыджаваіць – можа будзіць і дождж.

**Быдляк** (ш.) – беспародны сабака
- Ні ганіся за пароднымі лайкамі з радаслоўнымі. Толку з іх – толькі грошы высыпіш. Вун у Воўкі быдлякі простыя, а бяруць усё што шавелецца.

**Бэлька** (ш.) – бервяно.
- Як шкода! Вун каля Капанкі ў траве столькі бэляк пагніло.

**Бэлька** – маціца.
- Ён ад малку гэткі круты. Бывала прыляціць у хату, як скочыць і нагой аж у бэльку.

**Бэшла** (ш.) – бесталковы чалавек.
- Вася ж раз п’яны на трактары астаноўку знёс. Во бэшла!

**Ваган** (г.) – намокшае цяжкое бервяно.
- Праз ноч нага распохла, азызла, як ваган.

**Вантрабянка** – кілбаса з вантробаў (унутраных органаў)
- Сама смачней як зварыш капусту з вантрабянкай!

**Вараўня** (г.) – памяшканне для захоўвання гародніны з печкай.
- З Фаньчынай хаты выйшла раскошная вараўня – усё ўлазіць.

**Васілка** (ш.) – васілёк.
- Ну як, Фядосавіч, у гэтым годзе пшаніца?
- Ты знаіш, братка, з вясны дык і што добрая была, а тады васілка як сціснала – дык і ўбіраць нечага было!

**Вонтпіць** (г.) – перажываць.
- Збіраюся ехаць на зарабаткі і ўсё вонтплю: а як тут усё без мяне будзіць.

**Вотарабам** – усё параскідана, у беспарадку.
- Адкрываю дзверы – усё вотарабам: з шафы ўсё павыкідавана, кнігі на падлозе, зафіранкі паатрываныя – як Мамай прайшоўся.

**Вразе** – а калі.
- А вразе ж дождж – складайце сена ў капяшкі.

**Вупар** – упарты чалавек.
- Ні за што ні сагласіўся з намі аб’язджаць балота – папёрся праз гразь. Вот ўжо вупар!

**Вурыць** – спорна працаваць.
- Гэта яна тут ня хочыць рабіць, а паглядзі на яе як дома вурыць – ня горы за мужыка!

**Вяпла** – балтаіць ня тое што трэба і не таму каму трэба.
- Зямчончыха ж старая гэта вяпла ўсім разбалтала па сялу.

**Вярфнік** (ш.) – плашка ў якую ўстаўляўся верхні канец снуллі.
- А круціцца ж снулля ў двух драўляных, як падшыбніках, і верхні завецца вярфнік.

**Газніца** – керасінавая капцілка.
- А ці ёсць там невядома ў лазні ў газніцы карасіна?

**Гакаўка** (ш.)– баба крэпкая, як арудзія.
- Ну а Надзя ваша чаму замуж ня ідзець? Во, яшчэ гэткая гакаўка, магла б!

**Гален**ь – змецены венік.
- Падай, ты, мне хоць які гален, я тут троху падмяту.

**Ганяць бульбу** – акучаваць.
- Як сухое лета – досаць і раз бульбу паганяць, а так сільна пірасыхаіць.

**Гураваць** – верхаводзіць, падчыняць сабе ўсё і ўсіх.
- Гуравала мая нявестка над сынам – вот ня выдзіржаў і кінуў яе з дзецьмі. А дзяцей шкода сільна!

**Далігаць** – трывожыць нейкая немач або думка.
- Ну як ты там, яшчэ харош?
- Ай не, братка, ужо ня тое! То там забаліць – то тое далігаіць! Што ты хочыш – выпрацаваны!

**Далянглівы** (г.) – вельмі далікатны, не церпячы раздражнення.
- Болісь быў, як пан, такі далянглівы. Ніхай чуць прыпарка, мошкі – усё, касу на плечы і дамоў.

**Даць джупла** (г.) – даць наганяю.
- І мае ж мальцы пэўна там былі! Ну пайду, я ім дам джупла!

**Дбаць** – клапаціцца.
- *Хто дбае – той не мае, а хто не дбае – той мае. (Павуцінне)*

**Дзеравяшкі** (ш.) – абутак на драўлянай падашве.
- А што ты думаеш, даўней ні ва ўсіх былі боты. І я ў школу ў дзеравяшках хадзіў!

**Дзерціна** (ш.) – вывернутае з коранем дрэва.
- Адзін раз Янак Шпак казаў, што на дзерціне застрэліў лісіцу.

**Дзіркач** – змецены веннік.
- Пахвастаў жонку ў лазні.
- Ну, як?
- Усё добра.
- Але ж венік у цябе нейкі, як стары дзяркач змецены!

**Доннік** (ш.) – замерзлы на некаторай глыбіні слой зямлі.
- Войцік стараўся вывезці кармы пакуль яшчэ не распусціла крэпка, па донніку.

**Дрыначка** – кароткая не па размеру і праз тое халодная вопратка.
- Як цяперашняя маладзеж ходзіць? Адзеніць нейкую дрыначку, што аж пуп тарчыць – вот і пазастуджаваюць сабе ўсё, асобінна гэтыя дзеўкі.

**Дубіца** (ш.) – лодка.
- Пераплывалі на дубіцы раку з дзеўкамі. Перакуліліся. Міша Бутар ратаваў дзевачку і разам з ей утапіліся.

**Дуб'ю станавіцца** – так моцна супраціўляцца, што цела становіцца, як дубовае.
- Во які маліц! Яшчэ ж засранцу нейкіх сем гадоў, а нізашто споднія штаны ні адзелі. Дуб'ю станавіцца і ўсё. "Цяпер ня ў модзе!" – кажыць.

**Дурніцы** – ягады п'яніцы.
- Ці ведаеце, што такое ганіболіўка?
- Настойка самагонкі на дурніцах – добрая штука!

**Дыхціна** – фанерына.
- Пятровіч, нідзе ня можна знайсці сцікла да твайго "Запарожца".
- А каб якую дыхціну ўставіў?

**Жабуркі**(ш.) – шчэпкі для падпалкі дроў
- Ну што цёця Фаня Вам яшчэ памагчы?
- Ой, у мяне баліць рука, нашчапайце мне жабуркоў на падпалку.

**Жалубнуць** (г.) – наспех перакусіць.
- Ай, ну што ён тут заляцеўся на троху, халадніку жалубнуў і паехаў скорынька на работу. Некалі ж!

**Жужаль** (г.) – малыя дзеці 5-10 гадоў.
- Ану, жужаль, кыш адсюль, ні мішайця!

**Забоіц** – клін для абсадкі касы.
- Поўні, унучак, як нада рабіць забоіц – сама лепі з сухой яблыні.

**Загавець**– загінуць.
- Ну і што з іга! Будзіць піць, а піць пакуль ні загавець, як Гайдук у раве.

**Закаліц** – пяршак самагонкі.
- Паставіў я на стол бутэльку хлебнай. А крэпкая – закаліц. А Пётра Юстынаў як хватануў па прывычцы стакан – чуць адкашляўся.

**Закаліц** – няўдала хлеб, цвёрды.
- Ці ўдаўся хлеб?
- Ага, алі закаліц – на паліц!

**Замашанцы** (ш.)– людзі, што жывуць па другі бок балота.
- А адкуль Ронікава Глаша, ці знаеш?
- Замашанка!

**Збаданне** – допыт.
- Дык, а дзе падзеўся, баба Ліпа, Ваш бацька з Баразвэчча?
- Мама ж туды хадзіла і быў там знакомы ахраннік. Дык той казаў, што бацьку павязлі ў Маладзечана на збаданне. Так і прапаў.

**Збанітаваць**(г.) – даць ацэнку негатыўную.
- От жа гэтыя бабы! Яны ж усе костачкі перамыюць. А тады каго, як чарта, на вілы падымуць, а каго так збанітуюць – век не адмыісся.

**Збруя** – вупраж.
- У лінейку запрагаць у мяне збруя атумысловая. Гной на ёй я не важу канечне ж!

**Здор** – унутраны тлушч.

**Ажэмеры** (г.) – вышкаркі ад launeгатопленага здору.
- Даўней здор ператаплявалі, а на ажэмерах нешта пяклі. А цяпер мая скруціць здор і ў маразілку. А тады на ім добра таксама бульбу смажыць.

**Здукраць** – даўмецца, дайсці да высновы.
- Але і ты, во - маладзец, неяк жа во здукраў, сам выкруціўся!

**Зіграты** – яркі.

**У шклянкі** – тканіна з узорам у выглядзе прамавугольнікаў.
- А як яе прызнаць?
- Прызнаеш, у яе сукенка такая зігратая ў шклянкі.

**Зіляска** (г.) – прас.
- Дык што там у іх палучылася?
- Прадаўшчыца казала, што яна ўзяла новае зіляска, а назад прынісла старая зіляска.

**Золь** – сырая халодная пагода.
- Ну што там на дворы?
- Золь!

**Зэдлік** – маленькая нізенькая лавачка на аднаго чалавека.
- Пеця, зрабі мне зэдлік карову даіць. Алі каб крэпкі бы бацька паламаіць.

**Зэс** (г.) – халодная пагода, калі вецер прадувае наскрозь.
- Расказаваў бацька нябожчык. Паехалі на шараварку ў лес у санёх. А такі зэс – і сірмяга ні памагаіць…

**Інструмант** (г.) – прыстасаванне гнаць самагонку.
- Прышлі шукаць, а ў мяне інструмант аж у амшары схаваны. Чаго мне баяцца?

**Ірзаць** (ш.) – дрэнна іграць.
- Мажэічка бывала як падап’ець – ірзаіць і ірзаіць тады на гармоніку.

**Істопка** (ш.) – цёплае з печкай памяшканне для захоўвання гародніны.
- Сёліта сусім лёгкая зіма была – істопку толькі пару раз вытапіў.

**Кабылка** (ш.) – прыстасаванне для вязкі нітоў.
- Нада каб кабылка была свая, а то навяжыш няроўных нітоў!

**Каіміц** (ш.) – дрэнны чалавек.

**Цвік**– дысцыпліна.
- Благі Стары быў. Каіміц. Усіх дома ў цвіку дзіржаў.

**Какоркі** (ш.) – выпечка, сухары.
- Лізавета Афанасіўна напікла Паўліку на вяселле какорак.

**Каланіца** (г.) – смала чорная.
- Дасталося мне ад старэйшага брата пальто і вялікае, і карэлае. Некалі, як рабілі асфальтавую дарогу – ішоў ён са школы з Тумашаў, ды ўліп нейдзя ў каланіцу – так нічым добра і не адмылі.

**Калдуны** (ш.) – клёцкі з душамі.
- Зрабі ты калдуноў!
- Ай, з імі многа дзялоў, звару заціркі!
- У, гэта бабская ежа – ні наясіся!

**Калёскі** (ш.) – блачкі для падвескі нітоў у кроснах.
- Бываюць жа вялікія калёскі, а з імі цяжка калі многа нітоў запраўліна.

**Камы** (ш.) – каша з бульбы.
- Думаў што гэта за пюрэ – заказаў у сталоўцы, а аказваецца – гэта ж нашы камы! У мяне дома ў вараўні такога пюрэ цалы катух!

**Камэдаваць** (ш.) – вырабляць абы-што, смяшыць людзей.
- Што гэты Маскаль толькі ні рабіў: і п’яны на мацыклеце, і з міліцыяй біўся – добра камэдаваў!

**Кан** – бідон, фляга.
- Ні кідаю цяпер каны на дворы - украдуць, як алюміній, на гарэлку.

**Каршунок** (ш.) – прыстасаванне ў калаўроце, што сучыць нітку і намотвае яе на шпульку.
- Папрасі ты Аліксандравіча, каб справіў мне каршунок – ні цягніць нешта нітку.

**Карэдлівы** (ш.) – не дакрануцца, як дзіця, не пераносіць боль і другія нязручнасці.
- Мой жа Гордзя такі карэдлівы – вочы закапаці і то ні даецца! Душа вон з ім!

**Каяк** (ш.) – лодка вузкая, як спартыўная.
- Франак, наш польскі настаўнік, усё нас вучыў рабіць: і лыжы, і каяк дажа былі зрабіўшы.

**Квашаніна –** халадзец.
- Самая лепшая квашаніна з ног.

**Кебны** – кемлівы.
- Ну алі ж ён досаць кебны – абы-хто на чужыне не прыжывецца, ня выб’іцца ў людзі.

**Керзавы хлеб** (г.) – нізкай якасці з дамешкай кукурузы.
- Керзавы хлеб нейкі сусём ня гэткі: і чарсцвеіць скарэй, і прэсны нейкі – не прывыкшы мы да іга.

**Кешкацца** (ш.) – марудзіць.
- Ну што, ты, кешкаесся тут! Скорынька збірайся!

**Ключы** (г.) – страпілы.
- Раней ключы былі ні такія, а з крукамі, якімі чапляліся за пажыліну.

**Крохлы** (ш.) – страпілы.
- Сёння павесілі крохлы, заўтра будзім абрашотку прыбіваць і крыць.

**Кузла** (г.) – той, або тое, што ўсё перашкаджае.
- Ой свякроўка была благая, як кузла! Што б ні рабілі, што б ні гаварылі – вечна яна сваю кузлу ўторкніць.

**Кулэгацца** – калупацца ў гразі.
- Люцюк робіць печ і мы малыя кулэгаімся ў гэтай гліне.

**Лабасіць** (ш.) – іграць на гармоніку.
- Пупся бывала прыдзіць у Рымкі на фэст з гармонікам. Падап'ець і давай лабасіць.

**Лайно** (ш.) – лахманы пасцелі, вопраткі.
- Якія там у таго Ахрэма пададзіяльнікі і простыні. Там ж ані пасцеля, а – лайно. Ды і тое ўжо чуць ні спаліў разам з хатай – гарэў.

**Латун** (ш.) – лахманы, старое рванае адзенне.
- Адзівай які-небудзь латун ды лезь чысціць калодзісь.

**Лацно** – выгодна.
- Лацно яму касіць – два сыны, як дубы!

**Ліна** (ш.) – нацягнутая тоўстая драціна ці трос для перацягвання парамка праз раку.
- Ад цячэння ліна напялася, аж гудзела.

**Лякеркі –** лакаваныя туфлі.
- А нябось ходзіць ні абы як – у лякерачках.

**Манаткі** – пажыткі.
- *Забірай свае манаткі і ідзі да хаткі.*

**Матырка, закідушка** (ш.)– прыстасаванне для лоўлі рыбы на жыўца, ставілася на ноч.
- Чалдон расказваў: "Паставіў з вечара матырку. Раніцай прыхаджу – куст хадура ходзіць. Сом на 43 кілаграмы ўчапіўся.

**Месца** – паслед.
- Глядзі ж, пільнуй! Хаця б карова месца ня з'ела. Удавіцца можыць.

**Мецілка** (ш.) – пакрытая цёлка.
- Мецілак сарціравалі восенню і Ванька Зялёнка развозіў іх па фермах.

**Мігдалы** (г.) – прысмакі, дэлікатэсы.
- Ну, чаго ні ясцё? Можа мігдалы вам с Амэрыкі выпісаваць!

**Мугаць** – хутка і спорна есці.
- Во мугаіць, брат ты мой, як добры касец!

**Набрыць** (ш.) – прыезджы, што часта мяняе месца, як пералётная птушка.
- Ну што, Генка, што за людзі там у ваш канец прыехалі?
- Ай, нейкая н-н-набрыць, набрыць, набрыць!

**На галянішчах прыбегчы** (г.) – хутка, не паспеўшы добра ўторкнуць нагу ў бот і пята праз гэта будзе апірацца на галянішча.
- Скарэй ляці на галянішчах па бацьку – карова целіцца.

**Нагдырыць**(ш.) - нагаварыць, падбухторыць.
- Гэта ж мая гэдак матку па цііфоне нагдырыць на мяне, а мне тады слухай яе "літаніі".

**Нажэндзе** (г.) – мужчынскі "прыбор".
- У нас такі Стась Гром жыў. Дык ён адзін час з дзвюма бабамі жыў.
- А як ён з дзвюма спраўляўся?
- Ну, казалі, нажэндзе адпаведнае меў!

**На стыкальніку** (г.) – напярэдадні нейкай падзеі, найчасцей смерці, або родаў. Звязана выслоўе з тканнем палатна. Калі заканчваецца вытыканне асновы, якая мацуецца да палатніны, што накручваецца на навой, то кажуць, што ужо на стыкальніку, г.зн. канец работы. Калі ў гэты час нехта прыходзіў у хату, то казалі, што нехта памрэ.
- Былі ўчора ў дзяцей. Нявестка ўжо на стыкальніку – не сягоння-заўтра будзіць радзіць. Кажуць што будзіць дзяўчынка.

**Наўрына**(г.) – хто надаядае, дастаець.
- Вот наўрына, прычапілася – хоць ты ўцякай.

**Націніна** – слабы, ледзь жывы чалавек.
- Які там ужо той Люцік! Як націніна, сколькі яму ўжо асталося…

**Недапад, недароб, няўструй** (г.) (сінонімы) – быстры ў рухах і прыняцці паспешных рашэнняў, з-за чаго аказваецца часцяком ў камічных сітуацыях і сам успрымаецца, як недарэка.
- Ну што ты з яго возьмеш, такі гарачы. Недапад, недароб, няўструй!

**Непераліўкі** –складаная сітуацыя ў сувязі з нейкімі новымі абставінамі.
- Ужо нада было і за каровамі ісці, а тут непераліўкі – свіння паросіцца.
*Тут будзе дарэчы такое выслоўе: "Работы – кішыць: буракі крышыць, дзіця ўсралася, пакуль абцёрла – самой напёрла."*

**Неслух** – непаслухмяны.
- А Віця Райчонак, такі ж неслух у школе быў! А паглядзі фельшарам робіць у Шуміліне і хвалюць – добры доктар.

**Ні шманаць** – не браць да ўвагі, нікога і нічыё меркаванне.
- Юлісь наш благі быў. Як нап'ецца бывала – нікога ня слухаіць і бацьку дажа ні шманаў.

**Няволля** (г.) – нельга, не дазволена.
- Няволля ў пасце вяселле рабіць, проці Бога. Так і жыць будзіш!

**Нявывалака** (г.) – чалавек ні на што не здатны.
- Ну чаго ты на яго кажыш – нявывалака?
- Ай, ну ён жа пусці-павалюся, а найгоры – нічога ж рабіць ня можыць!

**Няўрокам дзеля сказана** – кажуць каб добрыя словы не наняслі шкоду чалавеку або жывёле (не ўраклі). Сказана не дзеля (для) ўроцаў.
- Алі ж во добра твая карова малака даець няўрокам дзеля сказана.

**Няхлюй** (г.) – неакуратны.
- Ты ж паглядзі, як ты адзеўся. Ззаду хвост тарчыць, гузікі – намітусь, ну выліты няхлюй.

**Паджога** (ш.) – падпалка.
- На паджогу я бяру якое-нібудзь смалістае без сукоў палена, а найлепі корч-смаляк ці бярэсту – гарыць, як бінзін!

**Падзіржаць у руках** – пабіць.
- Як падзіржалі тады яго ў руках, дык доўга і не пажыў. Дзе ж ты вычухаеш - паклалі пад шчыт ды каламі адмясілі!

**Падрабляцца** (г.) – упраўляцца па гаспадарцы.
- Маёй маме было лягчэй чым другім – па гаспадарцы падраблялася бабка.

**Падстрэліны** – адзеты ў кароткую вопратку.
- У кароткіх штанах і пінжаку я адчуваў сябе ніякавата – стаяў, як падстрэліны.

**Пажыліна** – жардзіна паверх ключоў.
- Вот бяром гэту ёлку на пажыліну: і не тоўстая і гонкая.

**Пакачаць бабу** (г.) – мець з ёй палавы кантакт.
- Ну і што яе Зіна, на Верку маю абы што гукала, а саму пакачалі нейдзя на вяселлі мусіць.

**Пакляпістае дрэва** (г.) – тое, што расце нахільна. У дачыненні да чалавека – той, што не можа за сябе заступіцца, адгаварыцца.
*На пакляпістае дрэва і козы лезуць*.
- Сашка Дуля ўжо да таго быў пакляпісты – яго збанітуюць, абгаворуць у вочы, а яму быццам няма чым агрызнуцца.

**Пакушаць** (ш.) – пакаштаваць на смак.
- Самсон Ванька нагнаў самагонкі з мёду. Прыносіць гасцям на стол.
- Пакушайця, ета, братцы, медавушка!

**Памак** (ш.) – горкі п’яніца.
- Ананька яе ўжо ж такі памак быў! Ну што ж, ён усім тут калодзісі капаў! Ну а біз гарэлкі гэта ж ніяк ні абхадзілася.

**Панцак** (ш.) – пярловая каша.
- А што даўней елі? Панцаку матка наварыць цэлы кацёл, добра калі ёсць чым прыскварыць. І будзіш жорці калі галодны!

**Панянчыць** (г.) – пабіць.
- У Івана Жадзейкі мусіць з галавой пасля таго, як у міліцыі яго панянчылі.

**Паплеціна** (ш.) – прадольны дубец у плятні.
- На такога ўжо бізуна мала – паплецінай трэба вучыць.

**Папоня** – доўгая празмерна аж па пяты вопратка.
- Адзеніць сваю спадніцу, як папоню, і крыпаіцца ў ей, як той бацюшка.

**Парэнчына** – жэрдка ў кладцы.
- Ішлі да цёткі Гунэфы якраз у самая разводдзя. Раку прышлося па парэнчыне перахадзіць.

**Пасякі** (ш.) – саматканае пакрывала з markнакаляровых нітак.
- Ой, мая мама Тоня, такая рукадзельніца была! І пірабіраныя дываны і ў шэсць нітоў і пасякі – усё умела ткаць.

**Паталаніць –** увесці ў прывычку, у моду нешта рабіць.
- А ў нас жа лісіца лічы кажды дзень курыцу бярэць. Іш, паталаніла!

**Патураць** – згаджацца.
- Чаму мой гэткі неслух?
- Таму, што ні патураць нада было, а дубцом вучыць!

**Пеліна** (ш.) – прыстасаванне для збору журавін, як падвязаны фартух.
- Браць ягады ў пеліну мяне навучыла Галя Зэнькава, як я ў іх кватараваў. І па дзісь дзень (дагэтуль) мне так найвыгадней.

**Пілінгнаваць** (г.) – даглядаць, дагаджаць.
- Адзін сын быў, ужо ж так яго пілінгнавалі, ну і што выйшла? Распуста!

**Пілнаваць** – сачыць.
- Кралі ноччы грушы. Бацька дапілнаваў. Як папёр – дык і транзістар кіналі. Назаўтра прыхадзіла Сабіна пірапрашаваць і забіраць.

**Побаку** (г.) – нешта не ўлюбіць, не прыняць.
- Столькі дзевак было. І Навумцова Лілька, і Дануся Кавалёва. Такая харошая і бацькі! Не ні нада! Усе побаку!

**Пошар** (ш.) – сена.
- Прадалі карову, а пошар астаўся. Дык Губін забраў, а за тоя парэзаў пілой хлеў нам на дровы.

**Пранік** – драўляная прылада для мыцця ці абівання насення.
- Кмін сушым на плаце, а тады снапы на пасцілцы абіваем пранікам.

**Пранік** (г.) – ніжняя масіўная вертыкальная плашка цялегі.
- Пранікі поўню Рублеўскі рабіў з вербалозу.

**Пранцы** – венерычныя захворванні.
- Скруцілася ж некуды, хай яе пранцы!

**Прахуда** (ш) – авантурыст, хітры, абманець, а свайго даб’ецца.
- Ну, што там Наташа? Кажуць нейдзя на пасяленні за крэдыты?
- Ды дзе там… Гуляіць па волі прахуда гэта!

**Прыкургнуць** – прылегчы задрамаць на кароткі час.
- А я ж прыкургну ў абед на мінут дваццаць. Прачнуўся – і, і як агурчык!

**Прымувіска** (г.) – пагаворка.
- Гэта ў нас ёсць такая прымувіска. Із высокім добра жабраваць – торба па зямлі ні цігаіцца.

**Путны** (ш.) – талковы.
- Быў сёння на Восьвіце на акунях. І нейкая баба, і ловіць талкова ўсё.
- Чаму не! Ёсць і бабы путныя, алі мала…

**Пустазвон** – чалавек, што пустое балтаіць, або сабака, што гаўкае па-пустому (няма ні звера, ні чалавека).
- Бываіць сабака гоніць звера бяз брэху, а гэтыт наадварот – пустазвон!

**Пыпліцца** (ш.) – марудзіць.
- Захаджуся на вічарыну па Янінку Ігнашкаву. А іна ж гэткая кветка пакуль зберыцца – пыпліцца можа з паўчаса.

**Разбірацца** – малако на адгон і смятану раздзяляецца.
- З казы ж смітаны ня зберыш – малако ні разбіраецца.

**Разматаць** – хутка раскупіць нібы трубкі тканіны.
- Панаехала ж сюды рускіх як нас асвабадзілі ў 39-м. А ў нас жа тут усіга поўна. Дык іхныя бабы – яны ж мацерыі ні знаюць. А быў такі чырвоны насыпачны мацір'ял. А ім жа нада было чырвоная – дык січас трубку разматалі. Гэта гэдак на сукенкі сабе.

**Разноска** (г.) – гаспадарчая сумка з керзавага матэрыялу.
- Як пойдзіш у магазін – бяры ня сетку, а разноску, каб што ні павытрасаў!

**Ракашэт** (ш.) – незвычайнае здарэнне.
- Што ў вас там новага ў Жукоўшчыне?
- Учора ноччы клуб згарэў?
- Ай-яй-яй, во было ў вас ракашэту! А з чаго?
- Шэмраюць, што нехта спаліў, некаму ж няўгодна нешта!

**Рандэляк** – каструля з ручкамі.
- Наварыла ім клёцах цэлы рандэляк на паўвідра. З голаду ні памруць!

**Раскошны** (г.) – вялікі па памеру.
- Купіла свайму хлапцу штаны. Раскошныя троху. Алі добра – расцець, як на лес гледзючы.

**Распірынджаваць** – расцягваць час.
- І нечага там распірынждаваць. Запытаўся і быстра дамоў.

**Рассусуляваць** – так доўга цягнуць час у гутарцы пакуль выказаць думку.
- Ні рассусулявай, як той Ананька! Бывала як станіць казаць нешта – дык усе навасці раскажыць і ўвесь калхоз аб’едзіць пакуль даб’ецся чаго хочыць.

**Рацівы** – бойкі на язык.
- Ну і нявестачка ж табе папала рацівая. Палец у рот не кладзі.

**Рулі** (ш.) – ежа з хлеба, вады салёнай, цыбулі і алею.
- Адзін майстар апраўляў у удавіцы хату. Падала яму на вячэру рулі. А ён ей кажыць: “Ад гэтай ежы, панічка, і-і-і-і г(е)блікі ні бяруць!”

**Рыззявік** (ш.) – падножны кавёр з рыззя.
- Калі ня прыдзіш да Еўлампіхі іна то рыззявік крыпаіць, то шкарпэткі.

**Рэзьгіні** – прыстасаванне для пераносу сена з дзвюх драўляных дужак, перакрыпаных тонкімі вяровачкамі.
- Рэзьгіні дзядзькі Юзафа я, як памяць, захоўваю ў сваім музеі.

**Самаховы** (ш.) – хто служыў пры немцах у самаахове.
- Яны ж пасля вайны па лесе хаваліся, бо былі ў самаховах.

**Сачыць** – быць падобным на каго-небудзь.
- Ну, хаго там Выруся ваша радзіла?
- Трэці Гайдук!
- Ну чаго ты Міхалінка, і мальчык жа добра абы здаровінькі. А каго ж сочыць?
- Па іх, увесь бацька і крошкі яго сабраў!

**Сівіць галаву** – пеажываць.
- Ці чула ты што там на Ўкраіне робіцца?
- Ні сіві галаву – пра сваё думай!

**Склыгаць** – вучыцца іграць, слаба іграць.
- Я тады яшчэ можа ў клас пяты хадзіў, алі тожа ўжо троху склыгаў на гармоніку.

**Снігувцы** – кароткі гумовыя боцікі на абцасах.
- Цяпер ужо ні прадаюць, а я яшчэ помню ў мяне былі снігувцы.

**Соўма** – перціся наўпралом.
- Напроць вёскі на сплаве была запань і лесу набівалася – можна пірахадзіць. Перахадзіў раз лось і праваліўся ды застраў. Ну прышоў Жоржык з віламі. Будзіць

калоць. А лось як спружыўся – выскачыў, ды як кінаўся на яго соўма. Чуць умыкнуўся са сваей крывой нагой. Во мужчыны хахаталі!

**Стальмак** (ш.) – павязка з бінта або хусткі, для падвязкі параненай рукі.
- Казала ж яму: "Куды ты такой слізінёй ды на ровары! Дзе там – паляцеў! На заўтра гляджу ў абед вылазіць з аўтобуса – рука на стальмаку, у другой торба, паддаты добра, пайшоў."

**Старлыбіна** – пажылы чалавек, што ў маладосці не дбаў ані пра дабрабыт, ані пра годнась.
- Ну, як там ваш Сашка?
- Ай, сам сабе такой жызні дабіўся! Сядзіць цяпер адзін, як старлыбіна ды і ўсё.

**Сушоннік** – падбярозавік.
- Сушонікаў было многа ў нас у амшары. Бабка расказавала: "Пайду раніцай, набяру пеліну, адвару і смажу з бульбай."

**Сцігаваць** – сачыць за кім-небудзь.
- Паша свайму Мішку піць ні давала. Бывала дзе ён ні паверніцца, а тая ўсё сцігуіць. Баяўся яе.

**Сцянецце** (г.) – слабае, кволае, няжыццяздольнае (як аб чалавеку – так і пра жывёлу)
- Ну а як жа ж там твая матка?
- Ай, толькі па хаце, чуць ходзіць, лічы ня відзіць, высахла, як сцянецце. Адным словам – тры чвэрці да смерці.

**Сшорыцца** – згубіцца з вока, растварыцца ў мностве рэчаў.
- Можа ты відзіла дзе мае пласкагубцы – ніяк не знайду?
- Пры гэтым пераездзе і майго многа чаго сшорылася. Пакуль панаходзіш!

**Сызма** (ш.) – надаедлівая баба.
- Да, папаў Пятрок добра на прымакі. Яна ж – вылітая сызма.
- *Нет на свеце горшай мукі, чым папасці бабе ў рукі. Шылам коліць, дратвай вяжыць і да ночы спаць ні ляжыш. А ад ночы да зары – аж на ...йцах мазалі!*
- Як з яе змалявалі..

**Сьляга** (ш.) – бэлька ў маскалёў.
- Ну, Віця, а цяпер грузім гэту бэльку!
- Да какая ж ана бэлька – эта ж сьляга!

**Сяннік** – набіты сенам ці саломай матрас.
- Помню памянялі з бабкай перад вяліканнем сена ў сенніку. Я лёг, як у пярыну, а пахніць…!

**Сярмяга** (г.) – бушлат з валёнага сукна ці паўсукна.
- У мяне ёсць дзеда Ганарука сярмяга, дык у яе яшчэ гузікі з прасаванай скуры.

**Сярэдзіна** – спіна.
- У Пенце залазіць у аўтобус Вася крукам.
- Што такое, Вася?
- Сярэдзіну скруціла…!

**Танянёхацца** – вазіцца, гуляць.
- Не танянёхайціся там з імі - за каршэнь ды вон.

**Таўстая –** цяжарная жанчына.
- Мы, як былі малыя, налічылі ў вёсцы сем таўстых баб. Моцна памыліліся, аказалася толькі адна, бо мы бралі пад увагу нават старых, але мажных цётак.

**Тормас** (г.) – непаварткі, цяжкі на пад'ём.
- Люда, а ці ходзіця вы ў ягады? Сёлета добра плацюць!
- Ды дзе ты тут з ім развернісся. Тормас - адным словам.

**Траіць зямлю** (ш.) – тройчы за год пераворараваць.
- Мой жа Гінадзя ні вярнуўся з вайны і я ж сама ўсю гаспадарку глядзела. А зямлю траіла – во работала!

**Трыма-двума нарошчамі** – трох-двух кратна.
- А ў Банэгды ў маей ў Хрыстове вун што нарабілася! Там жа град як даў трыма нарошчамі – вун увесь гарод з зямлёй змішаў – нічога ня вырасціць.

**Тумарнік** (ш.)– скрытны чалавек.
- Яго ня пойміш: гаворыць адно, а думаіць і робіць другое. Тумарнік!

**Тэбіль** (ш.) – вялікі доўгі свярдзёлак.
- Польскія будынкі ўсе на шпунтах. Гэта ж нада было столькі дзюрак тэбілем накруціць!

**Уручча** – тое што можна трымаць у руках і выкарыстоўваць для біцця.
- Казалі сабака нейкі яе крэпка пакусаў!
- Каб было якоя ўручча, дык адбілася б можа як!

**Уроцы** – зрокі.
- Сцірай ты яе Сарафінка падалом каб ні сурочыла гэта ведзьма!

**Утранцацца** (г.) – умешвацца не ў сваю справу, вучыць, раіць дзе ня просяць.
- А ніхай жа б Лёнік з яе бацькамі лагадней быў, са сваей першай ні піразваняваўся! Ты ж жыві, калі сышліся, старайся!
- Ні ўтранцайся! Ніхай самі разбіраюцца!

**У тры дубэльты** – у тры слаі.
- Хлеў у цёткі Гунэфы крылі шчапой у тры дубэльты. Старшы быў Дрозд. Ну і папілі ж тады самагонкі. Аў Казіка беднага аж рукі трасуцца ўжо, як стакан бярэць.

**Утэбліць** (ш.) – нешта некуды засунуць.
- Вот дык утэбліў!

**Услон** – доўгая лаўка на 4-5 чалавек.
- У браме маладых садзілі на ўслон і падымалі.

**Уцімінжацца**(г.) – уціхамірыцца.
- Мальчык, уцімінжайся! Усё благоя адкінь, будзь пакорны, цішэйшы, а ні вось бы я!

**Уюлявай** – убірайся вон.
- Крыся як усхадзілася на яго: "Збірай свае манаткі і ўюлявай каб я цябе болі ня відзіла!"

**Уюрок** (ш.) – прыстасаванне для ўтрымання ніткі пры сучэнні або снаванні.
- Каб не было ўюрка дык бы ніткай пальцы папраразала.

**Халдэй** – карак, затылак.
- Нашы ж як дапалі да дармавой водкі, як панапіваліся – ды давай вырабляцца. Дык іх вон павыкідавалі ды яшчэ і ў халдэй надавалі.

**Хлудаваты** – з цвёрдым прожылкамі бурак.
- Усе буракі, што ідуць у пук – хлудаватыя.

**Хлюст** – элегантна, выкшталцона адзеты.

**Адфранціцца** - элегантна, выкшталцона адзеты.
- І куды ты гэдак адфранціўся, як хлюст? Пэўна ў сваты, ну як Быкоўскі ўсядно.

**Цальнік** (ш.) – цэлыя нязбіраныя ягады.
- Гляджу дзе ж гэта Юзік, а ён цальнічок грабець.

**Цальнік**– неўзараная глеба, агрэх.
- Як яны тут аралі па гразі? Вясной жа тут адзін цальнік будзіць!

**Цахна** (г.) – высакамерная, неаднаслоўная і неаднапюбная жанчына.
- Не павязло майму Альфрэдзіку – кінала яго Наташа із другім скруцілася.
- А нашто ён звізаўся з гэтай цахнай!

**Цымбурыць** – льецца з шумам вадкасць.
- Усю ноч дождж цымбурыў.

**Цымус** – вельмі смачная ежа.
- Сходзім з Пецькам ў бярэзнік да Янінкі Ігнашкавай, назбіраем паземак. Дома натром з цукрам, з малаком. Ну і мачаім туды бліны. Аж цяпер слюнькі бягуць – такая смаката. А пах! Вот дык цымус!

**Цюкнуць у галаву** (г.) – раптоўна прыйшла думка, рашэнне.
- І тут мне цюк у галаву – Генка нядаўна ставіў бражку - той вылічыць.

**Часоўка** (г.) – у клубку пучок нітак, аднаго напрамку.
- Сынок, памажы ты мне ніткі раскрыпаць. Во часоўка спаўзла, а я вядома ж добра ўжо ня віджу.

**Чэмір** (г.) – нешта вельмі гаркое.
- На выпі жоўці, яна добра памагае ад жывата.
- Ух-х-х, чэмір!

**Чэрас** (ш.) – шуга, маленькія ільдзінкі пры замярзанні ракі.
- А дзе ты рыбу лавіў? На калене?
- Не, сёлета так гэтым чэрасам там забіла – ня можна нідзе закінуць.

**Штубнаваць** – хутка хадзіць па пакоі, часта стукаючы, нібы швейная машынка.
- Ой, слаўная ў яе дзяўчынка, яшчэ толькі дзесяць месяцаў, а ўжо па хаце вун як штубнуіць!

**Шэмраць**(г.) – гаварыць з-пад цішка.
- У нас ўжо шэмраюць, што гэта пэўна Андрэй дзедаў стог сена спаліў.

**Юдаш, звадаяш, скусіціль** – падбухторшчык, той, хто сазводзіць.
- Можа б адзін Алег і ня піў, дык дзе ж там! Прыдзіць Мартуль, як у маткі пенсія і сазводзіць. От ужо дзе Юдаш, звадаяш, скусіціль!

**Jazep Kvach : Mother' words**

(***magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p. 46-67,*** *www.sakavik.net*)

The author provides the set of words (near 220) of local dialects collected in Sharkaushchyna and Glybokaje region (Bitebsk province of the Republic of Bekarus). He introduces not only the words and their interpretation, but also gives a context where they are used in everyday speech. These little icons written intentionally with grammatical errors were guided to bring the reader to the phonetics of the local language. The author dedicates this work to his mom.

**Язеп Квач: Мамины слова**

***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019, выпуск 24, стр. 46-67, www.sakavik.net)***

Автор представляет около 220 слов местных диалектов, собранных в Шарковщинском и Глубокском районах Витебской области Республики Беларусь. Даются не только слова и их толкование, но также и контекст, в котором они используются в повседневной речи. Эти маленькие диалоги, написанные намеренно с грамматическими ошибками, направлены на то, чтобы донести до читателя фонетику местного языка. Автор посвящает эту работу своей маме.

*Інтэрв'ю*

**Пётра Мурзёнак: Пра незалежнасць Беларусі і яе каштоўнасць**

*Інтэрв'ю кампаніі "Будзьма", дадзенае 16 снежня 2019 года, апублікавана на вэб-сайце кампаніі ў скарочаным выглядзе. Пытанні ад Алеся Кіркевіча.*

**1.Чым для Вас ёсць незалежнасць Беларусі?**

Незалежнасць Беларусі гэта каштоўнасць, якая дазваляе адчуваць гонар за радзіму, ад таго, што яна існуе роўная сярод роўных у свеце, ад таго, што беларускія грамадзяне напоўніцу карыстаюцца правамі і свабодамі, гарантаванымі Канстытуцыяй. З фармальнага пункту гледжаньня Беларусь ёсць незалежнай краінай. І менавіта так, фармальна, гэты стан Беларусі ацэньваюць многія людзі, якія знаходзяцца па-за дэтальным разуменьнем гістарычных і геапалітычных беларускіх праблем.

Аднак, па сутнасці, Беларусь на сёння ня ёсць незалежнай краіны, нават прымаючы да ўвагі рознабаковую інтэграцыю ў свеце ў наш час. Што трэба каб краіна па сапраўднаму сталася такой? Як дабіцца такога стану? Думаецца, што каб асягнуць незалежнасць Беларусі трэба пазбавіцца ад палітычнай, эканамічнай і культурнай залежнасці ад Расіі. Чаму гэта звязана з Расіяй? Гэта стане відавочным і зразумелым любому беларусу, калі ёнуважліва паглядзіць на Украіну - нашага самага блізкага ментальна і гістарычна суседа, а не будзе знаходзіцца пад уплывам маскоўскай прапаганды, што "Крым - наш". Калі, па-сапраўднаму, то Крым "наш - украінскі". Калі б не спрадвечны агрэсіўны характар Расіі, то адносіны з ёй мусілі б быць цывілізаванымі, як і з іншымі краінамі.

Другім важным аспектам незалежнасьці краіны з'яўляецца свабода, якая ўключае ў сябе многія кампаненты - палітычную, эканамічную, індывідуальную, рэлігійную свабоды, і іншыя. Але ў першую чаргу - свабоду нацыянальную. Усе гэтыя свабоды, якія прапісаны ў Канстытуцыі, на жаль, ва ўмовах аўтарытарнага, недэмакратычнага рэжыму, не могуць быць выкананы. Людзі, якія не маюць усіх гэтых свабод ніколі не будуць імкнуцца да незалежнасці сваёй краіны. Пры адсутнасці такіх свабод чалавек становіцца рабом абставін, у якія яго заганяюць. Людзі могуць быць настолькі прывычнымі да такіх умоў, аж да той ступені, што

могуць у сваёй большасці адчуваць сябе шчаслівымі (прыкладам чаго з'яўляюцца многія дыктатарскія рэжымы: Гітлера, Франко, Хусэйна, якія ўсё ж на шчасце для чалавецтва не былі вечнымі).

Краіна будзе незалежнай, калі усе гэтыя свабоды будуць данесены і будуць зразумелымі для ўсіх грамадзян краіны. Таму ў сёняшняй сітуацыі, каб Беларусь стала па-сапраўднаму незалежнай яна павінна вырвацца з-пад каланіяльнага ўплыву Расіі і ўсталяваць у краіне дэмакратычныя нормы.

**2. Калі Вы асабіста прыйшлі да ўсведамлення каштоўнасці незалежнасці? Як гэта адбылося?**

Такое ўсведамленне дакладна не адбылося раней 1990 года. Аднак, яно адбылося і паклікала да дзейнасці - пару артыкулаў па нацыянальных пытаннях у газету "Звязда" (1993-1994), стварэнне гуртка беларускай мовы на працы і выступленні на роднай мове на паседжаннях здзіўленага вучонага савета ў Інстытуце фізіялогіі НАН РБ (1992-1997).

У найбольшай ступені гонар за новую незалежнасць я адчуў, калі выпадкова апынуўся каля будынка Дома ўрада на плошчы Леніна ў той момант, калі на яго ўсталёўвалі новы дзяржаўны герб "Пагоня". Такі ж гонар я адчуваў, калі ў родных Паставах на будынку райвыканкама палыхаў бел-чырвона-белы сцяг.Аднак, што мяне тады насцярожыла на плошчы Леніна, гэта тое, што новы герб "Пагоня" быў накладным. Гэта значыць, ім як бы часова прыкрылі былы дзяржаўны герб, які быў пастаўлены там ад пачатку, капітальна. Новы герб усталёўвалі не грунтоўна, на час, як бы саромеліся. Так і апынулася, што мы да гэтага часу знаходзімся на поўдарозе да Каліноўскага, на поўдарозе да самаўсведамлення сябе як нацыі. Трэба яшчэ многа працаваць, каб гэта каштоўнасць была здабыткам усіх беларускіх грамадзян.

**3. У 1991-м незалежнасць на беларусаў звалілася "як мех з бульбай", нечакана і безкаштоўна, ці гэта вынік шматлікіх цяжкіх намаганняў за доўгі час?**

Мне падаецца, што выраз "як мех з бульбай" у вашым пытанні ў найбольшай ступені можа быць і адказам на пытанне. Атрыманню незалежнасці для Беларусі спрыялі шэраг фактараў, аднак у асноўным, калі казаць аб'ектыўна, яны былі абумоўлены знешнімі, а не ўнутранымі фактарамі. Па-першае, гэтаму спрыялі

распад СССР і КПСС. БССР была не адзінай рэспублікай былога СССР, якая атрымала незалежнасць. Усе, падкрэсліваю, усе 15 рэспублік СССР на працягу 1991 года (хто раней, хто пазьней) заявілі аб сваёй незалежнасці, нават Расія. Беларусь была шостай па ліку.

Цяжка адназначна сказаць, наколькі важкімі і вызначальнымі былі высілкі беларускіх нацыянальных сіл у атрыманні незалежнасці. Толькі ў Літве і Грузіі, атрыманне незалежнасці (да спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР) было звязана з праліццем крыві і з ахвярамі, г. зн. тады, калі ў савецкай улады яшчэ былі сіла і воля каб ужыць рэпрэсіі супраць сваіх народаў. Для астатніх савецкіх рэспублік шлях атрымання незалежнасці быў мірным.

У Беларусі рух за незалежнасць існаваў у асяроддзі даволі тонкага слоя нацыянальнай эліты. Трэба нагадаць дзейнасць такіх моладзевых аб’яднаньняў як “Талака”, 1980-1984; “Майстроўня”, 1985-1990; “Тутэйшыя”, 1986-1990, і канешне Беларускага народнага фронта за перабудову “Адраджэньне” (БНФ “Адраджэньне”), утворанага 24-25 чэрвеня 1989 года. Часта, як прыклад такога змагання беларусаў за незалежнасць прыводзяць забастоўку рабочых у 1990 годзе, што, падаецца, не зусім некарэктным. Бо тая забастоўка рабочых мела па сваёй прыродзе эканамічны характар. 100-тысячны натоўп, нават калі да яго далучыліся людзі з бел-чырвона-белымі сцягамі, ніяк не адлюстроўваў нацыянальную ідэнтычнасць людзей, якія пад імі ішлі, як і іх імкненне да незалежнасці. Я лічу, што адлюстраваннем змагання за незалежнасць была парламенцкая праца дэмакратычна настроеных дэпутатаў, уключаючы дэпутатаў ад БНФ. Відавочна, што яны прыклалі значныя намаганні як ў прыняцці Дэкларацыі (27 ліпеня 1990 года), так і Закона аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі (25 жніўня 1991 года). Трэба, аднак, адзначыць, што Закон аб дзяржаўным суверэнітэце і пастанова аб часовым прыпыненьні дзейнасці КПБ-КПСС на сесіі Вярхоўнага Савета БССР былі прынята <u>аднагалосна</u> (за – 256 дэпутатаў). Парадаксальна, але за прыняцьце гэтых двух законаў прагаласавалі самі дэпутаты-камуністы, якія складалі абсалютную большасць ВС 12-га склікання, што было абумоўлена і агульнай сітуацыяй у СССР, звязанай з забаронай дзейнасці КПСС, пачынаючы з 23 жніўня 1991 года.

Калі адказаць больш кароткай фразай, то на маю думку, атрыманне незалежнасці ў 1991 годзе было падарункам лёсу (другім у 20-м стагоддзі пасля Дэкларацыі аб незалежнасці БНР у 1918 годзе), а не вынікам змагання моцных партыйных структур ці шырокім рухам народных мас за нацыянальнае самавызначэнне. Тое, што лёгка далося, не так як трэба цэніцца, і таму, відаць, маем недасканалыя адносіны да незалежнасці краіны.

**4.Дэмакратыя, фінансавы дабрабыт ці незалежнасць – што важнейшае для беларусаў? А для Вас асабіста?**

Думаецца, што ў нармальным дэмакратычным грамадстве усе гэтыя складнікі важныя для жыцця чалавека. Натуральна, што фінансавы дабрабыт стаіць на першым месце, і не толькі ў беларусаў. Чалавек, як істота біялагічная і сацыяльная імкнецца да таго, каб месца, дзе ён жыве, было утульным, каб там "усё вялося і былося". Зараз у свеце на ўсіх кантынентах пераважаюць спажывецкія настроі і ў бліжэйшым часе наўрад ці з'явіцца новая агульная філасофія існавання для ўсяго чалавецтва. Хаця стварэнне такой філасофіі і жыццё па ёй было б вельмі пажаданым. Сёння складана уявіць, што незабяспечаны фінансава чалавек у першую чаргу заасяродзіць свае думкі на паляпшэнні і ўдасканаленні дэмакратыі ў краіне. Калі ў чалавека не ўсё ў парадку ў яго хаце, то якую ён можа збудаваць дэмакратычную і незалежную краіну?

Я жыву ў Канадзе, у краіне, дзе перада мной не стаіць праблема выбара, які з гэтых кампанентаў - дэмакратыя, фінансавы дабрабыт ці незалежнасць - найважнейшы. Аднак, як і абсалютная большасць людзей, лічу, што калі фінансавы дабрабыт ёсць, то тады ў чалавека з'ўляецца грунтоўная магчымасцьзаймацца іншымі важнымі аспектамі жыцця. У прыватнасці, мяне цікавяць зараз пытанні будаўніцтва і развіцця нацыянальнай беларускай дзяржавы.

**5.Ці Вам даводзілася некалі тлумачыць суайчыннікам ці замежнікам каштоўнасць незалежнасці краіны?**

Што тычыцца суайчыннікаў, то так, даволі часта, як непасрэдна, так і праз артыкулы ў вэб-часопісе "Культура. Нацыя", заснавальнікам і рэдактарам якога я з'яўляюся з 2012 года. Аднак, не ўсе суайчыннікі на радзіме, нават блізкія сябры, не гатовы ўспымаць парады з далёкага замежжа. Што да замежнікаў, то даволі рэдка. Бываючы ў вольных і незалежных краінах такое пытанне звычайна не паўстае. Хаця мы добра ведаем, што нягледзячы на негатыўныя адносіны ліберальных дэмакратаў да нацыянальных рухаў і да нацыянальнага - яны не зніклі, чаму прыкладам ёсць змаганне за незалежнасць у Каталоніі, Шатландыі, Квебеку. Магу толькі прывесці адзін прыклад з наведвання Кубы. Пачынаючы асцярожную размову з маладой жанчынай пра жыццё, заўважыў, што апроч працы яна вельмі

занята грамадскімі справамі - уваходзіць у камітэт па паляпшэнню жыллёвых умоў кубінцаў, камітэт па правах жанчын, моладзевы камітэт, камітэт абароны рэвалюцыі. Пачаць "тлумачальную" размову пры яе перакананасці і прыкметнай насцярожанасці - не выпадала. Як толькі размова зайшла пра палітыку, яна адказала, што яна "happy" (шчаслівая). Мяркую, што на кухнях у Беларусі людзі адчуваюць сябе вальней у сваіх размовах.

**6. Беларус, які не разумее каштоўнасці незалежнасці і гатовы ад яе адмовіцца – вораг ці… ? Што рабіць і як ставіцца да такіх людзей?**

Беларус, які вызнае сябе беларусам не можа быць ворагам. Калі ён не шануе незалежнасць, то хутчэй за ўсё ён заблудзіўся і гэта не яго віна, а дзяржавы, якая затлуміла яму мазгі сваёй прапагандай - саюзнай дзяржавай, лініяй Сталіна, "Лукамолам", "Нашым Крымам", ворагамі-нацыяналістамі, Днём незалежнасці - 3 ліпеня, і ... можна працягваць.

З такімі людзьмі трэба размаўляць, пераконваць. Калі мець на ўвазе значную колькасць людзей, то найбольш дзейным сродкам для выхавання нацыянальнай свядомасці з'яўляецца асвета.

**7. Ці з'яўляюцца нацыянальная ідэнтычнасць, мова і культура неабходнымі і абавязковымі для незалежнасці?**

Адказваючы на пытанне, хацелася б спачатку адзначыць, што бачанне незалежнасці, як прадстаўнікамі нацыянальнай эліты, так і кіруючай эліты ў нашы дні, мае многа агульных рысаў у сваёй канчатковай мэце. Тая незалежнасць, якую прапагандуюць афіцыйныя людзі дзяржавы сёння - аб асаблівым шляху для Беларусі пры зберажэнні (ці для зберажэння) сваёй улады – мае сваіх прыхільнікаў сярод насельніцтва. Аднак, такая афіцыйная стратэгія - будаўніцтва незалежнай цывільнай рускамоўнай дзяржавы пры аўтарытарным стылі кіравання мае істотны недахоп - яна не ўключае нацыянальнай свабоды і іншыя дэмакратычныя свабоды.

Калі казаць пра незалежную лукашэнкаўскую Беларусь, то нацыянальная ідэнтычнасць, мова і культура неабавязковыя і не неабходныя - проста яны ёсць у тым выглядзе ў якім ёсць:

-83.7% насельніцтва краіны пазначыла сябе беларусамі (2009);
-нацыянальная культура ёсць, нягледзячы на прыклад існавання двух пісьменніцкіх саюзаў;
-адносна мовы афіцыйная ўлада мае цынічную і крывадушную пазіцыю, кажучы што народ прагаласаваў на рэферэндуме за дзве дзяржаўныя мовы і кожны чыноўнік ці чалавек мае права выбара. Таму афіцыйная падтрымка мовы толькі на словах. Чаму беларус не карыстаецца роднай мовай - гэта вялікае пытанне?

Калі казаць пра незалежную Беларусь, аб якой марыць нацыянальная эліта, то, безумоўна, усе тры складнікі ёсць і будуць неабходнымі для будаўніцтва сапраўднай нацыянальнай дзяржавы:

-вельмі хацелася б, каб вынікі перапісу-2019 адносна нацыянальнай прыналежнасці былі не горшымі за тыя 83.7%, што маем. Самавызначэнне беларусаў, гэта пакуль што адзіны грунт беларускасці, на які не можа паўплываць афіцыйная улада (па крайней меры думаецца, што ўлада не пойдзе на падобнага рода фальсіфікацыю);
-беларуская нацыянальная культура працуе ва ўмовах гетто, але яна адродзіцца вельмі хутка пры першай узнікшай магчымасці (прыкладам таму 30-я і 90-я гады мінулага стагоддзя);
-што тычыцца мовы, то яна стане абавязковым складнікам пры змене ўлады. На сёння і на бліжэйшую будучыню, трэба прыняць рэальнасць - большасць насельніцтва і ў горадзе, і ў вёсцы карыстае рускую мову. У сувязі з гэтым нацыянальная асвета, асабліва ў галіне гісторыі, павінна ісці на расійскай мове таксама. Як доўга гэта будзе працягвацца - невядома. Ёсць як станоўчыя (Чэхія), так і адмоўныя (Ірландыя) прыклады адраджэння роднай мовы пры наяўнасці дзяржаўнай незалежнасці. У той жа час, ёсць краіны з двумя і больш афіцыйнымі мовамі (Канада, Бельгія, Швейцарыя, Швецыя), так і краіны, якія карыстаюць тую ж самую мову (Германія і Аўстрыя).

**8. Ці ёсць зараз небяспека для незалежнасці Беларусі? Калі так, то скуль яна сыходзіць?**

Думаецца, што ў нашы дні не варта чакаць небяспекі з боку, напрыклад, палякаў ці літоўцаў, нашых былых партнёраў па Садружнасці. Канешне, ніхто не адмаўляе, што беларусы ў канцы 17-га і ў 18-м ст.ст.паспыталі палітыку паланізацыі. Аднак, калі гэта было?! Сёння Польшча, як і Літва, сябры ЕС, і цалкам падтрымліваюць імкненне нацыянальна-арыентаваных беларусаў да дэмакратыі і прагрэсу. Беларусы былі і будуць еўрапейскім народам. Калі зазірнуць у гісторыю, то таму ёсць шмат доказаў, якія сведчаць аб шматлікіх сувязях з Еўропай.

Небяспека для Беларусі на працягу некалькіх стагоддзяў ішла з Усходу.Да канца 18 стагоддзя беларускі народ не меў нічога агульнага з Масковіяй, наадварот, у 16-17 ст.ст. беларусы у складзе войска ВКЛ 80 гадоў непасрэдна ваявалі з маскалямі. Стаўшы калоніяй Расіі больш чым 2 стагоддзі таму назад, Беларусь у некаторых сэнсах і па сёння знаходзіцца ў залежным ад Расійскай імперыі стане. Расія вядзе сябе з Беларуссю як з вассалам, і пакуль перамен не бачна.

У нашы дні вайна з усходнім суседам, Расіяй, працягваецца:

-на палітычнай сцэне Беларусь уцягнута ў непатрэбныя для нашай краіны саюзы (ОДКБ, ЕАЭС, Саюзная дзяржава з паглыбляемай інтэграцыяй, мілітарныя дамовы з Расіяй, 2 ваенныя базы на тэрыторыі Беларусі);
-у эканомічнай сферы - малочныя, цэментныя, мясныя, бананавыя войны; войны за цану на нафту і газ, мытныя войны;
-у галіне культуры - дамінаванне расійскай культуры ў Беларусі (расійкая мова, тэлебачанне, рускамоўныя кнігі, расійская папса, беларускія дзеці ў расійскіх дамах адпачынку сумнейнага тыпу, панаванне Рускай праваслаўнай царквы).

Усё вышэйпералічанае, здаецца, адназначна сведчыць аб тым, што пагроза незалежнасці-паглынання ідзе з усходу, з боку “русского міра”.Не думаецца, што Расія можа забраць Беларусь праз ваенную агрэсію, але яна спрабуе гэта зрабіць-падпарадкаваць праз эканамічныя і культуральныя механізмы. Так атрымалася, маем такога суседа! Добра было б перасяліцца ад яго на нейкі асобны востраў, калі б гэта было магчыма. А так, трэба шукаць падыходы, каб абараніцца ад яго захопніцкіх жаданняў.

**9. Калі кажуць, што незалежная Беларусь можа быць толькі ў вайсковым, эканамічным ці палітычным саюзе з іншымі дзяржавамі – як да гэтага ставіцеся? Калі і быць у саюзе, то з кім і на якіх умовах?**

У свеце зараз пануюць працэсы глабалізацыі, якія абумоўлены ў асноўным эканамічнымі законамі. З другога боку, роля нацыянальных дзяржаў, нягледзячы на стварэнне наднацыянальных рэгіянальных утварэнняў (ЕС ці нават ЕАЭС), узрастае. Такім чынам, з гэтага вынікае, што аптымальным станам для краіны было б спалучэнне ўдзелу ў сусветных глабальных працэсах пры зберажэнні і ўмацаванні свайго, нацыянальнага.

Саюз трэба шукаць у дэмакратычным асяроддзі. Расія да яго не адносіцца. Аднак, так атрымалася, што Беларусь сёння знаходзіцца пад прыкрыццём Расіі (Расію, з яе ядзерным патэнцыялам, ніхто чапаць не будзе). Але як ужо было адзначана ў адказе на папярэдняе пытанне, ядзерны парасон Расіі разам з адэптамі рускага міра, проста накрывае шчыльнай ценню усю беларускую тэрыторыю і насельніцтва і можа папросту іх праглынуць. Такая цень магла б знікнуць толькі разам з Расіяй, аднак, калі хто разлічвае на гэта, то не варта спадзявацца. Трэба праводзіць сваю, іншую лінію. На наш погляд, гэта можа быць палітыка нейтральнасці, якая яшчэ не сышла канчаткова з палітычнай арэны як форма існавання нацыі-дзяржавы.

**10. Хто можа быць гарантам незалежнасці: улада, армія, народ, партыі і грамадскія арганізацыі, наднацыянальныя міжнародныя структуры?**

Такім гарантам павінен быць толькі беларускі народ, які існуе на працягу 1000 гадоў, і будзе існаваць. Народ па Канстытуцыі утварае ўсе структуры, вызначаючыя дзяржаву-нацыю - армію, уладу, партыі, грамадскія арганізацыі. Але гэта магчыма пры належнай палітычнай і нацыянальнай культуры ўсяго народа, якая, відавочна, пакуль што не створана ў Беларусі. Народ мусіць яшчэ зразумець.

Фармальна такім гарантам мусіў бы быць дзейны Прэзідэнт, але да яго ўрада ў значнай часткі беларусаў няма поўнага даверу і не толькі з-за непразрыстага цяперашняга і мінулага 20-гадовага гандлю з Расіяй, які ставіць пад пагрозу незалежнасць краіны. Такім гарантам можа стаць новая ўлада - хацелася б каб гэта адбылося праз значныя змены дэмакратычным шляхам.

Спадзявацца на міжнародныя структуры не прыходзіцца. Бо на наднацыянальным узроўні пануюць сілы вялікіх дзяржаў, якія заўжды знаходзяцца ў супярэчлівых, антаганістычных адносінах. Роля ААН у вырашэнні лёсу малых і сярэдніх дзяржаў увесь час змяншаецца. Толькі ў далёкай перспектыве можна спадзявацца на агульначалавечы розум і здаровы сэнс, які магчыма створыць новую, спрыяльную для ўсіх краін палітычную ці геапалітычную атмасферу.

Такім чынам атрымоўваецца, што калі народ не паўстане на абарону незалежнасці і не выйдзе на вуліцы – то такога гаранта сёння няма.

**11. Без'ядзерны статус Беларусі – плюс ці мінус датычна пытання захавання суверынітэту?**

Валоданне ядзернай зброяй з'яўляецца сёння сур'ёзным аргументам пры вырашэнні спрэчак з суседзямі і як след адыгрывае важную ролюў захаванні суверэнітэту краіны. Так падаецца, што краіны, якія валодаюць такім мілітарным інструментам (ЗША, Расія, Англія, Францыя, Ізраіль, Пакістан, Індыя, КНДР, Кітай) пачуваюць сябе ў большай небяспецы, чым тыя краіны, якія яго не маюць. Таму лічу, але толькі тэарэтычна, што без'ядзерны стан для Беларусі - гэта мінус, бо з практычнага боку Беларусі наўрад ці ўдалося б бяспечна эксплуатаваць, тэхналагічна і эканамічна, ядзерную зброю, якая заставалася на тэрыторыі краіны пасля распада СССР.

**12. Што могуць рабіць беларусы пры пагрозе незалежнасці краіны? Выходзіць на мітынгі, размаўляць па-беларуску, разбудоўваць недзяржаўны сектар, імкнуцца атрымаць вайсковыя веды ці… збіраць валізы і рыхтавацца да выезду?..**

Пагроза незалежнасці з'явілася не сёння, а існуе пастаянна на працягу 23 гадоў пасля падпісання Першым Прэзідэнтам РБ і безнадзейным сп. Ельцыным, Прэзідэнтам Расіі, папярэдняй дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы (1996). Сёлета гэта пагроза толькі абвастрылася з-за таго, што сп. Лукашэнка і яго ўрад на працягу 2019 года вядзе тайныя, непразрыстыя перамовы з Расіяй аб “заглыбленай” інтэграцыі ў рамках Саюзнага дагавора.

Што зрабілі беларусы для сваёй абароны за апошнія дзесяцігоддзі і што трэба рабіць?

- Спрабавалі падняць беларускі народ падчас выбарчых кампаній і пратэстных акцый.
- Дасягненнем можна лічыць паступовае станаўленне грамадскіх арганізацый, такіх як “Лятучы Універсітэт”, спробы арганізаваць Беларускі Універсітэт у Мінску, рух “Свежий ветер” і многіх іншых ...
- З павесткі дня не знікае пытанне яднання высілкаў палітычных партый і арганізацый (якія ніяк не аб'яднаныя і, нават кажуць, варожыя адзін да аднаго да гэтага часу). Вельмі станоўчым фактам сталася сумеснае планаванне супраціву інтэграцыі з Расіяй з удзелам большасці апазіцыйных дэмакратычных партый і арганізацый на 20 снежня 2019 года.

- Стварэнне нэтворкаў было б вельмі важным. Да гэтага не было зроблена. Незалежныя СМІ працуюць разрознена. Вельмі станоўчай з'явай сталася аб'яднанне блогераў, якія выступілі супраць інтэграцыі з Расіяй.
- Атрымліваць вайсковыя веды?? – гэта несур'ёзна ў наш час.
- Падтрымка дыяспары, важная, але ніякім чынам не вырашальная.
- Толькі самі беларусы, знаходзячыся ў роднай краіне могуць вырашыць свой лёс і абараніць незалежнасць. Патрабуецца істотная мабілізацыя усіх нацыянальных сіл - на заяўленыя пратэсты супраць інтэграцыі з Расіяй, 7-8 снежня гэтага года, выйшла каля 1000 чалавек або 0.05% ад насельніцтва г.Мінска, што зусім недастаткова.

Думаю гэты спіс могуць значна падоўжыць беларусы на радзіме, тыя, якія раней і цяпер мужна змагаюцца за незалежнасць краіны.

**13. Страта незалежнасці – гэта трагедыя, але наколькі непапраўная? Ці можа народ у такой крытычнай сітуацыі вярнуць незалежнасць і дзяржаўнасць? Калі можа, то якім чынам**

Тэарэтычна магчымая часовая страта незалежнасці не будзе гістарычна працяглай (1-2 пакаленні). Сведчаннем таму шматвекавая гісторыя беларускага народа. Сёння, народ у большасці, не нацыянальная эліта, не гатовы да змагання за незалежнасць і на жаль не акажа супраціву такой пагрозе. Выйсце можа з'явіцца пры змене знешніх абставін і падтрымцы з боку дэмакратычных краін.

**Piotra Murzionak: Independence of Belarus and its value (*magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p. 68-77, www.sakavik.net*)**

This interview was given to Ales Kirkevich, a journalist of the public campaign "Budzma" on December 16, 2019. The questions were about the values and threats to country independence, its gourantors, approaches and impact factors of high importance to keep the sovereignty of Belarus.

**Пётра Мурзёнак: Независимость Беларуси и ее ценность**
***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019, выпуск 24, стр. 68-77, www.sakavik.net)***

Это интервью было дано Алесу Киркевичу, журналисту общественной кампании «Будзьма» 16 декабря 2019 года. Вопросы касались ценностей и угроз для независимости страны, ее гарантов, подходов и факторов воздействия, имеющих большое значение для сохранения суверенитета Республики Беларусь.

*Літаратура*

## Два пераклады Міхася Кенькі: верш “In Flanders Fields”, напісанага John McCrae, Ю. І. Крашэўскі: “Сцэны на сейме”. Гародня. 1893” *(фрагмент з кнігі)*

Сп. Міхась Кенька прадстаўляе ў часопісе пераклад вядомага верша пра вайну “In Flanders Fields”, напісанага John McCrae, а таксама пераклад урыўка твора вядомага польскага аўтара Ю. І. Крашэўскага: “Сцэны на сейме”. Гародня. 1893”. Шчыра вітаем на старонках часопіса “Культура. Нацыя” нашага новага аўтара, сп. М. Кеньку!

Сп. Міхась Кенька, мой зямляк, і мы абодва былі вельмі ўзрадаваныя непасрэдным знаёмствам на падзеі, прысвечанай Дню Успамінаў (Remambrance Day). Падзея адбылася ў Fort York у Таронта 9 лістапада 2019 года, асноўным лейтматывам якой было прачытанне перакладаў верша John McCrae “In Flanders Fields” на розныя мовы. Гэты верш быў напісаны падчас першай сусветнай вайны канадыйскім доктарам, падпалкоўнікам Джонам МакРэ. Пераклады чыталіся на албанскую, башкірскую, габрэйскую, грузінскую, македонскую, нямецкую, каталанскую, кітайскую, рускую і французкую мовы. Беларускі пераклад верша зрабіў і прачытаў сп. М. Кенька. Падчас падзеі адбыўся і невялікі канцэрт, дзе з вялікім посьпехам выступіў фальклорны калектыў “Яваровыя людзі” пад кіраўніцтвам В. Кавалёвай. “Яваровыя” выканалі некалькі песен, звязаных з ваеннай тэматыкай.



Міхась Кенька і Пётра Мурзёнак (9 лістапада 2019 г., Таронта)

| **John McCrae: In Flanders Fields** | **Джон Маккрэй: На Фляндрыі палёх** |
|---|---|
| In Flanders fields the poppies blow<br>Between the crosses, row on row,<br>That mark our place; and in the sky<br>The larks, still bravely singing, fly<br>Scarce heard amid the guns below.<br>We are the Dead. Short days ago<br>We lived, felt dawn, saw sunset glow,<br>Loved and were loved, and now we lie,<br>In Flanders fields.<br>Take up our quarrel with the foe:<br>To you from failing hands we throw<br>The torch; be yours to hold it high.<br>If ye break faith with us who die<br>We shall not sleep, though poppies grow<br>In Flanders fields. | *Пераклад Міхася Кенькі*<br>На Фляндрыі палёх буяе мак<br>Паміж магіл, дзе кожны крыж – то знак.<br>І жаўрукі пяюць, як многа год назад,<br>Калі глушыў іх спевы гул гармат<br>І пamіpалі мы ў час жудасных атак.<br><br>Мы мёртвыя. А некалі жылі мы так,<br>Як вы цяпер. Кахання кожны зведаў смак<br>І сонцу рады быў. Ды кожны з нас палёг<br>На Фляндрыі палёх.<br><br>Паходню нашу падхапіце вы,<br>І клікайце на барацьбу жывых.<br>Нясіце смела гэты знак пакут.<br>Калі ж падманеце вы тых, хто згінуў тут,<br>Не зможам спаць мы, хоць квітнее мак<br>На Фляндрыі палёх. |

**Міхась (Міхаіл Паўлавіч) Кенька** (8 лютага 1947, в. Верацеі, Пастаўскі раён, Віцебская вобласць, Беларусь), беларускі літаратуразнавец, перакладчык. Кандыдат філалагічных навук (1983). Закончыў Магілёўскі педагагічны інстытут (1969). Працаваў журналістам, настаўнікам. З 1973 — аспірант, з 1976 — навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АН Беларусі, з 1983 — намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Юнацтва», з 1988 па 2017 – дацэнт кафедры беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1988 прыняты ў Саюз пісьменнікаў СССР, у 1987 – у Саюз журналістаў СССР. Друкуецца з 1974. Даследуе сучасную беларускую прозу і паэзію, тэорыю і практыку мастацкіх перакладаў, творчасць беларускіх пісьменнікаў. Аўтар кніг па літаратуразнаўстве: «Майстэрства Аркадзя Куляшова — перакладчыка» (1983), «Міхась Лынькоў: Летапіс жыцця і творчасці» (1987). Пераклаў з польскай мовы раман «Крыжакі» Г. Сянкевіча, аповесць “Успаміны Сапліцы” Г. Жавускага, апавяданні С. Градзенскай, аповесці Ю. Крашэўскага “Маці каралёў”, “Апошняя са слуцкіх князёў”, “Кароль у Кясвіжы, 1784”, “Паперы Глінкі”, з чэшскай — «Клапзубава каманда» Э. Баса, апавяданні К. Чапэка, І. Клімы і інш.

**Ю. І. Крашэўскі: “Сцэны на сейме”. Гародня. 1893”**

(Урывак) *Пераклад Міхася Кенькі*

О, гэтыя ваколіцы Гародні, іх вёскі і лясы, прынёманскія даліны і ўзгоркі, ціхія берагі прыгожай ракі, аточаныя вандроўнымі валунамі з далёкіх краёў! О, зялёныя лугі з песнямі пастухоў, статкамі белых авечак, нібы жэмчуг, рассыпаныя па аксамітых палянах! О, бруістыя ручаі, пахілыя бярозы, крывыя старыя сосны, пясок, з якога вецер выдзімае спарахнелыя косці… хаты на каменных падмурках… касцельчыкі, аблямаваныя ялінамі… і вялікія могільнікі, на якіх ядловец ахінае магільныя пагоркі. Хто не носіць вашы вобразы ў сэрцы з тых, каму выпала хаця б раз падарожнікам наведаць гэтыя цудоўныя мясціны?

Край гэты ціхі, маўклівы, ён увесь у спакоі і чаканні. Лясы спяць і сонна гойдаюцца, у дрымоце і зморы цякуць рэкі, лянiва і павольна расце трава, бяроза сонна хіліцца да зямлі… зморана апусціўшы галінкі… нават птаства спявае сцішана, каб не парушыць маўчання…

Край гэты, нібы ў казцы, зачараваны… Паўсюдна сляды даўнейшага жыцця, напружанага, бурлівага, пасля якога настаў спачынак. Зрослыя мохам камяні, якія ляжаць тут і там, некалі грукацелі, перакочваліся ў марскіх хвалях… але тут яны залеглі, зморaныя; вадой павымывала вялікія нізіны, нібы карыты, па якіх ледзьве пасоўваецца вазок… на пагорках руіны былых паселішчаў, наймення якіх ужо ніхто не ўспомніць, у полі плуг выварочвае рэшткі зброі і гаспадарчых прылад... сляды смерці і жыцця… Ніхто ўжо не памятае, хто насыпаў тыя курганы, ніхто не згадае, як называліся тыя вёскі… усё забылася, не засталося ў памяці людской… Адны толькі могільнікі, па якіх асцярожна ступаюць людзі, каб не абудзіць нябожчыкаў. Зірніце, як гэтыя старыя абамшэлыя крыжы на магілах моляцца за ўсіх памерлых ад пачатку вякоў… Як гэта прыгожа, і як гэта нявесела…

Кветка расцвіла на лясной паляне… нахіліся да яе і зазірні ёй у тварык… яна расцвіла на папялішчы… і колер у яе бледны і пах нейкі ледзь улоўны… Кветкі паволі гойдаюцца… Зірні на іх сцяблiны… здаецца, нібыта тысячы вужоў аплялі іх карэнні, што глыбока ўраслі ў зямлю. Прайшлі стагоддзі з тых часоў, калі яны ўраслі ў магільныя пагоркі… нібы шукалі рэшткі жыцця…

Яны растуць няспешна… сонца тут грэее іначай, і блакіт неба нібыта акрыты нейкай празрыстай заслонай – а ўночы, калі высыпяць зоркі – яны нібы заспаныя, такія бледныя і маленькія… Каласы на полі рэдкія, растуць яны невысока… навошта мёртвым хлеб… Наступіць ранне, ажывіць наваколле, з нябёсаў спадзе заслона, і ў лесе заспяваюць птушкі, і ручай зацягне сваю вечную песню… Хай жа спіць старадаўні край бітваў… хай спіць…

Такой соннай была і вёска Верцішкі над Нёманам, за пяць вёрст ад Гародні – але ў ёй усё было прыгожым і мілым сэрцу, хто туды завітаў, той ужо не хацеў жыць нідзе болей. Бо тут усё прамаўляла да чалавека і ўсё з ім здружылася, ад каменння да людзей. Яна аказалася непадуладнай часу, нібы ўвесь свет збіўся з тропу, а яна адна засталася сама па сабе… Былі тут і палі, і лугі, лясы, і бераг Нёмана, і касцельчык на пагорку, і памесце каля дарогі, толькі не стала былых гаспадароў.

О, доля людская! Там, дзе былі святыні, новыя пакаленні будуюць корчмы, на трунах ставяць калыскі, а па слядах анёлаў ступаюць нячысцікі… Там, дзе быў мір, назаўтра з’пачынаецца разня, мардаванне, смерць. О, доля людская!

**Юзаф Ігнацы Крашэ́ўскі** (28.07.1812, Варшава -19.03.1887, Жэнева, Швейцарыя). Беларускі і польскі пісьменнік, гісторык і фальклярыст, рэдактар, выдавец, публіцыст. Пісаў па-польску, лічыцца адным з найвялікшых польскіх пісьменнікаў. Пачынальнік польскай рэалістычнай прозы. Член Польскай АН у Кракаве (1872), Ганаровы член Чэшскай АМ (1873). Бацькі Ю. Крашэўскага паходзілі і мелі родавы маёнтак на Пружаншчыне. Юзаф Крашэўскі скончыў Свіслацкую гімназію, Віленскі ўніверсітэт. Удзельнічаў у паўстанні 1830—1831 гадоў, сядзеў у віленскай турме.

Юзаф Крашэўскі напісаў больш за 600 тамоў твораў: 223 раманы і аповесці, навуковыя працы па гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, літаратуразнаўстве, філасофіі і інш. Шмат яго твораў непасрэдна звязаны з беларускай тэматыкай. Ён аўтар паэтычнай трылогіі з гісторыі Літвы «Анафеляс» (1840—45), 20 драматычных твораў, у т.л. камедый з дзеяннем у Нясвіжы «Кастэлянскі мёд» (1860), «Пане Каханку» (1867), падарожных нарысаў: «Пінск і Піншчына» (1837), «Успаміны пра Палессе, Валынь і Літву» (1840), «Карціны з жыцця і падарожжаў» (1841—42), «Друскенікі» (1848), «Адзенне сялян і мяшчан з ваколіц Брэста, Кобрына, Пружан» (1860). Аўтар гістарычных прац «Вільня ад яе пачатку да 1750 г.» (т. 1—4, 1840—42), «Старажытная Літва. Яе гісторыя, законы, мова, вера, звычаі, песні…» (1847—50), «Барысаў» (1848), і інш. Паўплываў на творчасць Э.Ажэшкі, Б.Пруса, Г. Сянкевіча, Я. Купалы. Два вершы Юзафа Крашэўскага пераклаў на беларускую мову Янка Купала. На беларускую мову яго творы таксама перакладалі П.Бітэль, В.Сёмуха, М.Кенька, Л.Казлоў.

**Michas Kenka: Translation of poem "In Flanders Fields" into Belarusian**
**(*magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p. 78-82,* *www.sakavik.net*)**

Michas Kenka, new author of our magazine, presents his translation to Belarusian of famous poem "In Flanders Fields", written by John McCrae. Reading of this poem translated into various languages occurred at Fort York in Toronto on November 9, 2019. Mikhas Kenka provided also the translation of excerpt from "Scenes in the Diet" written by Polish author Yuseph Kraszewski (Grodno, 1893).

**Переводы Михаила Кеньки: стихотворение "In Flanders Fields" (by John McCrae); Ю.И.Крашевский: "Сцены на сейме". Гродно. 1893 "(фрагмент из книги)**
***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019, выпуск 24, с. 78-82, www.sakavik.net)***

Михась Кенька, новый автор нашего журнала, представляет свой перевод на белорусский язык известной поэмы «На полях Фландрии», написанной Джоном Маккреем. Чтение этого стихотворения, переведенного на разные языки, произошло в Форт-Йорке в Торонто 9 ноября 2019 года. Михась Кенька предоставил также перевод выдержки из «Сцены на сейме», написанной польским автором Юзефом Крашевским (Гродно, 1893).

**Уладзімір Хахлун: Падтрымка чалавека ў жыцьці**

- Хто я ёсьць?

- Мы ўсе адно. Сям’я.

Маючы 49 гадоў, усьведамляючы адказнасьць за будучыню, адчуваючы ў сабе прагу жыцьця – жыву аднасель у радавым месцы Кавалі на рацэ Мнюта, што між Гэрманавічамі і Лужкамі Шаркоўшчынскага раёну, дзе і прыйшоў на сьвет 18.01.1970. А ўжо восеньню, разам зь бацькам Жэнікам і матуляй Раісай, перабраліся на сталае жыхарства ў Глыбокае, адлегласьцю 30 км. ад дзядзінца.

Ясьлі, садок, другая сярэдняя школа ў гэтым месцы. Пасьля яе заканчэньня, 1987, вучоба ў БДУ, Менск, скончыўшы які, 1993, набыў спецыяльнасьць-юрыст. Падчас навучаньня служыў у СА. Надалей праца ў пракуратуры Полацака, райспажыўсаюзе Глыбокага, бізнэс – прадпрымальніцтва, няўдалая спроба выезда на працу за мяжу. У 1994 жанюся. Разам з Аленай нараджаем Дар’ю.

Увесь час самастойнага жыцьця імкнуўся дзейнічаць, бачучы ў рабоце жыцьцёвае шчасьце. Але была, жыла ўва мне, як памятаю зь 6-7 летаў, мара – жыць на зямлі, грунт якой, у любові, да зямелькі, матухны-карміцелькі нашае, і ўспрыняў гэтае празь свайго дзеда Мішку з Бушыкаў. На тое і скіраваў жыцьцёвы рэй сям’і.

І пачалося – гэтае жыцьцё – на старыцы дзядулі Мікалая зь Ёлкаўшчыны пад Дзеркаўшчынай. Адылі нядоўга фермерстваваў. Сям’я не падтрымала. З Аленай разыйшліся.

Наступныя колькі гадоў вагаўся – ці працягваць пачатае на зямлі і дзе? Як вынік, вяртаюся на бацькаўшчыну, 2004, у родныя Кавалі – гаспадарыць на зямлі. Вырошчваю гародніну, гадую кароў, коней, апрацоўваю соткі людзям.

Надыходзіць лета 2012. А адчуваньне прагі жыцьця перакрываецца бязсэнсоўнай земляробчажывёлагадоўляй. Вырашаю ды “развітваюся “ з гаспадаркай, зыходжу з зямлі. Іду ў Глыбокае, каб быць сярод і дзеля людзей. “Дагледжу чалавека”, “Помач чалавеку”. Даю абвесткі ў газэтах і маю практыку стасункаў дапамогі чалавеку сталага веку, чалавеку з абмежаванымі фізічнымі магчымасьцямі.

Праз лета, даўшы волю сваім перакананьням, прыйшоў у Кавалі – з мэтай, быць - жыць на Зямлі. Зараз будую асяродак Каханьня-Жыцьця, школу "Шчасьце", вырошчваю і саджу дрэўцы, кветкі, травы. Маю радасьць з магчымасьці падзяліцца з кожным, даць, аддаць.

Агалошваю абвестку: "Акажу падтрымку чалавеку", што ёсьць даць чалавеку магчымасьць быць самім сабою, жыць на Зямлі сваёй воляй.

1. Падтрымка пачынаецца з майго бязумоўнага прыняцьця іншага такім, якім ён ёсьць, у любым стане здароў'я, веку, сацыяльным становішчы і інш., не парушаючы волі, думкі, псіхікі чалавека, не навязваючы сваё ўспрыняцьце жыцьця і, застаючыся, самім сабою.

2. Падтрымка – прыяньне: ёсьць фізічная прысутнасьць ля чалавека і ўключае практычныя дзеяньні – захады па забеспячэньню чалавека жытлом, святлом-цяплом, вадой, ежай, адзеньнем, абуткам, вопраткай.

3. Падтрымка – гэта прыклад свайго быцьця і запрашэньне да чалавека разам будаваць жыцьцё, бо мы ўсе адно. А жыцьцё – гэта проста быць, тым, хто ты ёсьць, сёньня, тут і цяпер, тым самым, даючы іншаму радасьць – проста жыць.

- Дык хто я ёсьць?

Я есмь чалавек – сын Божы… Я ёсьць, я магу, я гатовы.

І Быць Чалавеку на Зямлі – Жыць Дома...

Нацыянальная ідэя - Рух "Чалавеку Жыць на Зямлі" - радзі Зямлі, дзеля дзяцей.

Садзім дрэўцы, сады, гаі, лясы. Будуем школу "Шчасьце". Захоўваем прыродны асяродак. Падтрымка чалавека ў жыцьці. Запрашаю да жыцьця – жыць у еднасьці, заедна.

**Uladzimir Khakhlun: Human life support**
**(*magazine "CULTURE. NATION", November 2019, issue 24, p. 83-85, www.sakavik.net*)**

In this short assay, the author of 49, is trying to answer his own question "Who am I?" He concludes that the meaning of life includes a support of anyone, that is, to give a person the opportunity to be him(her)self, to live on the Earth with own will.

The life means "… just to be who you are, today, here and now, and in this way giving joy to another - just to live".

**Владимир Хахлун: Поддержка человека в жизни**
***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019, выпуск 24, стр. 83-85, www.sakavik.net)***

В этом коротком эссе автор в свои 49 лет пытается ответить на вопрос «Кто я?». Он приходит к выводу, что смысл жизни включает в себя поддержку кого-либо, то есть предоставить человеку возможность быть им (ею), самим собой ждя того, чтобы жить на Земле по собственной воле. Жизнь означает «… просто быть тем, кто ты есть, сегодня, здесь и сейчас, и таким образом дарить радость другому - просто жить».

**Гена Мельнічук: Палёт кола Сансары кругом патыліцы за хвіліну да абуджэння пчалы**
*(пераклад з расійскай мовы Аляксанда Каралькевіча)*




Прачнуўся. Раніца. Цёмна. Як заўсёды - хутчэй за тэлефон. Паглядзець надвор'е. У Аўстраліі +23. Там хутка лета. Усё наадварот. Як яны там жывуць уніз галавой? Добра жывуць. Пішуць, што лепш чым мы ўніз нагамі. Прычына, мабыць не ў нагах, а ў галаве! Нью-Ёрк +12, нядрэнна. Соня яшчэ спіць. Вялікабрытанія +5, у Лізы туман. У Кобрыне, у цёткі Таісы +12, добра. Цяплей чым у нас. У Наташы +1, халаднавата, ды і вецер, напэўна. Шапку з вушамі на галаву! У Сінгапуры +32. Як заўсёды! Люблю нязменнасць. Да мора і загараць! Канада -13. Сёння холадна. Можа, вецер паўночны. Валёнкі не перашкодзяць. Інна напэўна ўжо накрыла ружы, трэба добра ўцяпліць, наперадзе - зіма. У Воршы - яшчэ восень. У Кіеве - дзядзька - на градус цяплей. У Іерусаліме +18. Зайздрасць дрэнны дарадца.

Звычайна так пачынаецца мой дзень.

Тут гляджу на дату - Ё-маё - 2039 год. Мусіць зданькі паскакалі! Уключыў, выключыў тэлефон. Разумны ж я. Нічога не змяняецца. 2039 - і ўсё тут. Што рабіць? У момант цямлю...

А хутка то ўжо і не атрымліваецца. Мне 74. Нечакана і імгнення. Толькі што малады быў і радасны. А зараз? Старасць - і не старасць яшчэ. Маладосць? Ужо не маладосць! Ні то - ні іншае. Прыдумаў. Другая маладосць. Другая - не ладная, на кані прыкладная. Напэўна, ужо пенсія. А якая там пенсія - самі ведаеце - на Камароўку за малаком і сырам! І на працу не трэба. Што дома рабіць цэлы дзень? На кухні хтосьці грамыхоча патэльнямі або гаршкамі. Ужо і не вызначыш - слых то не той. Напэўна, нейкая бабулька. Не - пажылая жанчына. Ай не - не зусім маладая. Так лепш!

Халодны пот градам. У скронях застукала, у вушах зазвінела. Анёл праляцеў. Уставаць не буду. Заякарусь - то ніколі не вярнуся. Невядома як трапіў, невядома як вяртацца. Памятаю па фільмах, што трапіць лёгка - выбрацца цяжэй. Папабегаеш, папашукаеш той партал... Дваццаць гадоў жыцця кату пад хвост. Якому кату? І ката няма. Адна непрыемнасць за другую чапляецца. Праўду казала мама: "*Жыццё прайшло як адзін дзень*". А тут нават і дня не было. Пераначаваў - і на табе! 2039.

Чухаю патыліцу. Што рабіць?... Ёсць Налады - туды! Дата, час. І хутчэй! Час аўтаматычна, зялёны кружочак. Цісну яшчэ раз. Ізноў - 2039. Усе знік! І белай кашулі не сабраў. Ні падштанікаў, ні шкарпэтак не склаў. Нават насоўкі няма ў руку пакласці. Адразу 74. Колькі яшчэ працягну? Гадоў дзесяць... Хочацца болей. Рукі, ногі накшталт не баляць і галава ясная. Цяміць, раз ясная. Памятаю правіла: "*Стукайся ў зачыненыя дзверы дык адчыняць*". Яшчэ раз у Налады, выбіраю аўтаматычную наладу часу. 20 гадоў можна пракруціць і пальцамі. Абы вярнуцца! І не такое зробіш. Як канёк-гарбунок - і ў кіпень зможаш. Не дай Б-г! Яшчэ мне ў кіпень!? Кручу, кручу, кручу, кручу - аж у вачах зайчыкі заскакалі. Круціцца ўсё - і гады, і месяцы, і гадзіны. Ды так хутка. Толькі год спыніўся, як укопаны. Усё роўна 2039, што такое. На кухні ўжо хтосьці пакашлівае...

Устаноўлена.

Прывітанне! Здарова жывеш! - час ад часу не лягчэй. 1939. Дом драўляны, добра хоць падлога не гліняная. Печ паліцца, 5 гадзін. Хтосьці кукарэкнуў. Пара ўставаць. Восень і халаднавата, снегу яшчэ няма, кастрычнік. Конь іржэ. Ігагоча карацей. Што ў гэты час рабілі? Араць трэба. Захінаць сідэраты. А я і каня запрагаць то не ўмею. Ўмеў, ды забыўся. Куды мне ўставаць.

1939. Бацька казаў: “*Гена! Пры Польшчы Нашы людэ жылы ліпш, чым зарэ*.” Але Саветы ўжо прыйшлі. Так што лепш не атрымаецца, спазніўся. Хутка ўсё забяруць. І дзякуй не скажуць. Ды яшчэ і ў лагер. І не піянерскі! Сіл няма ўставаць. Добраахвотна не пайду. Гэтага дакладна не вытрымаю. Магу стаць антысаветчыкам. А яшчэ і белым спачуваю, і бандэраўцам. Супраць камуністаў і супраць немцаў. Людзі казалі: “ *Будзь заўсёды супраць - не памылішся!* ” Слухаўся.
Спрабую круціць час далей, пару разоў крутануў. Тры разы пстрыкнула. Добра, што наперад, усё-такі бліжэй да дзевятнаццатага. 1942. Здалося або ўзапраўду? - нехта сказаў: “ *гутэн моргэн* ”. Я яшчэ ведаю гутэн абэнд. Усё. Болей - не бяльмеса! Што буду рабіць? На мыгах паказваць? Студзень. Што такое колецца? Я ў лесе. У стозе сена. Мароз. Куды тут уставаць. Немцы ў вёсцы дакладна ёсць. Амаль упэўнены, што калі пачнуць катаваць і ламаць косткі - магу выдаць і партызан і падпольшчыкаў. Слабы я. Страшна. Якая я свіння! Не, на гэта падпісацца не магу, як хочаце. Лепш памерці героем. Можа з Кузьмой падарву чыгунку ў Янаве… Потым аднаўляць... А сэнс?

Трэба рухацца наперад. Шанец выбрацца яшчэ ёсць - зарадкі засталося 11 адсоткаў (трэба было ўвечары на падзарадку падлучацца, гультай). Спрабую круціць далей.
Зарадкі засталося ўжо 9 адсоткаў. Энергіі становіцца менш. Хопіць яшчэ на некалькі спроб. Дні ляцяць як шалёныя і месяцы круцяцца добра. Лічбы ходзяць як звар'яцелыя. Гады скачуць самі сабе, як захочуць. Стаўлю ліпень, будзе цяплей. Я ж басаногі - холадна. І ўсё гэты 2039 выпадае. Як на злосць. Выключу тэлефон. Уключу. Можа само ўсё адновіцца.

Зрабіў хутка. Ізноў - год 2039. Што тут рабіць. Прыйдзецца зноў ў зачыненыя дзверы ламіцца. Здымаю “аўтаматычна”. Кручу рулетку. Гады ляцяць як птушкі. Вераб'і. Круціш назад - на злосць круцяцца наперад. Паспрабаваў круціць наперад атрымалася назад. Ну хоць так добра, што не дзень сурка.

1992. Ооо, да мэты яшчэ зашмат. Бывай краіна, бывай праца. Збірай торбы і ў Польшчу на базар. Дзеці малыя. Конікам на карачках скакаць! Па другім крузе. Не вытрымаю. Уключыў камеру наадварот, гляджу ў экран і праўда - чорны. Не дрэнна. Падманвала Пугачова, што “*Жыццё немагчыма павярнуць назад і мяса з катлет не ўзновіш*”. Маладосць аказваецца вярнуць можна. І на скронях снегу няма, і пузік знік. Выдатна. Ужо бягу, хтосьці плача. Ледзь не саскочыў з ложка. Своечасова стрымаўся. А назад як вярнуцца? А калі я ўжо там ёсць. Пабягу - а там другі Гена такі ж - малады і прыгожы, чорны і без пузіка. Выходзіць нас будзе два? Выносіць ногі трэба. Пакуль не позна.

Надзея пакідае. Апошні шанец. Круціць наладу ўжо не дапамагае. Пастаўлю на аўтамат. Можа сам адумаецца. Паставіў. І шчасце! Валька з кухні крычыць: ”*Гена, чайнік закіпеў. Ідзі гарбату засыпай!* ” Божа, дзякуй табе. Вярнуўся. Хутчэй устаю пакуль тэлефон не перадумаў. Можа яго выкінуць зусім. А ну, як наступны раз не адумаецца, не выправіць час. Што рабіць? І Чарнышэўскі не дапаможа. Вось дурнем жа быў круглым, ня слухаўся. Казалі мне: “Тата, памяняй тэлефон, памяняй тэлефон, ён ужо стары.” Пашкадаваў баксы. Цяпер такое паражыць! Скупы плаціць за ўсё. Зазіраю ў вакно - цёмна. Мінск, восень, лістапад. Усё правільна - на працу. Хутчэй на працу! І сіні тралейбус у выкананні Агузаравай паслухаць. Або Высоцкага - як ты выжыў, як ты выратаваўся?

Адзначым выратаванне - вяртанне.

А кола Сансары ўсё круціцца і круціцца!
Добра хоць памяць адключаюць!

***Гена Мельнічук***
Лістапад 2019

**Gena Melnichuk: Flight of Sansara cycle around back of the head for a moment before bee awakening (*magazine “CULTURE. NATION”, December 2019, issue 24, p. 86-89, www.sakavik.net)***
In this fantastic stotytelling the author imagines that he lives 20 years later, in 2039. Every moment he is trying to be awakened he finds himself in various situations and space-time while attempting to answer the meaning of his life and human life generally.

**Гена Мельничук: Полет Сансары вокруг затылка перед пробуждением пчелы *(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019, выпуск 24, стр. 86-89, www.sakavik.net)***
В этом фантастическом рассказе автор воображает, что он живет 20 лет спустя, в 2039 году. Каждый момент, когда он пытается пробудиться, он оказывается в различных пространственно-временных ситуациях, пытаясь ответить о смысле своей жизни и жизни человека в целом.

**Гена Мельнічук: Віза на жыццё або Транзіт на Кюрасао**
*(пераклад з расійскай мовы Аляксанда Каралькевіча)*




Мае куміры - маякі.
А раней быў - ...
Гісторыі выратавання людзей моцна мяне ўражваюць.

Другая запаведзь - "*Не рабі сабе куміра і ніякай выявы таго, што на небе ўверсе, што на зямлі ўнізе, і што ў вадзе ніжэй зямлі. Не пакланяйся ім і не служы ім; бо Я Гасподзь, Бог твой, Бог руплівец, Які карае дзяцей за віну бацькоў да трэцяга і чацьвёртага пакаленьня што ненавідзяць Мяне, і творыць міласьць да тысячы родаў, што любяць Мяне і шануюць запаведзі Мае.* "

Другая Кніга Майсея. Зыход. Частка 20

Тіунэ Сугіхара, консул і Чалавек.

Памятаю - Не рабі сабе куміра. Так, гэта дакладна. Парушыць другую запаведзь страшна. Пакаранне да чацвёртага калена. Ня трэба кумiраў і пакланення. Залішняе гэта.

Але маякі павінны быць. Гэта неабходна. Сярод высокіх хваль жыццёвага акіяна паспрабуй знайсці той востраў Кюрасао без маяка. Немагчыма. Або без компаса. (Хоць маштабы і не тыя, але таксама дапамагае).

Сугіхара для мяне бліжэй да маяка, чым да компаса. Выпадкова пазнаёміўся з ім, вядома, у павуцінні, Сусветным. Як нядобра гучыць - Павуцінне. Няўжо гэта ўсё-ткі сапраўды павуціна? А я ўспрымаю яе як крыніца. Баржомі. З газам. Часам нервова паралітычным, часам смехавыклікаючым, бывае і прыёмнік-ўключаючым. Дык вось неяк «выпадкова» на хвалях гэтага Сусветнага акіяна з'явіўся ў мяне крэйсер Тіунэ Сугіхара. Японскі консул у Літве. Час вызначыў яму месца, дзе спатрэбілася дапамога ў выратаванні. Цёмна і страшна. Людзі трапілі ў пастку. Назад - нельга, наперад - не пускаюць, няма ВІЗЫ. Ад гэтай паперкі залежыла - жыць ці загінуць.

Консул парушыў інструкцыі. Можа нават і закон. Выдаў візы. І фатаграфію з правым вухам не патрабаваў. Зараз ёсць такая амбасада. Іншая патрабуе фотаздымкаў на белым фоне. Трэцяя - ў цёмнай вопратцы. Чацвёртая - ўсміхацца, але зубоў не паказваць. Пятая - каб быў маладым, шчаслівым, здаровым і ў асяроддзі сяброў. Пятай амбасады няма, вядома, як і кута. Чатыры ёсць дакладна, быў у іх, стаяў у чарзе. Калі мне маладая дзяўчына даслала запрашэнне, каб атрымаць візу на наведванне вострава, не Кюрасао, у амбасадзе пыталіся - А што вы будзеце рабіць там з гэтай дзяўчынай ? Што яны хацелі ад мяне пачуць? Але я на правакацыю не паддаўся. Сказаў, што паедзем на выставу кветак. Мы вельмі любім кветкі! Кветкі паглядзелі, ружы панюхалі, нацешыліся водарам. Тэрмін візы скончыўся. Маладая дзяўчына настойліва запрашае мяне другі раз наведаць востраў. Пытанне ў пасольстве на засыпку - А Ваша жонка не супраць, што вы зачасцілі да маладой дзяўчыны? І скажыце нам , нарэшце, што вы там з ёй робіце? - Ну што вы! Хіба Вы не бачыце німба ў мяне над галавой! Які ж я святы і патрыёт! Пабыўшы ў раі амаль сотню разоў назад вяртаўся ў сваё пекла... Ўздымацца на сваю галгофку.

Гадоў з дзесяці я паважаю адну вельмі заакіянскую краіну. Увогуле то і зараз паважаю. Але патрыятызм часам трохі падае. Яны мяне баяцца. Звычайнага чалавека. Самы вялікі страх - гэта тое, што я магу застацца з імі назаўсёды. Я, самая светлая галава нашай лёгенькай прамысловасці. Такі страшны. Можа Ральф Лаўрэн баіцца канкурэнцыі. А можа гэта з-за лыжачкі, якую я не даставаў з кубка калі гарбату піў. Потым стаў даставаць, але вока ўсё роўна прыжмурваў. Цяпер п'ю чай без цукру - і патрэба ў лыжачцы адпала зусім. А ўзровень культуры па чым

зараз вызначаць? Па лыжачцы, па воку або па хвасце? Можа і хвост у мяне быў. Хто яго ведае. Бывае сочаць. Азірнуся - няма нікога. Пагляджу на неба - ні дрона, ні спадарожніка. Адны зоркі. Страшна мне нават набліжацца да гэтых амбасад. А раптам хвост! А раптам зноў спытаюць. З кім, дзе і як?

Тым людзям у 1940 мог дапамагчы цуд. І ён адбыўся. У консульстве працаваў Сугіхара. Ён не задаваў пытанняў - Што будзеце рабіць на Кюрасао? Для яго ўсё было і так зразумела. Бярыце транзітную візу праз Японію - і на востраў! А там Б-г дасць не згініце. Праехалі транзітам .. І востраў знайшоўся - Кюрасао. Дзякуй маяку. Свяціў. Ярка. Моцна. Але часам мне здаецца, што я таксама там быў. У консульстве. Дапамагаў ставіць штампы. Гасподзь, даруй за святатацтва. Я так люблю ставіць штампы!

Разумею, падтрымліваю. Паважаю. Спадар консул! Дзякуй.

ありがとう領事

Выбачайце, задумаўся.= І тчэ забыўшыся рука= гэтыя іерогліфы.

Яшчэ ў мяне такое пытанне да сусветнага розума - як гэтыя людзі змаглі ў той час выбраць адзіны выратавальны для сябе шлях? А колькі было тых, якія не змаглі! Як навучыцца ў розных жыццёвых сітуацыях рабіць правільны выбар? Чытаеш гэтыя артыкулы і спадзяешся знайсці там хоць маааленькі намёк. Як? Як не правароніць той момант, калі трэба будзе шукаць свой Кюрасао? Не хапае такіх консулаў у сучасных амбасадах. Можа не пыталіся б у нас кожныя два гады на каго ты працуеш і колькі ў цябе грошай ў банку. А калі ў чалавека грошы пад матрацам. І матрац ўжо двухгорбы, як вярблюд. У кожнага свае падыходы да жыццёвых сцэнарыяў, але паперкі ад нас патрабуюць адны. Дай паперку! А мы ж сапраўды стараемся зрабіць жыццё па наш бок плота лепш. Не спяшайцеся так хутка, мы не паспяваем за Вамі. Давайце разам зробім так, каб б людзі не замярзалі ў рэфрыжэратарах, не чапляліся за шасі самалётаў, не танулі ў морах, ці не скакалі праз гэты плот і тунэлі не капалі. Не, плот вышэй ня трэба. Цень вялікая. І сонца засціць. А яно па-ранейшаму ўсходзіць на ўсходзе, дзесьці на Кюрасао.

Цяпер у мяне няма візы. Стары. Не, не я, пашпарт стары, да дзесяці гадоў ўзрост падыходзіць. А для пашпарта гэта ўжо глыбокая старасць. Далей - нябыт, пралайя адным словам. Памяняю пашпарт. І будзем зноў маладымі і новенькімі, я і мой пашпарт. Шкада старога пашпарта. Ён быў малодшым братам геаграфічнага атласа. Гэтая старонка дазваляла пабываць у Амерыцы, гэтая - з'ездзіць у Еўропу, а гэтая - у Азію. Ненадоўга, але дазваляла. А як жа будаваць жыццё калі не бачыў праекта?

Ездзі і глядзі гэтыя праекты, вучыся. Стары пашпарт быў сапраўдны да 2065 года. І я так спадзяваўся адзначыць разам з ім гэтае свята. Свята аб'яднання трэцяга свету з другім і другога з першым.

Ды і юбілей 100 гадоў бывае адзін раз у 100 гадоў. Але прыйдзецца разьвітацца. Зараз друкарня адумалася і друкуе пашпарты толькі на дзесяць гадоў. А там могуць і не працягнуць кантракт. Круціся як хочаш. А калі Сугіхару не знайду - куды дзявацца? Ад клаўстрафобіі гэтай ратуюць Украіна і Расея. Ўсход і Поўдзень адкрыты. Там мяне не баяцца. Смелыя. Не так страшны я, як мяне малююць на візе. Дзякуй ім за гэта. Падымаюць патрыятызм, малайцы. Грузія яшчэ запрашае. Папіць Баржомі. Без газу. Дзякуй таксама. Можа я і не паеду туды! Не галоўнае - мець разнастайныя каштоўнасці. Галоўнае мець магчымасць іх набываць. А калі ў мяне няма візы То і неба - з аўчынку. І ўвесь вінаград становіцца кіслым. Высока вісіць, ня дацягнуцца. Як у лісы. Спачуваю недаступнаму вінаграду, ён заслугоўвае больш высокай ацэнкі. Трэніроўка патрэбна ў падскокванні.

Сугіхара знайшоў выйсце. Паказаў прыклад. Калі не можаш даць від на жыхарства, дай хоць бы транзітную візу. І выратуеш сусвет. Бо ад кожнай зорачкі будзе сузор'е. Усяго толькі штамп - і зззяе сусвет. Свята выратавання.

Я - чалавек другога свету. Павуцінне так напісала. Усяго светаў толькі тры. / Амаль як Явь, Навь і Правь / пранумаравалі ж! Менавіта тры света аказалася чамусьці. Як я трапіў менавіта ў другі? Заяву не пісаў. Па логіцы - мінулае жыццё пражываў у трэцім. Па логіцы - наступнае - у першым. Круціся кола. Па звычцы прыспешваем час, выказваючы жаданне - хутчэй бы Новы год, а там і новае жыццё. Хоць з вышыні свайго пянька гляджу і вось гэтыя іншыя светы таксама перада мной па парадку размясціліся. Мой першы. Потым другі. Потым трэці. Можа, калі б я быў тым разумнікам які дзяліў нас на тры светы, то мой свет быў бы першым. Кожны лічыць свой свет - самым першым. І ўсе прыходзілі б да мяне з фота і з даведкамі з месца працы і прасілі дазволу прыехаць на Каляды. Бо ў мяне такія яркія лямпачкі на гірляндах. І можна Карагоды вакол елкі вадзіць. Я б дазваляў, дазваляў ... Пасля адбіткаў пальцаў! Цацкі на ёлцы вельмі дарагія. Спакуса можа перамагчы. Ой перазалетуценіўся. І ня ўводзь нас у спакусу! Але пазбаўляць нас ні ад каго ня трэба. Дрэннаму танцору і туфлі замінаюць. А дрэннаму мараку - ва ўсім вінаваты капітан. Напэўна, не варта шукаць вінаватых, а пачаць змяняцца самому. Бо вакол добрага чалавека - заўсёды добрыя людзі. І капітан справядлівы. Калі сам такі. Твары дабро - спяваў адзін наш бяззубы артыст. Тварыў. І выраслі ў яго новыя зубы. Не простыя, а бліскучыя.

Востраў Кюрасао - гэта першы, другі або трэці свет? Можа яго забыліся класіфікаваць, і ён не ставіўся ні да аднаго з мiроў. Таму цуд і адбыўся - людзі засталіся жыць. І для іх ён стаў адзіным светам. Цікава, а дзе знаходзяцца краіны трэцяга свету? І ці можна мне з другога свету з'ездзіць хоць бы ў трэці свет. Павуцінне кажа - можна. Вядома, у першым свеце я буду чужы. Як кіслата ў шчолачы. Бурбалкі пойдуць і соль выпадзе ў асадак. А наш, другі свет, гэта, напэўна, праслойка паміж першым і трэцім светам. Каб яны не змешваліся. Каб асадак не выпадаў. Шкада людзей з трэцяга свету. Яны нікуды не могуць рушыць - ані ў другі, ані ў першы. Напэўна, вібрацыі не дазваляюць. А я заўсёды думаў, што ўсе людзі аднолькавыя. Плачуць і смяюцца, бачаць і слухаюць, гавораць і спяваюць. Хтосьці сказаў - не! Трэба падзяліць! Першы гатунак, другі, трэці. Няўжо толькі я не забыўся, што быў такі гатунак - Экстра. А дзе ж свет такі - Экстра? Туды дакладна не пусцяць. І Консул не дапаможа. Хацелася б хоць здымкі паглядзець.

Ой, а так хочацца ўсёй нашай кампаніяй трапіць у Экстра- свет! А што? Мы ўжо культурныя. І дыпломы ёсць. І лыжкамі, відэльцамі ямо. Частка і з нажамі. І джынсы ў нас ужо даўно выцертыя і з дзіркамі. Сучасныя. І прыдумляць можам рознае. Вынаходзіць. Колькі яшчэ пунктаў? Выканаем і перавыканаем. Станем ў першы шэраг . Хоць з краю. З краю было б больш спакойна. Дакладна - гэта геаграфія вінаватая, навошта мы апынуліся ў прахадным пакоі на хуткаснай магістралі Парыж - Берлін - Масква. Збоку трэба было станавіцца, а не лезці ў цэнтр фатаграфіі. Вось і трапілі ў фокус. І не раз. Сфатаграфавалі. Чорна-белая. І вярблюда няма побач, двухгорбага. І свет - Другі. А быў - першы. І першая канстытуцыя ў Еўропе была … Так, было, было ... І дзяржава адна была па ўсёй зямлі, і вежу нядаўна будавалі да нябёсаў. Не спадабалася камусьці. Падзялілі. Цяпер сядзі і вывучай замежныя мовы. І з працягнутай рукой па амбасадах. Пастаўце пазнаку.

Тааак, быў консул. З нашых. Хоць і японец. Ставіў штамп і ратаваў. А хто нас выратуе? Рэлігія кажа - Ратуй сваю душу сам! А цела? А цела тленнае, яго не шкада! А мне і цела шкада. Таму што я жаллівы!

Абыякавыя шукаюць апраўдання. Даведку не дам! Дазвол не атрымаеш! Гэта нельга. Вось у гэтым пункце напісана, што нельга. Забаронена інструкцыяй. І шукаем, шукаем тыя пункты па якіх - нельга. Давайце шукаць тыя пункты - па якіх - Можна. Яны ёсць гэтыя пункты. Ёсць гэтыя Кюрасао! Іх трошкі цяжэй знайсці.

КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ, №24, сьнежань 2019 ISSN 2562-9506

Але яны ёсць. І Сугіхара, творачы міласьць, знайшоў такі пункт. Не ведаю як гэты пункт называецца. Гуманізм можа. А можа - любоў і спагада. Узнагарода - І створыць міласць да тысячы родаў.

***Гена Мельнічук***
2019/12/02
P.S. Каля вострава Кюрасао ёсць астравок Малы Кюрасао. Пакуль што не заселены...

**Гена Мельничук: Виза на жизнь или Транзит на Кюрасао**

Мои кумиры-маяки.
А раньше был ....
Истории спасения людей сильно меня впечатляют

Вторая заповедь - “*Не делай себе кумира и никакого изображения того, что на небе вверху, что на земле внизу, и что в воде ниже земли. Не поклоняйся им и не служи им; ибо Я Господь, Бог твой, Бог ревнитель, наказывающий детей за вину отцов до третьего и четвёртого рода, ненавидящих Меня, и творящий милость до тысячи родов любящим Меня и соблюдающим заповеди Мои.*”

Вторая Книга Моисея. Исход. Глава 20.

Тиунэ Сугихара, консул и Человек.

Помню - Не сотвори себе кумира. Да верно. Нарушить вторую заповедь страшно. Наказание до четвертого колена. Не нужно кумиров и поклонения. Излишнее это. Но маяки должны быть. Это необходимо. Среди высоких волн жизненного океана попробуй найти тот остров Кюрасао без маяка. Невозможно. Или без компаса. Масштабы не те, но тоже помогает.

Сугихара для меня ближе к маяку, чем к компасу. Случайно познакомился с ним, конечно, в паутине, Всемирной. Как нехорошо звучит - Паутина. Неужели это все-таки паутина? А я воспринимаю ее как источник. Боржоми. С газом. Иногда нервно паралитическим, иногда смеховызывающим, бывает и приёмник-включающим. Так вот как-то « случайно» на волнах этого Всемирного океана появился у меня крейсер Тиунэ Сугихара. Японский консул в Литве. Время предоставило ему место, где понадобилась помощь в спасении. Темно и страшно. Люди оказались в тупике. Назад - нельзя, вперёд - не пускают, нет ВИЗЫ. От этой бумажки зависело - жить или погибнуть.

Консул нарушил инструкции. Может и закон даже. Выдал визы. И фотографию с правым ухом не требовал. Сейчас есть такое посольство. Другое требует фото на белом фоне. Третье - в темной одежде. Четвёртое - улыбаться, но зубов не показывать. Пятое - что бы был молодым , счастливым, здоровым и окружён друзьями. Пятого посольства нет, конечно, как и угла. Четыре есть точно, был в них, стоял в очереди. Когда мне молодая девушка прислала приглашение, чтобы

получить визу на посещение острова, нет не Кюрасао, в посольстве спрашивали - А что вы будете делать там с этой девушкой?. Что они хотели от меня услышать? Но я на провокацию не поддался. Сказал, что поедем на выставку цветов. Мы очень любим цветы! Цветы посмотрели, розы понюхали, насладились ароматом . Срок визы искончался. Молодая девушка настойчиво приглашает меня второй раз посетить остров. Вопрос в посольстве на засыпку - А Ваша жена не против , что вы так часто ездите к молодой девушке? И скажите нам наконец, что вы там с ней делаете? - Ну что вы! Разве Вы не видите нимба у меня над головой! Какой же я святой и герой! Побывавши в раю сотню раз обратно возвращался в свой ад. Подыматься на свою голгофу.

Лет с десяти я уважаю одну очень заокеанскую страну . В общем то и счас уважаю. Но патриотизм временами немного падает. Они меня боятся. Обыкновенного человека. Самый большой страх - это то, что я могу остаться там навсегда. Я, самая светлая голова нашей легенькой промышленности. Так страшен. Может Ральф Лаурен боится конкуренции. А может это из-за ложечки, которую я не доставал из чашки когда чай пил. Потом стал доставать, но глаз все равно прищуривал. Теперь чай пью без сахара - и потребность в ложечке отпала совсем. А уровень культуры по чем сейчас определять? По ложечке, по глазу или по хвосту? Может и хвост у меня был . Кто его знает. Бывает следят. Оглянусь - нет никого. Посмотрю на небо - ни дрона, ни спутника. Одни звезды. Страшно мне даже приближаться к этим посольствам. А вдруг хвост! А вдруг обратно спросят. С кем, где и как?
Тем людям в 1940 могло помочь чудо . И оно произошло. В консульстве работал Сугихара. Он не задавал вопросов - Что будете делать на Кюрасао? Для него все было и так понятно. Берите транзитную визу через Японию – и на остров! А там Б-г даст не пропадёте. Проехали транзитом.. И остров нашелся - Кюрасао. Спасибо маяку. Светил. Ярко.

Нескромно. Но иногда мне кажется , что я тоже там был. В консульстве. Помогал ставить штампы. Господи, прости за святотатство. Я так люблю ставить штампы!

Понимаю, поддерживаю. Уважаю. Господин консул! Спасибо.
ありがとう領事
Извините, задумался. И тчэ забыўшыся рука эти иероглифы.

Ещё у меня такой вопрос - как эти люди смогли в то время выбрать этот спасительный для себя путь? А сколько было тех, которые не смогли! Как научится в различных жизненных ситуациях принять правильное решение? Читаешь эти

статьи и надеешься найти там хоть мааааленький намёк. Как? Как не проворонить тот момент, когда нужно будет искать свой Кюрасао?

Как не хватает таких консулов в современных посольствах. Может не спрашивали бы у нас каждые два года на кого ты работаешь и сколько у тебя денег в банке. А если у человека деньги под матрасом. И матрас уже двугорбый , как верблюд. У каждого свои подходы к жизненным сценариям, но бумажки от нас требуют одни. Дай бумажку! А мы ведь действительно стараемся сделать жизнь по нашу сторону забора лучше. Не спешите так быстро, мы не успеваем за Вами. Давайте вместе сделаем так, что бы люди не замерзали в рефрижераторах, не цеплялись за шасси самолетов, не тонули в морях, не скакали через этот забор и туннели не копали. Нет, забор выше не нужно. Тень большая. И солнца не видать. А оно по-прежнему всходит на востоке, где-то на Кюрасао.

Сейчас у меня нет визы. Старый. Нет не я, паспорт старый, к десяти годам возраст подходит. А для паспорта это уже глубокая старость. Дальше - небытие, пралайя одним словом. Поменяю паспорт. И будем снова молодыми и новенькими, я и мой паспорт. Жалко старого паспорта. Он был младшим братом географического атласа.Эта страница разрешала побывать в Америке, эта - съездить в Европу, а эта - в Азию. Ненадолго, но разрешала. А как же строить если не видел проекта, езди и смотри эти проекты, учись. Старый паспорт был действителен до 2065 года. И я так надеялся отметить вместе с ним этот праздник. Праздник объединения третьего мира со вторым и второго с первым. Да и юбилей 100 лет бывает один раз в 100 лет. Но придётся расстаться. Сейчас типография одумалась и печатает паспорта только на десять лет. А там могут и не продлить контракт. Крутись как хочешь. А если Сугихару не найду - куда деваться?

От клаустрофобии этой спасают Украина и Россия. Восток и Юг открыт. Там меня не боятся. Смелые. Не так страшен я, как меня малюют на визе. Спасибо им за это. Подымают патриотизм, молодцы. Грузия ещё приглашает. Попить Боржоми. Без газа. Спасибо тоже. Может я и не поеду туда! Не главное - иметь материальные ценности. Главное иметь возможность их приобретать. А когда у меня нет визы -то и небо - с овчинку. И весь виноград становится кислым. Высоко висит, не дотянутся. Как у лисы. Сочувствую недоступному винограду, он заслуживает более высокой оценки. Тренировка нужна в прыгучести.

Сугихара нашёл выход. Показал пример. Если не можешь дать вид на жительство. Дай хотя бы транзитную визу. И спасёшь вселенную. Ведь от каждой звездочки

будет созвездие. Всего лишь штамп- и сияет вселенная. Праздник спасения.

Я - человек второго мира. Паутина так написала. Всего миров только три. /Почти как Явь, Навь и Правь/ Пронумеровали же! Именно три мира оказалось почему-то. Как я попал именно во второй? Заявление не писал. По логике - прошлую жизнь проживал в третьем. По логике – следующую - в первом. Крутись колесо. По привычке торопим время, высказывая желание - быстрее бы Новый год , а там и новая жизнь. Хотя с высоты своего пенька смотрю и вот эти другие миры тоже передо мной по порядку расположились. Мой первый. Потом второй. Потом третий. Может, если бы я был тем математиком который делил нас на три мира, то мой мир был бы первым. Каждый считает свой мир - самым первым. И все приходили бы ко мне с фото и со справками с места работы и просили разрешения приехать на Рождество. Ведь у меня такие яркие лампочки на гирляндах. И можно карагоды вокруг елки водить. Я бы разрешал, разрешал... После отпечатков! Игрушки на елке очень дорогие. Соблазн может победить. Ой замечтался. И не введи нас во искушение! Но избавлять нас ни от кого не нужно. Плохому танцору и туфли мешают. А плохому моряку - во всем виноват капитан. Наверное, не стоит искать виновных, а начать меняться самому. Ведь вокруг доброго человека - всегда добрые люди. И капитан справедливый. Если сам такой. Твори добро - пел один наш беззубый артист. Творил. И выросли у него новые зубы. Не простые, а блискучыя.

Остров Кюрасао - это первый, второй или третий мир? Может его забыли классифицировать, и он не относился ни к одному из миров. Поэтому чудо и произошло - люди остались жить. И для них он стал единственным миром. Интересно, а где находятся страны третьего мира? И можно ли мне из второго мира съездить хотя бы в третий мир. Паутина говорит – можно. Конечно, в первом мире я буду чужим. Как кислота в щелочи. И соль выпадет в осадок. А наш, второй мир, это , наверное, прослойка между первым и третьим мирами. Что бы они не смешивались. Чтобы осадок не выпадал. Жалко людей из третьего мира. Они никуда не могут двинутся - ни во второй, ни в первый. Наверное, вибрации не позволяют. А я всегда думал, что все люди одинаковые. Плачут и смеются, видят и слушают, говорят и поют. Кто-то сказал - НЕТ! Нужно разделить на миры. Первый сорт, второй, третий. Неужели только я не забыл, что был такой сорт- Экстра. А где же мир такой - Экстра? Туда точно не пустят. И Консул не поможет. Дайте хоть фотографии посмотреть.

Ой, а так хочется всей нашей компанией попасть в первый мир! А что? Мы уже культурные. И дипломы есть. И ложками, вилками едим. Половина и с ножами. И джинсы у нас уже давно потрёпанные и с дырками. Современные. И придумывать можем разное. Изобретать. Сколько ещё пунктов. Выполним и перевыполним. Станем в первом ряду. Хоть с краю . С краю было бы поспокойнее. Точно - это география виновата , зачем мы оказались в проходной комнате на скоростной магистрали Париж - Берлин - Москва. Сбоку надо было становиться, а не лезть в центр фотографии. Вот и попали у фокус. И не раз. Сфотографировали. Черно-белая. И верблюда нет рядом, двугорбого. И мир-Второй. А был-первый. И первая конституция в Европе была...
Да, было, было … И держава одна была на всей плоской земле, и башню-то недавно строили до небес. Не понравилось кому-то. Разделили. Теперь сиди и изучай иностранные языки. И с протянутой рукой по посольствам. Поставьте метку.

Даааа, был консул. Из наших. Хоть и японец. Ставил штамп и спасал. А кто нас спасет? Религия говорит- Спасай свою душу сам! А тело? А тело бренное, его не жалко! А мне и тела жалко. Потому что я жалостливый!

Безразличные ищут оправдания. Справку не дам! Разрешение не получишь! Это нельзя. Вот в этом пункте написано, что нельзя. Запрещено инструкцией. И ищем, ищем те пункты по которым - нельзя. Давайте искать те пункты - по которым - Можно. Они есть эти пункты. Есть эти Кюрасао! Их немножко тяжелее найти. Но они есть. И Сугихара, творящий милость, нашёл такой пункт. Не знаю как этот пункт называется. Гуманизм может. А может - любовь и сострадание. Награда - И сотворится милость до тысячи родов.

G. 02.12.2019
P.S. Возле острова Кюрасао есть островок Малый Кюрасао. Он пока необитаем…

**Gena Melnichuk:** Visa for life or Transit to Curacao *(story in Belarusian and Russian)*
**(*magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p. 90-100,* *www.sakavik.net*)**

**Гена Мельничук: Виза на жизнь или транзит на Кюрасао** *(рассказ, на беларуском и русском языках)*
***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019 г., выпуск 24, стр. 90-100, www.sakavik.net)***

КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ, №24, сьнежань 2019 ISSN 2562-9506

*Краязнаўства*

**Язэп Квач: Нявыдуманыя гісторыі** [1]

**Адкуль ёсць пайшла вёска Жукоўшчына.** *З успамінаў Лысёнка Іосіфа Ігнацьевіча (Юзюнькі).*

“Наша вёска мае даўнюю і слушную гісторыю. Заснавальнікам яе быў нехта Жук. Яго жыллё размяшчалася на высокім берагу Дзісны, куды вясеннія паводкі не даходзілі. Жыў, думае легенда, тут доўга. Але па нейкіх прычынах ён пакінуў нажытае месца, як думае легенда, ён спусціўся з усім нажытым па рацэ ўніз па цячэнню і астанавіўся дзесьці за Шаркоўшчынай. Там ён найшоў месца, дзе і застаўся, аснаваўшы новае паселішча. Па імені заснавальніка (Жука) сталі называць Жукі. А месца, дзе ён жыў раней сталі называць Жукоўшчына. Вот так нам расказвае легенда, якую перадавалі з пакалення ў пакаленне. У гэтым выглядзе яна дайшла да нашага часу.

Чаму ён (Жук) пакінуў месца на Жукоўскай зямлі? Думаюць, што яго сталі непакоіць прыхадзіўшыя сюды чужыя людзі. Можа гэта былі стараверы, уцёкшыя з Расіі ад праследвання. Маглі быць палякі, застаўшыяся пасля зыходу польскага караля Баторыя. Між іншым ён вёў сваё войска, сплаўляючы яго па нашай Дзісёнцы (часткова).

Да ваеннага часу ў Жукоўшчыне было 25 хат крытых саломай. На вайну было прызвана многа нашых жыхароў, з іх 14 не вярнуліся дамоў. Яны гераічна аддалі сваё жыццё за свабоду Айчыны. Заваяванай імі свабодай мы цяпер карыстаемся, памяць аб героях мы павінны свята захоўваць. Гэта памяць аб нашых земляках павінна жыць у вяках.

Вось іх імёны:

- Лысёнак Генадзій – сын Лысёнкаў Лявона і Марыі (дом 19),
- Лысёнак Канстанцін – сын Лысёнка Ягора і Насці (дом 18),

[1] *(запісы, зробленыя аўтарам у вёсках Шаркаўшчынскага раёна, Віцебскай вобласці падаюцца на мове арыгінала)*

- Станюш Мікалай – гарманіст, да вайны служыў у Шаркоўшчыне міліцыянерам. Сын Станюшаў Пятра і Кацярыны. Быў жанаты. Засталіся жонка і маленькі сынок (дом 17),
-Лысёнак Уладзімір – сын Лысёнкаў Міхаіла (Міхалюка) і Анны (Ганеты) (дом 29),
-Касарэўскі Іосіф (Юзюк), загінуў у канцы вайны пад Берлінам – сын Касарэўскіх Юстына (Істука) і Вольгі. Заставіў жонку і сына, якога яму не прышлося ўбачыць,
-Лысёнак Іван, інвалід па слуху. Ён працаваў на Урале, куючы зброю для фронта. Па якойсьці хваробе памёр на Урале (дом 26),
-Райчонак Іосіф – сын Райчонкаў Валерыя і Анны. Дома засталася жонка і дачка Тамара яшчэ малая. Бацьку – героя не памятуе. Звалі ягоў вёсцы Юзюк (дом 26),
-Райчонак Пётр, сын Райчонкаў Ягора і Софіі. Быў у радах партызан. Адтуль пайшоў на фронт, дзе гераічна загінуў (дом 5),
-Гінько Зянон і Гінько Іван (Янук), сыны Гінько Вікенція (Вінцука) і Гілены (дом 22). У Гінько Івана засталіся жонка і сын 1 год,
-Станюш Ананій. Засталіся жонка і трое дзяцей. Дочку Софію і сына Мілеція фашысты забралі на прымусовыя работы. Дома засталіся жонка і 8 гадовая дачка Ангеліна (дом 9),
- Станюш Генадзій – сын Станюшаў Вікенція і Аляксаны. Дома засталіся жонка і дочка 8 гадоў (дом 25),
- Лысёнак Вікенцій – мабілізаваны на вайну нямецка-польскую. Там і загінуў. Звалі яго ў вёсцы Вінцук. Засталіся жонка Надзежда, сын і дачка (дом 4),
- Лысёнак Аркадзя – сын Сімона (Сімука) і Насці Лысёнкаў. Дома засталася жонка Фенька і сын, якога Аркадзь убачыць не змог. Яго на вайну праводзіла жонка, якая была цяжарнай (дом 2).

Вёска Жукоўшчына сапраўдны герой. З 25 двароў(хат) прадстаўнікі 14 сямей сталі героямі, аддаўшы сваё жыццё за свабоду Радзімы. Гэта 14 герояў з маленькай вёскі. Жыхары вёскі могуць ганарыцца і быць удзячнымі сваім героям. Не забываць і сямей, якім было вельмі цяжка, страціўшы мужоў, дзяцей, бацькоў.

**Жыццё чалавека і дрэва — агульны лёс (аўтар Язэп Братка)**

Смерць раўняе ўсіх. І толькі два скарбы ўзвышаюць чалавека над вечнасцю: памяць і дзеці. Якая памяць застаецца, залежыць ад самога чалавека: як жыў, што рабіў? А дзеці – найгалоўнейшая спадчына. Яны наш працяг у бясконцым жыцці. Толькі ў іх мы можам быць бессмяротнымі. І можна толькі дзівіцца з людзей, якія не хочуць мець дзяцей, якія злачынна крыўдзяць іх і нават забіваюць...

Чаму ж мы, беларусы, сёння плачам, што сем'і ў нас рушацца? Чаму, не паспеўшы ўкараніцца, развальваецца сямейная суполка (разводаў амаль столькі, як і шлюбаў)? Чаму маці, нарадзіўшы дзіцяў, вынасіўшы яго дзевяць месяцаў пад сэрцам, кідае немаўля на сметнік? Чаму людзей пазбаўляюць бацькоўскіх правоў? Чаму багата нашых дзяцей жывуць не дома, а ў казённых прытулках? І чаму дзеці ўцякаюць з хатніх гнёздаў? Чаму наогул мы жывём так духоўна бедна, безідэйна? Чаму?..

А таму, што бязродныя мы, безабаронныя: і перад гісторыяй, і ў асобе дзяржавы нашай. Мы глухія і сляпыя да продкаў нашых, да свайго радаводу. Не ведаем імёнаў тых, хто з калена ў калена па генах перадаваў нам здароўе, фігуру, характар. Не спяваем прабабчыных песняў, не памятаем бабулін лячэбнік. Не ўмеем перахрысціцца перад абразамі. Ад гэтага і сорамна, і горка. А з гадамі яшчэ і балюча. Бо не спазнаўшы сваё Я, сямейную планету, дрэва радаводнае - мы – сіроты, абрубкі, проста пні..

Не так даўно давялося слухаць перадачу па радыё. Там распавядалі аб тым, што адна сям'я пасадзіла на сваёй сядзібе дуб, а каб усё было "цывільна", засведчыла гэта завераным дакументам. Хто садзіў і калі. Так бы мовіць, як пасведчанне для нашчадкаў. Садзілі ж не якую-небудзь таполю, не елку, а дуб – дрэва моцнае, сімвалічнае, і не на дзесятак-другі гадоў, а на вякі. Вось і паклапаціліся аб памяці. Не так шмат на Беларусі такіх волатаў – дубоў. Усе мы добра ведаем 450-гадовы дуб-волат у Белавежскай пушчы, 350-гадовы ў Верхнядзвінскім раёне. Дарэчы, як кажуць, пад ім адпачываў сам імператар Напалеон. Таму яны і ахоўваліся належным чынам, што звязаны са знакамітымі імёнамі або падзеямі і цяпер з'яўляюцца мясцовымі рэліквіямі.

Падрастае такі волат-дуб і ў нашай мясцовасці. Канечне, пакуль яму не зраўняцца па велічы і ўзросту з белавежскім, але ў нашай мясцовасці – гэта самае магутнае дрэва. Затое мы ведаем, хто яго пасадзіў, а таксама ўстанавілі яго ўзрост. А расказалі нам пра гэта мясцовыя старажылы – Сікора Мікалай ды ўнук таго, хто пасадзіў дрэва – Сікора Яўген. І вось, што яны распавялі.

Дзеда звалі Аляксандрам. І вось, калі ён ажаніўся, то з другімі мужчынамі ў яго быў, так бы мовіць, "заклад". Пасадзіў Аляксандр у сябе на сядзібе дуб, сасну ды яблыню і загадаў, што будзе ў яго сын і дзве дачкі. А было гэта прыкладна ў 1880 годзе. Дата дакладна невядома, але вызначаецца па наступных прыкметах...

У грамадзянскую вайну, у 1918-1920 гадах, на сасне (бо дуб рос памалей) быў наладжаны польскі назіральны пункт. Палякі з гэтага назіральнага пункта ў Малых

Алашках сачылі за чырвонаармейцамі, якія ў той час стаялі ў Рымках. Як расказваў Мікалай Сікора, на сасну быў усцягнуты “кругляк”, і яны, дзеці, потым забаўляліся на гэтым назіральным пункце. Па тым, што дрэва ў той час у вёсцы Алашкі было найвышэйшае, можна меркаваць, што было тады тром дрэвам не менш за сорак гадоў. Гэта пацвярджаюць і гады нараджэння дзяцей ў сям’і Аляксандра. Такім чынам, праведзенае даследаванне дазваляе зрабіць вывад аб тым, што пасаджаны дуб быў у 1880 годзе.



Споўнілася мара Аляксандра. Нарадзіліся ў сям’і дзеці: дачка Марыля ды Анюта і сын Ягор. Ішоў час, раслі дрэвы, а разам з імі падрасталі і дзеці. Дочкі павыходзілі замуж. Пры бацьку застаўся толькі сын Ягор. Яблыня аказалася дзічкай і мела нясмачныя церпкія плады, ад яе застаўся толькі пень. Незайздросны лёс напаткаў і сасну. Яе галлё так разраслося, што стала перашкодай пры правядзенні лініі электраперадач, і сасна была спілавана. У дуба ж толькі паабразалі галлё, і зараз ён

упрыгожвае ўсё наваколле. Шэфства над дубам зараз узяла мясцовая школа. Дуб агароджаны. На агароджы надпіс: хто і калі пасадзіў дрэва, а таксама папярэджанне аб тым, што гэта помнік культуры і ён ахоўваецца дзяржавай.

Дарэчы, дуб знаходзіцца побач з сядзібай Івана Паўлавіча Сікоры і ўсяго на пяць год старэйшы за яго (І.П.Сікора нарадзіўся ў 1885 годзе). І мы з гонарам можам сказаць: “Пад гэтым дубам любіў адпачываць Іван Паўлавіч.” Цікава, што прозвішча Сікора таксама ўспамінаецца ў радаводнай кнізе Ўладзіміра Ліпскага, як старажытны шляхецкі род. На жаль, пакуль няма такога чалавека, які б змог дакапацца да дзесятага калена ў знакамітым родзе Сікораў.

Ідзе час, разносіцца па наваколлі насенне дуба-волата, яшчэ шырэй распаўсюджваюцца знакамітыя гатункі Сікоры. І хочацца верыць, што гэты дзіўны тандэм волата-дуба і чалавека-садавода захаваецца ў нашай памяці, як сімвал велічы, чысціні, непадуладнасці часу, адзінства чалавека і прыроды.

А мы ўсё ляцім і ляцім у бязмежнай касмічнай прасторы. Мы—маленькія іскрынкі сусвету, якія загараюцца толькі на адно імгненне. Застаюцца толькі попел ды пні. І толькі два скарбы ўзвышаюць чалавека над вечнасцю: памяць і дзеці.

**Страцілі ўсё, але засталосяся галоўнае – сям’я і зямля.** *Успаміны пра вайну Лысёнак (Райчонак) Ларысы Адамаўны.*

Нарадзілася 2 ліпеня 1935 года ў в. Рымкі. Маці была на 20 гадоў маладзейшая за бацьку. Рабілі сваю зямлю і частку зямлі бацюшкі, узяўшы яе ў арэнду. Мелі 4 каровы, каня, малацілку, варпу і шмат іншага.

Падчас вайны па лясах было шмат т.зв. партызан, але ў большасці былі проста бандыты, што вымагалі з людзей прадукты, вопратку, грошы, некаторых людзей нават забівалі. Быў у партызанах і іх дзядзька, Райчонак Мікалай, што жыў за рэчкай. А недалёка па суседству таксама жыла цётка. І вось, а гэта было якраз перад пакровам (14 кастрычніка) 1942(?) года, цётку паклікаў сусед і пачаставаў, адрэзаўшы у свірне ладны кусок кумбяка (вяленага мяса). Калі выходзілі з будынка, убачылі, што з-пад Стахоўскіх ідуць ланцугом у бліскучых касках карнікі. І адразу ж да нашых хат, бо побач жыў Райчонак Мікалай, хаця і не той партызан. Адразу сталі паліць, торкалі пад саламяныя стрэхі факелы.

Маці якраз пякла хлеб, вынесла яго на вуліцу дык і хлеб той згарэў. Людзей сталі збіраць на падводы і пагналі ў Варапаева ў гета, некаторыя паразбягаліся, у тым

ліку і Адамок (яе бацька) руччом стаў прабірацца да лесу. Малая Ларыса далася таксама следам за бацькам. А маці, як убачыла, што гарыць хата, прыляцела і стала шукаць малую; думала можа ў хаце, ці па хлявах, можа дзе пачуе плач, але ўсё марна.

Бацька бег слаба, яго дагналі, палажылі на плячо аўтамат і выстралілі. Ён пасля зусім аглох і паваліўся. А Ларыса, пабачыўшы карнікаў, стала пераважваць каня, забіваючы кукай (драўляны малаток) кол (тым хацела падмануць, што яна не збіралася ўцякаць). Яе малую і не чапалі. Потым знайшлася і маці (адзін з карнікаў, украінец, паказаў, куды пабегла малая). Сталі прабірацца на вёску Васюкі. Некаторыя ехалі на падводах. Праз Голбіцу маста не было. Маці перанесла яе на плячах, а сама па грудзі ў вадзе. У Васюках жылі далёкія родзічы, бацькавай сястры мужа сястра, Лабатыя Лідзя і Валодзя.

На раніцу маці пайшла ў разведку на папялішча. Знайшла там бацьку ў абгарэлым кажуху. Злавілі жаробку і карову – усё, што ўцалела. Сядзець на чужых харчах маці не магла. Пашыла торбы і пайшла з малой па вёсцы жабраваць. Людзі як убачылі, плакалі і сказалі - не хадзі, мы табе прынясём. Далі і есці, і на пасеў зярна і бульбы. Як пацяплела пераехалі ў Рымкі, каля печкі злажыл нейкую будку з агаркаў і так зімавалі. Галадалі, збіралі насенне шчавука, маці з гэтага пякла бліны і варыла зацірку. Добра што было чым забяліць. А калі паспела пшаніца, нарвалі каласкоў, у руках выцерушылі, выдзьмухалі і напяклі бліноў. Якія былі смачныя! Такі ўспамін ад бабулі Ларысы. Ва ўсіх свае гісторыі, свае страты і лёсы, што паламала вайна.

**“Прасяшчым даюць!”**

У тутэйшых месцах пра партызан склалася ў асноўным негатыўнае меркаванне, як пра бандытаў, абіралаў і нават забойцаў. Чым, напрыклад, вызначыліся Рымкаўскія партызаны. Найперш яны ўзрывалі масты праз руччы па дарозе з Пятровіч у Рымкі. Каму ад гэтага была шкода? Толькі не немцам, бо “гэтым “гасцінцам” яны не карысталіся, а шкода была нанесена мясцовым мужыкам, што не маглі пэўны час праехаць праз тыя руччы, праўляючы свае гаспадарчыя патрэбы. Больш таго даходзіла нават да забойства, калі справа ішла аб золаце.

Мясцовая шайка ў складзе Райчонка Пётры і Яловіка Пётры з Рымак, Мышко з Беляк, Знорка з Прошак ведала ў каго павінна быць золата. Сваё вока недобразычліўцы паклалі на рымкаўскіх настаўнікаў Пётру і Канстанціна ды багацейшых гаспадароў Татарына і Антося. Але хто так лёгка аддасць нажытае цяжкай працай золата, а можа ў каго яго і зусім не было. Нічога не атрымаўшы,

бандыты завялі сваіх ахвяр у Мішуты ў балота і там іх забілі. Вядома ж не абышлося без здзекаў і катавання. Сямейнікаў прыстрашылі каб тыя маўчалі, а хто аказаў супраціў, як Салька, жонка Антося, тую ўсю парэзалі, але неяк выкарабкалася і засталася жыць. Мясцовыя бабы хадзілі глядзець і дзівіліся. Столькі было крыві на белых кужэлбных прасцінах (у бяднейшых такога не было і на цёмнай посцілцы і кроў бы тую не так відаць).

Былі і ў партызан "совісныя" людзі. Сям'ю пагарэльца Райчонка Адамка прыхінулі Лабатыя з Васюкоў. А з партызанамі быў Адамковай жонкі дваюрны брат Стась. Не патрабаваў, а паказаў маці, якія ў яго парваныя споднія штаны, гаспадыня яго адзела. Гаспадар, баючыся партызан, завёў свайго жарабка аж у Більдзюгі да швагры. Прышлі партызаны і пытаюцца жарабка. Гаспадар кажыць: "Здох."

- Паказвай дзе закапаў.
- Зіма, замёрзла, завеіла.

Паставілі да сцяны і будуць страляць. А як дайшло да гэтага да Стася: "Ратуй, Стасічык, гэта ж такія добрыя людзі, і нас кормяць і нашу скаціну. Дык ён падышоў да свайго напарніка і забраў у яго стрэльбу.

Лысёнак Мечык рана застаўся без бацькоў і жыў з бабуляй. Неяк выкармілі кабанёнка і закалолі яго на зіму. Радаваліся, што з гэтым неяк перазімуюць. Свежаніна, як звычайна захоўвалася на гарышчы на шастах ды ў кашах, падвешаных пад страхой. Але не доўга ласаваўся ўнук і цешылася бабуля (старая вельмі не давала і малому раскашаваць, каб хапіла на ўвесь год). "Партызаны" з мясцовых таксама мелі на гэту свежаніну свае планы. І адной раніцы бабуля знайшла прадранай сваю саламяную страху і не знайшла свайго "сала, кумбякоў да кілбас".

Маёй маме, Квач Веры 1929 г.н., што жыла ў Квачах, ў той час было год 12-14. На маё пытанне "Як ты помніш партызан?" Адказвае: "Прыхадзілі лічы кожную ноч нейкія латыгалскія, ваўкалацкія, сваіх ні было. Як закрычаць: "Хазяін, адкрывай!" Выйдзіць татка у споднім і марозюць яго, а то паб'юць, калі не знойдуць, што ім трэба. Старэйшая сястра (ёй было ўжо 17) прыкідвалася хворай, баяліся, бо ім і дзеўкі былі патрэбныя (вядома ж для чаго). Забралі белую кабылу. А такая добрая была, сытая, дужая, ні разнасіла. Плакаў татка плакаў, каб аддалі, хадзіў потым шукаць. Як жа гаспадару без каня. Карову, каб не забралі, дык азялі самі ды зарэзалі ды хоць па-троху елі. А кабана былі схаваўшы ў балоце. На астраўку выгарадзілі яму выган і праз ваду насілі яму есці каб ніхто не бачыў.

Кіёнак Зонька 1934 г.н. жыла ў Паташні (гэта недалёка ад Беляк).

Бацька і чатыры браты працавалі на запашцы ў пана. У іх было 40 гектараў зямлі, шмат скаціны. Гаспадар аддаваў ім трэцюю частку ўраджаю. Калі прышлі Саветы ён некуды выехаў і ўся вялікая сям'я засталася жыць у панскім доме. Партызанам было тут чым паласавацца. Аднаго разу прыйшлі, нагрузілі воз збожжа, запраглі каня і павезлі. Бацька браўся ісці за канём, але яго спынілі і сказалі: "Адгонім!" Як у ваду па дзісь дзень! А аднаго разу прыйшлі і сталі ў бацькі патрабаваць аружыя. Казалі, што ў пана павінна быць. Бацьку ўжо падвялі да плата і хацелі расстраляць, але заступіўся солтыс з Полава і бацьку адпусцілі. Як мы спалохаліся, галасілі!

У Мядзюхі Антося з Зямцоў падгадаваўся к таму часу ладны бычок. Ці прадаць, ці сабе зарэзаць на мяса? Пакуль ён вагаўся – справу вырашылі партызаны. Прыйшлі і "папрасілі ветліва" аддаць ім бычка. Як ні шкада было мужыку, але навучаны і наслуханы аб тым, што могуць зрабіць партызаны адказаў ім словамі амаль, што як па Евангелю: "Прасяшчым даюць" і сам забрытаў ім свайго пестунка.

**Дачушка не плач! Я вярнуся!** *Вайна вачыма Мажэйка (Станюш) Міраіды Генадзьеўны.*

Нарадзілася Міраіда 15 лютага 1938 года ў в. Жукоўшчына. Жылі заможна – мелі шмат зямлі. Іх хата стаяла якраз на скрыжаванні з вулкай, што ішла на Алашкі. Хата была вялікая на два канцы, у другой палавіне жыла сям'я дзядзькі Донькі, а ў першай - сям'я Станюша Генадзія (Тоня, Генадзій, малая Міра і бабуля).

Цёця Міра ўспамінае:

У суботу пайшлі мыцца ў байню, якая стаяла на беразе Дзісёнкі і не дамыліся – убачылі, што за ракой паляць хаты, якая ўжо тут байня… Бацькі не было дома - забралі ў абоз немцы. Мог бы і застацца, але пашкадаваў свайго жарабца, бо прападзе ў чужых руках.

Раніцай маці стала пячы хлеб і тут у хату ўварваліся паліцаі і давай на ўкраінскім загадваць выходзіць з хаты, а самі вернуць усё ўверх дном і рабуюць. Пагналі ў канец вёскі, на так званую палянку (гэта за Сетавым руччом). Паставілі ўсіх на каленькі, кругом кулямёты, немцы з паліцаямі. Стаім уся вёска і я з мамай і бабуляй. Расклалі вялікі лом. У Ванькі Бубалькі, што жыў напроціў, была свіння з вялікімі парасятамі. Дык ловяць тых парасят ды смажаць на гэтым агні. А вулку ўжо запалілі, хадзілі ад хаты да хаты і торкалі пад саламяную страху факелы, але затым прыйшоў загад больш не паліць і самі тыя ж паліцаі давай тушыць будынкі. Але што ужо добра ўгарэлася – тое і дагарэла. Па правы бок згарэлі хаты аж да

вулкі, што на Алашкі, а па левы да хаты Гордзі Свірчковай (запаленую хату яшчэ ўратавалі).

Я, малая, успомніла, што ў хаце ў пячурцы застаўся цукар у вялікіх кусках і я пабегла дадому, як за самым дарагім, а там працягвалася рабаванне. Я забрала сваю торбачку з цукрам і да сваіх і ніхто на мяне не звяртаў увагі. З вулкі з Алашак тым часам сунулася вялікая нямецкая машына з карнікамі, і так як вулка была вузкая, то яна выварочваючыся, аж упёрлася ў нашу рабіну, што расла пад акном. Прыбегла назад да сваіх з цукрам. Нашы ўсе як стаялі на каленьках так і стаяць, а карнікі акрамя парасят смажуць яшчэ і гусей.

Пагналі нас у Полава, дазволіўшы ўзяць нешта неабходнае з сабой. Мы ехалі на тарантасе з дзядзькам Юзюком (бацькам Ірыны Іосіфаўны) на яго кульгавай кабыле. Пераехалі Дзісенку праз мост. Сабралі на пляцы, дзе быў рынак для людзей з усіх бліжэйшых вёсак. Да дзядзькі Юзюка падскочыў нейкі афіцэр і давай яго збіваць за тое, што ляжыць на тарантасе. А дзядзя быў інвалід з польскага войска - у яго быў тубіркулёз касці і нага была ў ранах, ён не мог хадзіць. Цётка Манька разула яго паказала нагу і тады немец адчапіўся ад беднага. Адбіралі маладзейшых і тых, хто ім падыходзіў для працы ў Германіі. Хацелі забраць і нас з мамай, але я плакала і неяк абышлося. З нашых забралі Соню Міхалюкову, Гінькавых Гжэгуша з Зонькай, Анюту Сірожы Ліпінага, Генадзьку Бубалькавага, сястру Аркадзі Феньчынага яшчэ некага.

З Полава дамоў нам не дазволілі варочацца, а сказалі ехаць на Шаркаўшчыну. Нас прыхінула пажыць Валікава цётка ў Пяліках. Жылі там нядзелі са дзьве, спалі на падлозе на саломе, блохі, цесната, але і за гэта дзякуй. А цётка Фенька была такая пранырлівая, дапёрла да Жукоўшчыны і даведалася, што можна вяртацца дамоў. Вярнуліся назад – у хаце ніводнага вакна, падлога уся паднята (так пэўна ж золата шукалі). З адзежы засталося толькі самае благое, але хоць сцены ўцалелі і таму рады. У прылазніку былі закапаныя скрыні з аўсом і ячменям – там не шукалі. Дапамог дзед з Грыблоў абціскаць так-сяк хату, так і жылі. Пяклі хлеб з аўса і ячменя. Хутка з абозу вярнуўся бацька, уцёк без жарабца, але і таму быў рады.

Калі немцы адступілі, то ў нашай хаце на кароткі час была тылавая бальніца, а мы на гэты час жылі ў клеці (свіран для зярна). У двары была кухня. Добрыя былі людзі: усіх кармілі - і нас, і чужых. Я тут першы раз пакаштавала шакаладкі і сапраўдных цукеркаў. Тады тату забралі на вайну. Я бегла за машынай і плакала. А ён супакойваў і крычаў: "Дачушка не плач! Я вярнуся!" Не вярнуўся. Загінуў і пахаваны ў Польшы. Як пасля расказваў яго сябра з Варапаева, афіцэр сярод белага

дня павёў байцоў у атаку на нямецкія кулямёты. Маці Тоня выплакала вочы па мужу, а дачка Міра зведала ўсе цяжкасц, як гадавацца без бацькі.

**Сірочы хлеб.** *З успамінаў Райчонак (Жадзейка) Алімпіяды Ягораўны.*

Нарадзілася …1932 года ў Глінішчы, што ля чыгуначнага маста ў Пятровічах. Восенню 1941 года вучыліся ў Слабадской школе. Была пара, што ўжо малацілі жыта. Аднаго дня прыехалі аднекуль на конях партызаны, нацягалі на мост праз ручэй каля тарасовай хаты саломы і запалілі яго. Мост быў пашкоджаны, але яго хутка адрамантавалі. Пра дыверсію хутка дазналіся немцы і з Варапаева прыехалі на васьмі машынах карнікі. Усіх сагналі на край сяла і пастроілі па сем'ях. Мы ідучы са школы чулі аўтаматныя выстралы, але ішлі дамоў і не хаваліся.

А да школы была дарога праз лясок. Калі мы выйшлі з яго, то немцы хацелі па нас страляць, але ў вёсцы жыў Васюковіч Мікалай, што троху ведаў па-нямецку. Ён сказаў, што гэта дзеці і нам дазволілі стаць да сваіх сем'яў. У нас былі я, мама і Лора, а бацька быў недзе схаваўшыся. Усе чакалі, што нас ужо будуць страляць. Але тут едзіць з-пад Жукоўшчыны машына, на прыступках стаіць немец і нешта махае шапкай. Прыехаў і стаў нешта казаць сваім. А Мікалай Васюковіч зразумеў і сказаў: “Ціхуця, людзі! Мусіць будзім жыць!” Мы павесялелі, але не надоўга.

Партызаны ўцякаючы згубілі аднаго каня, і немцы па-гэтаму меркавалі, што ў вёсцы ёсць партызаны. Па-гэтаму яны загадалі выйсці наперад чужым. Да Гіляра быў прыйшоўшы швагра з Грыблоў - памагаць малаціць, да Еўдакіі - брат з Гарбуноў, да Ананькавай цёткі - пляменніца Алімпіяда. Але ў яе быў знаёмы з Варапаева паліцай і сказаў, каб яна не прызнавалася, што чужая. Яшчэ ім не спадабаўся сын Гіляра. Ён быў неяк так адзеты, што немцы западозрылі ў ім партызана. Усіх траіх вывелі і ў нас на вачах расстралялі. У Гіляровага сына стралялі тры разы. Пасля першага разу ён устаў і сказаў: “Людцы, ратуйце, я ж не вінаваты!” Яшчэ раз выстралілі і скінулі ў яму. І там ён устаў, і трэці раз яго ўжо дабілі.

Паліцаі тым часам хадзілі па хатах і забіралі сабе што лепшае. Наша бабуля, Зенка, ішла са Слабады. Яе сустрэлі каля Тарасовай хаты і запыталі ці бачыла партызан. Тая сказала “так” і паказала, што тыя даліся ў бок Сямёнавічаў. Завялі яе за хлеў і таксама расстралялі. Нас адпусцілі дамоў, а дома мы ўбачылі абрабаваныя хаты і вэрхал.

Праз некаторы час немцы і паліцаі паехалі на Каз’яны шукаць партызан і казалі, што там партызаны іх многа пабілі. Недзе ў Азіраве ці яшчэ дзе. А тыя, што ацалелі, прыехалі ў Агальніцы і прыказалі мужыкам на падводах ехаць забіраць пабітых. Выправілі майго бацьку (Жадзейка Ягора), Ваньку Батуронка (Капейку) і Сашынага бацьку (Андрэйчыка Ваньку). Прыехалі ж яны ўжо да партызан у Азірава. А тыя п’яныя і аддаваць забітых ня хочуць. Як ехаць дамоў? Тады адзін узяў і напісаў запіску, каб паліцаі прыязджалі самі. Едуць мужчыны дамоў і думаюць: “Ну тут нам і смерць!” Аж прыехалі, падалі тую запіску, паліцаі зматаліся ў Варапаева і ніхто нашых мужчын не чапаў.

Жыла ў Агальніцах такая Гілена і быў у яе сын Міледзя. Той быў ужо дзяцюком. І паталанілі яны з Антонам (сваяком з Асіннікаў) абіраць па начах людзей, прыкінуўшыся партызанамі. Займелі недзе вінтоўку і ёй наводзілі страх на тых, хто сапраціўляўся. Бралі ўсё, што падабалася. Асабліва адзенне, маладым жа дзецюкам хацелася пафарсіць на вечарынах. Абабралі і сям’ю Рамановічаў з Куснёў. Ведалі куды ісці і было чым пажывіцца ў Рамановічаў. Гаспадар быў на заработках у Амэрыцы і прысылаў дарагія пасылкі, у тым ліку і касцюмы. Адзін з такіх і забраў сабе Міледзя. Касцюм быў прыметны па мацерыі, а яшчэ для форсу з кішанька вытыркалася насатка. З Грыблоў ішла замуж родзічка Гілены. Вінчаліся ў царкве ў Рымках. Быў на вінчанні і Міледзя і красаваўся ў сваім загранічным касцюме. А Рамановічыха таксама была на службе і канечне ж не магла не прызнаць свой касцюм на “начным госці”. Заявіла пра гэта немцам, якія месціліся ў Пятровічах у будынку фанернай фабрыкі. Мы бачылі, як вялі яго праз вёску. Рукі звязаныя дротам і ён у доме сваім паказваў, што нацягаў ад людзей. А Фаня (Федзі Мядзюхава дачка), яго ўхажорка, стаяла пад акном і горка плакала. “Партызана” зноў павялі ў Пятровічы і там расстралялі.

А Гілена, яго матка, стала за гэта помсціць аднавяскоўцам. Яна заявіла немцам пра сувязь з партызанамі на майго бацьку, тады Пархамцову бабулю і яшчэ адну сям’ю (два сыны і матка). Усяго пяць чалавек. Іх вызвалі ў Шаркаўшчыну ў гміну. Затым перавезлі ў Глыбокае і адтуль ужо не адпусцілі. Мама з дзядулям два разы ездзіла туды на кані і бачылася з татам праз провалаку. А трымалі іх у нейкім свірне, каля моста праз рэчку ў Глыбокім. Перад новым годам мама ізноў паехала на сустрэчу. Там быў знаёмы ахраннік і сказаў, што іх вывезлі на збаданне (дапрос). Пэўна іх павязлі ў Беразвечча і там расстралялі.

Нам з мамай і сястрой вайной прыйшлося туляцца па чужых хатах. Я, як была старэйшая, дома амаль не працавала. Усюды наймалася; то жаць, то малаціць, то бульбу выбіраць. Гэта пакуль жылі едзіналічна, а пасля і ў калхозе. Усё ж рабілі ўручную. Напрацавалася я за сваё жыццё!

**Божы провід**

Восенню 1939 года перад прыходам саветаў палякі ўцякалі на ўсход. Ехалі на мацыклетах, роварах, коньмі і пехатой. Ля Ваўка Федзі сядзелі пад вечар на лаўцы мужчыны і спыніўся, едучы на веласіпедзе ксёндз. Ён стаў пытацца, каб дзе пераначаваць. Яго ўзяў да сябе К.В. Як сцямнела схадзіў у Грыблы за сваім шваграм Б.Ф. Калі ксёндз заснуў, то сталі біць яго кукай. Падняўся крык і дачка крычала: “Што вы робіце?” А людзі гэта чулі, бо ноччу па чарзе пілнавалі вёску, каб не падпалілі якія прахожыя, бо чужых тады ішло многа.

Ксяндза раздзелі, забралі грошы, а цела закапалі на месцы ў вараўні. І гэта сышло ім з рук. Новая ўлада толькі ўсталёўвалася, што ёй было за справа да “нейкага польскага ксяндза”, ды ніхто на іх і не заявіў у міліцыю. Сышло ім з рук ды не зусім. Божы провід ўжо пры жыцці пакараў зламыснікаў. Сын К.В. памёр у хуткім часе ў 18 год ад апендыцыту і быў пахаваны ў тым самым ксяндзовым шэрым касцюме. Аднавяскоўцы гэта бачылі і гэта было сведчаннем таго, што іх дагадкі пра забойства спраўдзіліся. У Фёдара беды абрынуліся аж на ўнукаў і праўнукаў, якія таксама сталі забойцамі.

А яшчэ папаўся і сам К.В. У ток да А. прыйшоў ранены партызан і папрасіў, каб яго завязлі праз рэчку да К.В., бо яго сын таксама быў у партызанах. А. сказаў пра гэта К.В. і яшчэ адднвму чалавеку, а тыя ўзялі ды завязлі яго ў Шаркоўшчыну і перадалі яго немцам, а тыя яго расстралялі. За гэта пасля вайны К.В. атрымаў 25 гадоў цюрмы.

**Жывыя сведкі трагедыі.** *Успаміны Савелавай Марыі Ўладзіміраўны.*

Чым больш жыву, тым больш пераконваюся ў наступнай думцы. Калі ёсць магчымасць – пагавары са старымі людзьмі. Кожны раз не толькі даведаешся пра нейкія цікавыя факты, але і станеш багацейшы духоўна, атрымаеш нічым неацэнны жыццёвы вопыт. Прайшоў міма, не “зачапіў” яго на адкрытую размову і, магчыма, наступнага выпадку не будзе. Жыццё ж не бясконцае! Шкада, але часта мы пра гэта ўспамінаем толькі тады, калі страчваем, як цікавых субяседнікаў, не толькі знаёмых, але нават і родных. Па рабоце давялося абходзіць пенсіянераў і запісваць звесткі пра іх. Завітаў у хату да Савелавай Марыі Уладзіміраўны з вёскі Зямцы. Даведаўшыся, што яна з 1927 года, міжволі запытаў, што яна напэўна памятае вайну. У адказ – слёзы і наступны расказ.



Марыя Савелава

Жылі ў вёсцы Трабаўшчына. У сям'і было чацвёра дзяцей: старэйшая сястра, малодшы брат, і малодшая сястра, якой на той час было ўсяго сем месяцаў. Бацька быў сляпы з першай сусветнай вайны. Папаў пад газавую атаку немцаў і страціў зрок. Пад час вайны жылі як усе: працавалі на гаспадарцы, заўсёды былі ў страху то ад немцаў, то ад партызан.

Менавіта за тое, што партызаны былі частымі гасцямі ў Трабаўшчыне, немцы вырашылі расправіцца з мірнымі жыхарамі. Сям'і Вайцяховічаў (дзявочае прозвішча Марыі) хтосьці падказаў, каб выходзілі з вёскі. Што спаляць – ніхто не казаў. Але для перасцярогі да родзічаў на хутар Буды маці адправіла Марыю з бацькам, братам і малодшай сястрой. Пражылі там некалькі дзён. Трэба ж было нешта есці, у нечым гатаваць. І Марыю адправілі дамоў. Было гэта 2 снежня 1942 года. Узяла з дому нейкі кацялок, солі, круп і лыжкі. Вяртаючыся назад, па дарозе сустрэла карнікаў. Па словах Марыі – гэта былі ўкраінцы. Запыталі куды ідзе. Добра, што сказала, што ідзе дамоў у Буды, а не з дому, а так бы вярнулі дамоў. Гэта і выратавала ёй жыццё. Сагнаўшы ўсіх жыхароў, карнікі адабралі самых маладых хлопцаў у Германію. Астатніх сагналі ў 4 хлявы і спалілі, усяго 124 чалавекі: і дзеці, і старыя, і дарослыя. Сярод іх была і маці са старэйшай дачкой.

Ад стрэсу Марыю "пакаціў" тыф. Цудам выжыла. Можна толькі ўявіць колькі яшчэ гора давялося перажыць Марыі з бацькам-інвалідам і двума дзецьмі ў час вайны, адбудоўваючы жыццё пасля. І замуж пайшла позна ў 27 год, калі ўжо падгадавала

меншых. Пайшла замуж за ўдаўца на траіх дзяцей. Ды сваіх яшчэ нарадзілася пяцера. Але жылі дружна, ў згодзе, многа працавалі і мелі дастатак у сям'і. Зараз Марыя Уладзіміраўна жыве адна і ў свае 84 гады дае сабе рады. "Няпраўда, сынок, што ад работы ўся немач! Ужо колькі я перарабіла за сваё жыццё…" – кажа яна. А вочы хоць і заплаканыя, але і ў гэтым такія прыгожыя! І праз 70 год пасля той страшнай трагедыі яны яшчэ не ўсё выплакалі па родных і блізкіх, што нявінна згарэлі ў пякельным агні.

**У агні "Нюрнберга" згарэла яе маці.** *Успаміны Лонскай Раісы (1926-2014).*

Нацысцкая палітыка генецыду і "выпаленай зямлі" ва ўсёй паўнаце праявілася ў перыяд правядзення карнай аперацыі супраць партызан і мірных жыхароў, што аказвалі ім дапамогу. У лістападзе 1942 года такая карная аперацыя пад кодавым названнем "Нюрнберг" закранула і Шаркаўшчынскі раён. Тады фашысты расстралялі і зажыва спалілі жыхароў вёсак Кушталі, Свілы, Трабаўшчына, Строна, Журавоўшчына, Куялеўшчына, Бялкова, Сялібкі, Ігнацева, Падрэзаўшчына, Station Станіслававова. Пра гэтыя падзеі ўспамінае Лонская Раіса, былая жыхарка вёскі Кушталі. У тым пекле загінула яе маці. Бабуля Рэня ўспамінае:

Прыйшла цёця з суседняй вёскі з-за рэчкі і папрасіла каб я памагла звязаць мужчынам наскі. Сядзім мы ў нядзелю пад акном і толькі матацыкал за матацыклам і ўсё на нашу старану. Што такоя, што такоя? Што такоя будзіць? А ў панядзелак сабралі ўсіх мужчын, як на сабранне ў хату і там іх запёрлі, а жанчыны з дзецьмі дома. І тут застрэлілі солтыса. Мужчыны сталі столь ламаць, уцякаць з тэй хаты. Немцы кінулі ў хату гранату. А адзін мужчына гранату выкінуў. Забіла трох немцаў. Ну, тады, як кажуць, і пайшло без пашчады. Мужчыны ўцякаюць - каго на плаце застрэлілі, хто ў студню скочыў. Перабілі гэтых мужыкоў. Але мяне туды не пускалі дзядзька з цёткай.

У аўторак усіх жанчын і дзяцей сагналі ў ток і запёрлі. Запальнымі кулямі падпалілі гэты ток. Ну гэтыя ўсе бабкі і рабяткі і гарацъ там. І яшчэ казалі застаўся ад маткі адзін хлопчык маленькі, два гады. А які харошы! Немцы ўзялі яго - аднаму ў рукі кінулі, другому. Мне не трэба! У мяне свае ёсць! Ну што ж і кінулі гэтага жывога хлопчыка ў вагонь. Ну што ж і згарэлі гэтыя людзі. І так згарэлі, што толькі хрыбеціна і галава – ні рук, ні ног нічога не засталося. Каторыя людзі на падводах былі дык чулі толькі піск-енк. Не давядзі Гасподзь. А тады цішэй, цішэй… І тады кажуць жоўты стоўб выйшаў і пайшоў на неба, жоўты стоўб. Так іх тады і харанілі. Дзьвесце пяцьдзесят чалавек.

**Мама, няхай бы мой тата не ішоў першым!**
*З успамінаў Касарэўскай Васілісы Канстанцінаўны.*

Нарадзілася ў вёсцы Зямцы ў сям'і Канстанціна і Веры Лысёнкаў у 1943 годзе. Бацьку свайго не памятае. Пайшоў ён на вайну ўлетку 1944 года. Ваяваў на Прыбалтыйскім фронце. Маці атрымала пахаронку, што ён загінуў і пахаваны на ўзбярэжжы Рыжскага заліва. Калі скончылася вайна і дадому вярнуліся салдаты, то з Балаёў наведаўся бацькаў аднапалчанін. У той ракавы дзень ён разам з бацькам ішлі ў разведку па дробналессю. Косця ішоў першы. Бацькаў сябра кажа: "Бачу Косця стаў і нешта суніцца, суніцца на зямлю. Я яго падхапіў пад рукі ды далей у кусты каб прыхаваць. Але нічога не дапамагло. Снайпер параніў яго смяротна." Пасля, калі малая Васіліса стала падрастаць і ўсвядоміла, што яе бацьку забрала вайна, яна казала да сваёй мамы: "Мама, няхай бы мой тата не ішоў першым! Можа б ён прайшоў усю вайну і мы б цяпер жылі разам!"

Хочацца ўспомніць пра маці Васілісы цётку Верку, як яе тут называлі. Дык вось, у яе была надзвычай добрая, можна сказаць фенаменальная памяць. Яна працавала даяркай, а Валя Лёвакава брыгадзірам. Вось Валя лічыць на паперцы, складае удоі ўсіх даярак. Верка глянула і кажыць: "А, можыш ні лічыць, будзіць столькі і столькі". А колькі яна ведала даўнейшых песень ды прыпевак і проста цікавых гісторый! Казаць не пераказаць! Аднойчы прыйшла да яе Агнешка, Маніка Шпаковіча маці і пытаецца: "А Верачка, скажы ж ты мне, калі мой Манік нарадзіўся?" Тая троху падумаўшы: ".....1937 года!" А раз прыходзіць Антаніна Ванькі Вінцукова і пытаецца: "Скажы, Верка, а калі мой Ванька нарадзіўся?" (а гэта яму было патрэбна каб выбраць дакументы на пенсію). Верка кажыць: "А мая ж ты Тонічка, мяне ж на свеце не было, як ён нарадзіўся!" Але пасля падумала, успомніла, што маці расказвала і назвала не толькі, калі Ванька нарадзіўся, але і тых хто быў кумам і кумою.

**Вахта Памяці.** *Успаміны Лысёнка Пятра Яўстаф'евіча.*

Слабадская школа прымае актыўны ўдзел у правядзенні "Вахты Памяці", прысвечанай 65-годдзю Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Важнейшым накірункам яе з'яўляецца пошук раней невядомых месцаў пахавання мірных жыхароў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны ад рук фашысцкіх акупантаў. Важныя даследаванні правяла пошукавая група нашай школы.

Мінулым летам ад жыхара вёскі Сямёнавічы, Лысёнка Пятра Яўстафьевіча, 1930 г.н., мы атрымалі важную інфармацыю. Ён, прачытаўшы ў раённай газеце наш матэрыял пра ахвяр халакосту, расказаў нам пра трагедыю, што адбылася ў вёсцы Сямёнавічы на пачатку кастрычніка 1942 года.

У той час у вёсцы пражывалі дзве яўрэйскія сям'і: Рабіновічы і Муніцы. Сям'я Рабіновічаў на чале з Бэндзікам, яго жонкай Геняй, сынам Моўшам, нявесткай Бэляй і дачкой Эстэркай гандлявалі і трымалі дома лаўку. А сям'я Муніц на чале з Іцкам, яго жонкай Целямушкай, сынам Сайкам і дачкой Ліпкай мелі ў Навасёлках невялікі надзел зямлі, каня, карову і так вялі сваю гаспадарку.

Карнікі нахлынулі нечакана, прыехаўшы на машыне з Пастаў у колькасці каля пятнаццаці салдат. Забралі з дамоў абедзве сям'і. Хворую Целямушку застрэлілі прама ў хаце, бо яна не магла самастойна хадзіць. А астатніх пагналі да бліжэйшага лесу. Заставілі капаць сабе яму і тут жа ўсіх расстралялі.

Мясцовыя жыхары пасля таго, як немцы ад'ехалі, адвезлі і пахавалі разам з астатнімі і старую Целямушку. Выратавацца ўдалося толькі дачцэ Рабіновічаў Эстэрцы. У той час яна знаходзілася ў сяброўкі ў Казьянах. Па чутках мясцовых жыхароў, у хуткім часе і казьянскіх яўрэяў напаткаў такі ж трагічны лёс.

У сімвалічны дзень, 22 чэрвеня, на месцы, якое нам паказаў Лысёнак Пётр, мы устанавілі памятны знак і агароджу. Дарэчы, гэта ўжо другое месца пахавання яўрэяў, адшуканае і добраўпарадкаванае вучнямі нашай школы.



**Лепш жахлівы канец, чым жахі без канца.** *Успаміны Касарэўскага Мікалая Аляксандравіча.*

Беларусь для яўрэяў пасля выгнання з Еўропы стала, па словах Рыгора Барадуліна, “цёплай хатай”. У нас яўрэі ніколі не адчувалі сябе чужынцамі. Як карані, перапляталіся, перавязваліся беларускія і яўрэйскія песні, казкі, прыказкі.

На цяперашні дзень яўрэяў у Беларусі засталося вельмі мала. Большасць было знішчана ў час вайны, частка перабралася ў Ізраіль і іншыя краіны. А ў перадваенныя гады яны складалі нават большую частку насельніцтва многіх нашых гарадоў і мястэчак. Так было і ў нашым раёне. Лужкі, Германавічы, Шаркаўшчына былі ў большасці яўрэйскімі. Шмат іх было таксама ў Ёдах, Більдзюгах. Займаліся яўрэі ў асноўным гандлем і рамёствамі. Працаваць на зямлі ім забаранялася яшчэ з царскіх часоў.

Шмат выпрабаванняў прынесла вайна нашаму народу. Нішчылася як матэрыяльная, так і духоўная культура Беларусі. Але тыя выпрабаванні, здзек, што чынілі гітлераўцы над яўрэямі, можна параўнаць хіба што з пеклам. Калі славянскія народы Гітлер планаваў скараціць напалову, то яўрэі знішчаліся дазвання. Не абмінуў гэты жудасны лёс пад час апошняй вайны яўрэйскае насельніцтва і нашага раёна.

У час вайны ў Шаркаўшчыне было арганізавана гета. Знаходзілася яно ў раёне цяперашняй вуліцы Чапаева і ўяўляла сабой абнесенае калючым дротам пасяленне. На пачатку рэжым быў не вельмі суровы. Жыхароў адпускалі на заробкі, за прадуктамі ў бліжэйшыя вёскі. Калі пайшлі чуткі, што яўрэяў будуць расстрэльваць, некаторыя сем’і самавольна пакінулі гета, хаваючыся ў навакольных вёсках. Астатнія ж прымалі сваю смерць, як нейкі рок для ўсяго народа, як нешта наканаванае.

Пра адну з беглых яўрэйскіх сямей расказаў нам ветэран вайны, былы партызан, Касарэўскі Мікалай Аляксандравіч. І вось што ён нам распавёў.

Было гэта зімой 1943 года ў пачатку студзеня. У гэты час мы жылі на хутары ў Халопаўшчыне пры самым лесе. Аднаго ранку да нас прыбіўся паранены яўрэйскі хлопчык год дзевяці. Паранены ён быў нецяжка ў руку. Мы яго перавязалі, накармілі, абагрэлі, хаця гэта было небяспечна. На пытанне, што здарылася, той расказаў, як яны хаваліся па лазнях, па гумнах у розных вёсках. Апошнюю ноч правялі ў нечыяй лазні ў вёсцы Алашкі Малыя. Так здарылася, што нехта выдаў

схованку немцам. Тыя прыехалі на конях і на падводах павезлі сям'ю ў Пятровічы, бо яны там ахоўвалі мост. Чаму немцы не давезлі сям'ю да месца прызначэння не вядома. На ўскрайку лесу за Мельніцай (тое месца называецца Баравінкай) немцы расстралялі ўсю сям'ю: бацьку, маці і пяцёра дзяцей. А гэты хлопчык цудам застаўся жывы. Мы можам толькі ўявіць, колькі жахаў і пакут нацярпелася дзіця, хаваючыся па чужых будынках, страціўшы ўсіх сваіх блізкіх, самому адчуўшы дыханне смерці…

Фізічна жывое, дзіця не магло больш жыць. Хлопчык распытаў дарогу і сам пайшоў да немцаў. Спачатку ён патрапіў у Зямцы, а адтуль солтыс завёз яго ў Пятровічы. Там ён быў расстраляны ў другі раз, папоўніўшы лік нявінных ахвяр той страшнай вайны. Што ж рухала малым дзяцём, уся прырода якога павінна імкнуцца да жыцця і хапацца за кожную саломінку, у той час, як ён сам прыйшоў да фашыстаў? Страта родных, недавер да людзей, напэўна, надламалі ў душы тое, што заўжды дапамагае трымацца за жыццё, верыць ў лепшае. І ён выбраў лепш жахлівы канец, чым жахі без канца.

Праўду кажуць, вайна не закончана, пакуль не пахаваны яе апошні салдат. Бязвінную яўрэйскую сям'ю можна аднесці ў гэты лік. Яна разам з тысячамі іншых паклала на аўтар перамог самае дарагое - жыццё, і ў тым ліку жыццё гэтага хлопчыка.

Мясцовыя жыхары пахавалі сям'ю, як і падабае ў такім выпадку. На жаль, калі я пачуў гэту гісторыю, жывых сведкаў гэтага здарэння ўжо не было. Больш-менш прыблізна паказаў нам месца пахавання жыхар вёскі Мельніца Касарэўскі Яўген Канстанцінавіч 1923 года нараджэння. У той час, калі ўсё гэта адбывалася, ён быў вывезены на працу ў Германію. Для ўшанавання памяці расстралянай сям'і мы, школьнікі Слабадской СШ разам з настаўнікамі, адзначылі месца расстрэлу і пахавання. На гэтым месцы ўстаноўлены камень з надпісам.




Камень памяці па ахвярах халакосту,
устаноўлены вучнямі Слабадской сярэдняй школы



Касарэўскі Мікалай Аляксандравіч распавёў нам гісторыю пра расстрэл яўрэйскай сям'і і ў сваім доме лячыў параненага яўрэйскага хлопчыка



Касарэўскі Яўген Канстанцінавіч паказвае месца расстрэлу яўрэйскай сям'і



Так выглядала места перад добраўпарадкаваннем

 *ISSN 2562-9506*



А вось такое яно зараз

Месца расстрэлу знаходзіцца ў двух кіламетрах ад вёскі Мельніца ў напрамку на поўнач-паўночны-усход. Яно размешчана ў двухстах метрах ад ускрайку лесу, каля самай просекі. З паўднёвага боку просекі пасаджана культура (елка), а з левага знаходзіцца выгарэўшае балота. Гэта 61 квартал лесу Полаўскага лясніцтва. На плане месца расстрэлу пазначана чырвоным крыжыкам.




Эпізод плана Полаўскага лясніцтва, на якім пазначана месца расстрэлу

**Як ствараўся калгас у вёсцы Жукоўшчына або апазорыла “савецкую уласць”.**
*Расказаў Батуронак Гардзей Уладзіміравіч (нарадзіўся 7 ліпеня 1935 года ў вёсцы Жукоўшчына).*

У калгас уступаць не хацелі. Як жа адрачыся ад сваёй зямлі, каня, пабудоў. Першым падаў заяву Лысёнак Фёдар, “бабін унук”. Празвалі так за тое, што ў час вайны жыў у сваёй бабулі, а бацькі перад вайной выехалі ў Ленінград, дзе іх і застала вайна. Яму траціць было нечага, бо сваёй зямлі не меў. Астатніх “марынавалі” цэлую нядзелю. Збіралі вечарамі ўсіх гаспадароў і ў прысутнасці участковага, часам пракурора, “парційныя работнікі” малявалі карціну калгаснага жыцця. Казалі, што вот у вас цяпер зямлі мала, забяром у паноў і асаднікаў і зажывём у дастатку. А часам страшылі: “не паслухаеце – усё канфіскуем і паедзеце ў Сібір”. Трымалі да паўначы. Некаторыя драмалі і нават засыналі. Любіў і Гордзя схадзіць з бацькам і паслухаць, пра што гавораць. На адным са сходаў В…, стаміўшыся за кроснамі ад недасыпання, заснула на тым паседжанні, ды ў прыціхшым памяшканні пернула на увесь будынак. Усе як зарагаталі, у тым ліку і Гордзя. А бацька на яго: “Ціха, а то забяруць, апазорыла Савецкую уласць.”

Патроху людзі сталі здавацца і ўступаць у калгас. Апошнімі ўступілі тыя, хто меў найбольш зямлі: Лысёнак Вінцук (бацька ветурача), Райчонак Ягор (бацька дырэктара), Батуронак Ніна Аляксееўна (маці Гардзея), Гінько Вінцук (бацька Юзафа, меў 8 сыноў і дачку), а таксама Бажкі, Станюш Тоня (маці Міры) і Станюш Донька (бацька Роніка).

Абагулілі перш за ўсё зямлю (пакінулі толькі гароды), коней, вупраж, інвентар, свірны, так і і пуні, зярно для пасеву. Кароў, курэй і свіней, авечак не забіралі. Старшынямі былі Гінько Юзаф, Сета Мілеця, Ванька Бубалька (Лысёнак Іван Усцінавіч). Работы хапала і зімой і летам, і мужчынам і жанчынам. Акрамя звычайных сезонных работ, вазілі торф, навоз, рабілі кампосты, жанчыны пасля паводкі падчышчалі, абграбалі падрэчча. Брыгадзір раніцаў склікаў на нарад, для гэтага біў жалезным прутком у падвешаную рэйку. Быў і бухгалтар. За працу налічвалі працадні (220 – гэта мінімум). За працадні атрымлівалі натураплату, для сябе і скаціне. Адзін час Гордзя быў брыгадзір, а Тамара Аляксандравічава учотчык, начысляла.

*Працяг будзе ў наступным 25-м нумары часопіса (красавік-май 2020)*

**Jazep Kvach: True stories** *(presented in the original language of narrators)*
**(*magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p. 101-124,* *www.sakavik.net*)**

Short real stories about partisans, victims among Belarussians and Hebrews, and life of villagers before, during and after WWII collected by the author in Sharkaushyna region, Vitebsk province. This region is famous for its partisan fighting with occupants. The region suffered a lot during the German occupation with hundreds of people killed and burned alive in barns … *(to be continued in the next 25th issue of the magazine, April-May 2020)*

**Язеп Квач: Невыдуманные истории** *(представлены на оригинальном языке рассказчиков)*
***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019, выпуск 24, стр. 101-124, www.sakavik.net)***

Представлены короткие реальные истории о жизни жителей села, о партизанах, о жертвах среди белорусов и евреев до, во время и после Второй мировой войны, собранные автором в Шарковщинском районе Витебской области. Этот регион славится своими партизанскими боями с оккупантами. Во время немецкой оккупации регион сильно пострадал, сотни и тысячи людей были убиты и сожжены заживо в сараях ... *(продолжение будет в следующем 25-м номере журнала, апрель-май 2020)*

**Ігар Пракаповіч: Варанецкае сельскагаспадарчае вучылішча**

На ўзгорках паміж азёрамі Варанец, Доўжа і ракой Мядзелкай у пачатку XX стагоддзя размяшчалася сельскагаспадарчае вучылішча. Дзейнічала яно з 1909 па 1915 год дзякуючы ініцыяцыве і фундацыі ўласніка Манькавічаў і Казлоўшчыны князя Уладзіміра Друцкага-Любецкага. Дзейнасць гэтай асобы на тэрыторыі Беларусі і, у прыватнасці, на Пастаўшчыне, амаль не даследавалася, бо жыў ён у асноўным у Санкт-Пецярбургу, служыў пры двары рускага імператара Мікалая II шталмайстрам (галоўным стайнікам (канюшым)) і ў свае маёнткі наведваўся пераважна летам. Аднак тое, што ён пакінуў у спадчыну пасля сябе ў нашым краі дазваляе зрабіць выснову, што гэта быў чалавек шырокага кругагляду, адукаваны, справядлівы, шчодры мецэнат і прыхільнік хрысціянства. За яго сродкі была пабудавана нанова царква ў Манькавічах, праведзена карэнная рэстаўрацыя храма і ўзведзена капліца на могілках у Асінагарадку, уладкаваны сядзібна-паркавыя ансамблі ў Казлоўшчыне і Манькавічах. Князь выдаткаваў грошы на будаўніцтва чыгункі Новасвянцяны-Беразвечча. Да ўсяго гэтага ён цікавіўся даўнінай, вёў уласныя пошукі. У. Друцкі-Любецкі быў суаўтарам і фундатарам адметнай працы даследчыка Аляксея Сапунова “Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага ўездаў Віленскай губерні” (1896).

У канцы жыцця У. Друцкі-Любецкі захварэў, у яго адняліся ногі. Як пісаў у кнізе ўспамінаў “Пялёсткі” паэт Уладзімір Дубоўка, князя вазілі на спецыяльным крэсле на кольцах. Гэта хвароба, магчыма, падштурхнула У. Друцкага-Любецкага на яшчэ адзін адметны мецэнацкі крок. Вясной 1904 года ён звярнуўся да цара Мікалая II з просьбай дазволіць яму ахвяраваць фальварак (у дакументах – ферму) Варанец на карысць Віленскага Таварыства сельскай гаспадаркі для стварэння сельскагаспадарчай школы. Участак, які ён хацеў перадаць на дабрачынныя мэты, меў плошчу каля 124 дзесяцін зямлі і ўваходзіў у склад яго маёнтка. Князь Друцкі-Любецкі, для абсталявання школы мэбляй і навучальным рыштункам, ахвяраваў 40 000 рублёў уласных сродкаў.

Вясной таго ж года прашэнне князя было разгледжана і здаволена: “ГОСУДАРЬ ИМПЕРАТОР, по всеподданнейшему докладу Главноуправляющаго Канцеляриею ЕГО ИМПЕРАТОРСКАГО ВЕЛИЧЕСТВА по принятию прошений всеподданнейшаго прошения Шталмейстера Князя Владимира Друцкаго Любецкаго, в 13 день сего мая, ВЫСОЧАЙШЕ соизволил на разрешение ему

пожертвовать в пользу Виленскаго Общества сельскаго хозяйства, под устройство низшей сельскохозяйственной школы, ферму "Воронец", площадью около 124 дес., входящую в состав принадлежащего просителю родового имения "Маньковичы", Вилейскаго у., Виленской губ.".

Пасля атрымання дазволу пачаліся падрыхтоўчыя работы, якія кантраляваў, верагодна, сам князь. У 1904 годзе на ўзвядзенне школы было нарыхтавана 100 кубічных сажняў каменя, 300 тысяч штук цэглы, 50 кубічных сажняў вапны, цэмент і іншыя матэрыялы. Таксама з Менчаняцкай і Ваўкалацкай лясных дач на бярвенне і лесаматэрыялы нарэзана хвой і елак агульнай колькасцю 2384 камлі. Планавалася пачаць будаўніцтва ранняй вясной 1905 года і да восені закончыць работы. Нават па сённяшнім часе такія тэмпы будаўніцтва ўражваюць сваёй хуткасцю.

Аднак вясной 1905 года, калі пачаліся будаўнічыя работы, Уладзімір Друцкі-Любецкі памёр. Яго пахавалі ў родавай капліцы каля ставу ў Манькавічах. Да таго ж, летам у манькаўскай сядзібе адбыўся вялікі пажар, у выніку якога згарэлі амаль усе драўляныя пабудовы. Пасля такіх непрыемнасцей адзінокая ўдава княгіня Марыя прадала маёнтак роднай сястры нябожчыка-мужа Марыі Ленскай. Гэтыя падзеі замарудзілі будаўнічыя работы. Апякунства над школай узяло на сябе Віленскае Сельскагаспадарчае Таварыства, а нагляд ажыццяўляла міністэрства Земляробства і Дзяржаўнай Маёмасці.

Да 1907 года былі пабудаваны два каменныя і чатыры драўляныя будынкі. Двухпавярховы цагляны навучальны корпус і цагляная сталовая для навучэнцаў і выкладчыкаў месціліся на ўзгорку паміж азёрамі, а непадалёку на захад ад іх знаходзіўся драўляны дом для кіраўніка. На беразе возера Варанец стаялі лазня і склеп для захоўвання малочных прадуктаў, крыху далей ад берага і вышэй мелася адрына для жывёлы. У склад вучэбнага комплексу былі ўключаны ранейшыя драўляныя пабудовы былой фермы "Варанец".

Характарыстыку ўзведзеных будынкаў даў малодшы ляснічы Віленскага лесаахоўнага камітэта Васілеўскі ў сваёй дакладной запісцы на адрас Упраўлення Земляробства і Дзяржмаёмасці Віленскай губерні: "[…] Усе пабудовы (драўляныя) збудаваны з дыхтоўнага часанага бруса, на каменным падмурку і пакрыты гонтай, мураваныя дымавыя трубы ўсюды выведзены і скончаны. Пабудовы гэтыя маюць прыгожы і прыемны выгляд. Унутранае іх аздабленне мае быць выраблена вясною і ўлетку гэтага года. Дзверы, вароты, аконныя рамы, бар'еры веранды і ганка, дошкі для подсцілкі падлог і падшыўкі столяў вырабляюцца ў Вільні на заводзе Парнеса…".

Паколькі на ферме Варанец, якую ахвяраваў на школу князь Друцкі-Любецкі, на плошчы 124 дзесяцін было толькі 9 дзесяцін лесу, што з’яўлялася недастатковым для паўнавартаснага функцыянавання навучальнай установы, Міністэрства Земляробства і Дзяржаўнай маёмасці з бліжэйшых да Варанца дзяржаўных лясных угоддзяў дадаткова вылучыла з Ясеўскай лясной дачы яшчэ 116 дзесяцін лесу ўрочышча Белаўшчына.

Будаўніцтва школы завершылася ў пачатку 1909 года. Першым яе кіраўніком быў зацверджаны Мікалай Міхайлоўскі, выпускнік сельскагаспадарчага факультэта Рыжскага Політэхнічнага інстытута. Але ў хуткім часе ён быў звольнены з займанай пасады і на яго месца прызначылі выпускніка сельскагаспадарчага факультэта Кіеўскага Політэхнічнага інстытута Сяргея Такмачова. Аналіз дакументаў паказвае, што выбар новага кіраўніка быў правільны. С. Такмачоў зрабіў шмат для таго, каб школа стала сапраўднай тагачаснай адукацыйнай установай.

Напачатку ганаровым апекуном вучылішча быў князь Друцкі-Любецкі, а апекуном – граф Станіслаў Моль, выпускнік фізіка-матэматычнага факультэта Юр’еўскага (г. Юр’еў цяпер г. Тарту, Эстонія) універсітэта, уласнік маёнтка Залессе каля Глыбокага. У іх абавязкі ўваходзіў агульны нагляд за ажыццяўленнем кіраўніцтва навучальнай установай. С. Моль быў апекуном вучылішча з 1908 года па 1914 год, калі яго па мабілізацыі прызвалі ў войска.

Намеснікам апекуна быў прапанаваны Сяргей Лапацінскі, уласнік маёнтка Аннадвор каля Шаркаўшчыны, аднак яго не зацвердзілі. Гэту пасаду займаў Эдмунд Пілсудскі (стрыечны брат Юзэфа Пілсудскага), які скончыў курс Мікалаеўскага кавалерыйскага вучылішча.

Для новай навучальнай установы быў распрацаваны і зацверджаны статут Варанецкай ніжэйшай сельскагаспадарчай школы 1-га разраду, у якім дакляравалася, што яна “мае мэтай даць навучэнцам асноўныя веды па сельскай гаспадарцы, звяртаючы асноўную ўвагу на практычныя заняткі…”.

Паводле статуту меркавалася, што ў 1-ы клас школы будуць прымаць “асоб мужчынскага полу ўсіх саслоўяў, не маладзей 15 гадоў” за курс 2-х класных сельскіх вучылішчаў, пасля ўступных іспытаў па курсе гарадскіх і павятовых вучылішчаў". Аднак, улічваючы тую акалічнасць, што школа была разлічана, галоўным чынам, на дзяцей сялян, якія ў большасці сваёй былі наогул непісьменнымі, то ў статут былі занесены змены, паводле якіх уступны адукацыйны цэнз быў паніжаны да выпускнікоў сельскіх вучылішчаў. Акрамя таго,

каб павялічыць колькасць патэнцыйных вучняў сельскагаспадарчай школы, бліжэйшая да яе Манькавіцкая царкоўна-прыходская школа была ператорана ў сельскае двухкласнае вучылішча.

У 1909 годзе змены адбыліся і ў назве самой Варанецкай школы: яна пачала называцца Варанецкім ніжэйшым сельскагаспадарчым вучылішчам. Паводле статуту, агульная колькасць працоўных і навучальных гадзін у дзень, разам з падрыхтоўкай урокаў, не павінна была перавышаць для вучняў 1-га класа 10-ці гадзін, для 2-га і 3-га класаў не больш за 12 гадзін у дзень.

Курс навучання працягваўся 3 гады і размяркоўваўся на 3 класы, два з якіх былі агульнымі, а трэці спецыялізаваны, з падраздзяленнем на дзве паралелі: а) Земляробства, б) Жывёлагадоўля і малочная гаспадарка. Па стане на кастрычнік 1914 года ў вучылішчы займалася 64 вучні. З іх у першым класе - 22, у другім - 24, у трэцім - 18. У сувязі з пачаткам 1-й сусветнай вайны, частка вучняў на працягу года спыніла вучобу: 17 хлопцаў прызвалі ў войска, 2 паступілі на вайсковую службу дабраахвотнікамі. Выпуск трэцяга класа адбыўся датэрмінова.

У выніку на 20 кастрычніка 1915 года ў вучылішчы мелася толькі 25 навучэнцаў, з якіх 19 былі сялянамі, астатнія – з іншых саслоўяў.

Плата за навучанне складала 50 рублёў у год з вучня. З 1 кастрычніка 1915 года яна была павышана да 65 рублёў у сувязі з падаражаннем харчовых прадуктаў.

Першымі навучэнцамі Варанецкай сельскагаспадарчай школы сталі: Малько Прохар, Скурка Макарый, Дземяшкевіч Марк, Шапатнік Міхаіл, Борыс Віктар, Радкевіч Пётр, Малько Андрэй, Аўдыцкі Іван, Валынец Аляксандр. Яны паспяхова здалі ўступныя іспыты 20 мая 1909 года. Два навучэнцы былі каталіцкага веравызнання, астатнія – праваслаўныя.

Выкладчыкамі ў вучылішчы працавалі: Ісаін Уладзімір Мікалаевіч, які выкладаў батаніку, земляробства і лугазнаўства; Запольскі Аляксандр Аляксандравіч – выкладчык хіміі, глебазнаўства і жывёлагадоўлі; Валдманіс Арвід Янавіч – выкладчык фізікі, чарчэння, землямерства, заалогіі, малочнай гаспадаркі і законазнаўства; Лазаровіч Уладзімір Мікалаевіч – выкладчык арыфметыкі, геаграфіі, геаметрыі і рускай гісторыі. Дырэктар школы Сяргей Такмачоў, акрамя выканання адміністрацыйна-гаспадарчых функцый, выкладаў сельскагаспадарчае машыназнаўства, сельскагаспадарчую эканомію і рахаўніцтва.

Настаўнікамі Закона Божыя ў вучылішчы служылі: настаяцель Манькаўскай праваслаўнай царквы Міхаіл Міркавіч, а пасля яго смерці ў 1910 годзе, іерэй той жа

царквы Павел Макарэвіч. Навучэнцам каталіцкага веравызнання Закон Божы выкладаў ксёндз-плябан Пастаўскага касцёла Дзяшульскі, а пасля яго пераводу ў іншы прыход, ксяндзы Казімеж Кавалеўскі, Іосіф Краўяліс, Аляксандр Нянеўскі.

Часова ў 1914-1915 гадах у навучальнай установе працавалі выпускнікі Багародзіцкага сярэдняга сельскагаспадарчага вучылішча Лукін і Палтарыхін. Таксама ў вучылішчы чыталі лекцыі па асновах сельскгаспадарчага "будаўнічага мастацтва", меліярацыйных работах і лесаводстве, межавой справе, ветэрынарыі і гігіене, рыбаводству і пчалярству.

З тэарэтычных заняткаў найбольш гадзін ва ўсіх трох класах адводзілася на земляробства і жывёлагадоўлю (па 9), рускую мову (5), фізіку і хімію, батаніку (па 4). Практычныя заняткі часцей праводзіліся па землямерству (9 гадзін у тыдзень), батаніцы (8) і сельскагаспадарчай эканоміі і рахаўніцтву (7). У першым класе ухіл рабіўся на агульнаадукацыйныя прадметы, звязаныя з сельскай гаспадаркай: батаніка (2), хімія (3), фізіка (3), заалогія (2), землямерства (1), руская мова (2), геаграфія (2), руская гісторыя (2), арыфметыка (3), геаметрыя (3). У трэцім класе выкладаліся пераважна стецыяльныя прадметы.

Асаблівасць навучальнага працэсу ў вучылішчы заключалася ў тым, што тэарэтычныя заняткі былі шчыльна звязаны з практычнымі і асноўная частка праграмы выконвалася ў летні перыяд. Гэта было звязана з тым, што ў цёплую пару года можна было непасрэдна ў прыродзе назіраць і вывучаць вегетацыю раслін, праводзіць доследы, ставіць эксперыменты. Як пісаў кіраўнік навучальнай установы С. Такмачоў, “вучылішча ішло па шляху выпрацоўкі эксперыментальнага метаду выкладання”. Заўважым, што невялікі калектыў настаўнікаў звыш 100 год таму назад распрацоўваў методыкі, якія з’яўляюцца актуальнымі і ў наш час. І не толькі распрацоўваў! Выкладчык У. Ісаін апублікаваў артыкулы з досведам сваёй працы з вучнямі па батаніцы ў часопісе “Сельскохозяйственное образование” за 1915 г. і па жывёлагадоўлі ў тым жа выданні № 6 за 1914 год. Неапублікаваныя методыкі па выкладанні сельскагаспадарчага машыназнаўства і сельскагаспадарчай эканоміі падрыхтаваў сам С. Такмачоў.

Таксама Саветам вучылішча быў крыху зменены вучэбны план (гэта дазвалялася агульным планам): вывучэнне некаторых прадметаў, на якія адводзіліся 1-2 гадзіны ў тыдзень, было вырашана не расцягваць на ўвесь год, а ўкласціся ў паўгоддзе. Гэта, па меркаванні кіраўніка, дало станоўчы эфект.

Яшчэ адна навацыя гэтага вучылішча – праверка ведаў вучняў шляхам “рэпетыцый”. Паводле С. Такмачова, праверка ўзроўню засваення ведаў і навыкаў

праз рэпетыцыйную сістэму дае настолькі добрыя вынікі, што экзамены па прадметах можна было б і не праводзіць. У чым жа сутнасць гэтай сістэмы? Вось як яе тлумачыць кіраўнік установы: “…спрашивание учеников на уроках происходит обычным порядком, но оно производится не в целях выставления отметки, а в удовлетворении требования эвристической формы изложения учебных предметов”.

Заняткі ў вучылішчы праводзіліся па праграмах так званага Нармальнага вучэбнага плана, які прыняты ў 1912 годзе. Колькасць гадзін на некаторыя прадметы была зменена ў самой навучальнай установе. Так, павялічыўся курс машыназнаўства, а лугаводства і меліярацыя вывучаліся як асобныя прадметы. Пашырэнне аб’ёму ішло за кошт практычных заняткаў і тлумачылася прыроднымі асаблівасцямі, у якіх размяшчалася вучылішча.

Сельскагаспадарчыя работы на тэрыторыі навучальнай установы амаль поўнасцю выконваліся вучнямі. Выключэнне складалі капанне бульбы на плошчы 6 дзесяцін (падзённыя работнікі), уборка карняплодаў на плошчы 4 дзесяціны (сяляне вакольных вёсак за бацвінне і магчымасць пасвіць скаціну у школьным лесе), закладка лядоўні і нарыхтоўка дроў (наёмныя работнікі). Паводле меркавання педагагічнага калектыва, арганізаваная практычная дзейнасць павінна была даць вучням не толькі навыкі выканання асноўных сельскагаспадарцых працэсаў, але і выхаваць павагу да любых відаў фізічнай працы. Як пісаў кіраўнік установы, “училище всегда стремилось придать практическим занятиям учащихся такую форму, при которой возбуждался бы интерес к работам и вырабатывалось осмысленное отношения к сельскохозяйственным явлениям” (падкрэслена ў арыгінале).

Практыка арганізоўвалася наступным чынам. Кожны вечар, адразу пасля заканчэння работ, да упраўляючага збіраліся ўсе выкладчыкі-спецыялісты і сумесна вызначалі работы на наступны дзень, размяркоўвалі рыштунак і наяўную рабочую сілу. Пасля гэтага распісвалі паімённа заданні кожнаму вучню. На наступны дзень у 5 г. 45 мін. упраўляючы і дзяжурны выкладчык, а таксама тыя выкладчыкі-спецыялісты, якім давядзецца ў гэты дзень кіраваць работамі, прыходзілі на нарад у вучылішча. Збіраліся ўсе вучні. Старшакласнікі прапаноўвалі свой план работ. Адбывалася сумеснае абмеркаванне ў форме пытанняў і адказаў і план зацвярджаўся. Падчас такіх збораў выкарыстоўваліся падрабязныя карты ўгоддзяў, што ўносіла канкрэтыку ў план практычных работ.

Кожную нядзелю ўвечары таксама праводзіліся нарады, на якіх рабіўся агляд выкананага за тыдзень і акрэсліваліся бліжэйшыя задачы.

Кожны вучань III класа меў персанальны ўчастак поля, дзе ён праводзіў пастаянныя назіранні і вопыты над пэўнімі відамі раслін. Былі і калекыўныя даследчыя работы. На нарадах па нядзелях вучні перыядычна выступалі з паведамленнямі пра вынікі сваіх доследных работ. Пры такой арганізацыі практычных заняткаў 60 навучэнцаў даглядалі і апрацоўвалі 120 дзесяцін зямлі, якія меліся ў вучылішчы. Важным складнікам такога выніку было тое, што выкладчыкі не толькі кіравалі работамі, але і самі разам з вучнямі працавалі на зямлі, паказваючы прыклад.

Пазаўрочныя заняткі ў вучылішчы праводзіліся ў трох формах: 1. Чытанне літаратурных твораў перад усімі вучнямі; 2. Самастойнае чытанне; 3. Назіранні "над ходом весны". Першыя гады практыкавалася і форма напісання рэфератаў на сельскагаспадарчыя тэмы, але яна была забаронена Дэпартаментам Земляробства як неадпавядаючая мэце і ўзроўню адукацыі ніжэйшых вучылішчаў.

Публічныя чытанні твораў рускай літаратуры праводзіліся вечарамі па суботах і нядзелях звычайна ў зімовы час. Арганізоўваў іх упраўляючы ўстановы С. Такмачоў. Мэта такіх чытанняў – развіваць эстэтычны густ вучняў, зацікавіць іх кнігамі рускіх класікаў.

Для самастойнага чытання навучэнцамі на працягу года было ўзята з бібліятэкі 2069 экзэмпляраў кніг, што складала 33 экзэмпляры на аднаго чалавека. Крыху больш чыталі спецыялізаваных выданняў (1089), кніг мастацкай літаратуры – 980. Пры гэтым выяўлялася цікавая статыстыка: "першакласнікі" чыталі больш мастацкіх кніг (74,2%), вучні III класа – спецыялізаваных (55,8%).

Найбольш запатрабаванымі былі творы наступных аўтараў: Немировіч-Данчанка (155 выдач, 16%), Чэхаў (127), Усевалад Салаўёў (109), Ганчароў (107), Леў Талстой (84), Тургенеў (72).

Цікавай формай пазаўрочнай работы было назіранне над ходам вясны. Калі пачыналася цёплая пара года і прырода ажывала, усе навучэнцы далучаліся да працэсу вывучэння расліннага і жывёльнага свету. Асноўную работу выконвалі ўдзельнікі гуртка, якім кіраваў выкладчык батанікі У. Ісаін. Кожны з іх у спецыяльных календарах фіксаваў змены, якія адбываліся вясной з якой-небудзь раслінай або жывёлай. Вынікі назіранняў перыядычна заслухоўваліся на агульных сходах вучняў і выкладчыкаў, а кожную нядзелю рыхтаваліся бюлетэні, у якіх адлюстроўвалася хада вясны за тыдзень, паказваліся адметныя з'явы, якія адбываліся з раслінамі і насякомымі. Бюлетэні вывешваліся ў калідоры вучылішча разам з прабіркамі, у якіх змяшчаліся цікавыя экспанаты – аб'екты даследаванняў.

Выхаванцы, якія скончылі поўны курс вучылішча, павінны былі прайсці абавязковую гадавую практыку ў прыватнай гаспадарцы, і толькі пасля гэтага, на падставе станоўчай справаздачы пра практыку, атрымлівалі атэстат. Выпускніку таксама выдаваўся дарма камплект новай формы, ніжняй бялізны і абутку. Навучэнцы, якія паказалі падчас вучобы выдатныя вынікі, маглі быць заахвочаны каштоўнымі падарункамі, прыдатнымі ў сельскагаспадарчай працы.

Станам здароўя ў вучылішчы апекаваўся штатны доктар, аднак у пачаткў вайны першай мабілізацыяй яго прызвалі ў войска. Таму нязначныя захворванні лячылі самастойна, у цяжкіх выпадках выклікалі вольнапрактыкуючага доктара з Паставаў. Гэта займала шмат часу, бо гэты ўрач быў адзін на ўвесь вялікі раён. Аднак сур’ёзных захворванняў у вучылішчы не было. Толькі аднойчы навучэнцаў закранула эпідэмія інфлюенцы (грыпа), але ўсё абышлося без пабочных ускладненняў.

Вольнага часу ў вучняў было нямнога. Яны бавілі яго гульнёй у футбол, купаннем і катаннем на лодках, рыбнай лоўляй, зборам грыбоў і ягад. Для навучэнцаў была абсталявана спартовая пляцоўка і закуплены інвентар для гульні ў кракет.

Акрамя выкладчыкаў і доктара ў штаце вучылішча таксама меліся: канторшчык (Мікалай Чмут), дзве кухаркі, тры прыслугі на кухні, адзін начны вартаўнік і кучар.

Для заахвочвання лепшых вучняў былі заснаваны дзве стыпендыі. Першую, імя памерлага князя Уладзіміра Друцкага-Любецкого, заснавала 27 кастрычніка 1908 года яго ўдава – княгіня Марыя. Яна ўнесла ў Віленскае аддзяленне Дзяржаўнага банка на рахунак Віленскага сельскагаспадарчага таварыства 6000 рублёў, якія павінны былі ляжаць “вечным укладам”, а працэнты з яго здымацца на стыпендыі для навучэнцаў. Такіх стыпендый было тры. Паводле волі княгіні, яны павінны былі ўручацца “наиболее способным детям крестьян Маньковичской волости”. Двума з іх належала адзначаць вучняў праваслаўнага веравызнання. Яшчэ адна надавалася лепшаму вучню-каталіку.

Другая стыпендыя была заснавана Дваранскім Зборам Віленскай губерні і штогод выдавалася вучню, які паказаў лепшыя вынікі ў вучобе, незалежна ад яго веравызнання і месца жыхарства.

У вучэбнай справаздачы за 1915 год маецца інфармацыя пра 8 стыпендый для навучэнцаў, з якіх 6, імя князя У. І. Друцкага-Любецкага, фарміраваліся на працэнты з капіталу 8000 рублёў, размешчанага ў Дзяржаўным банку Марыяй Друцкай-Любецкай. Яшчэ дзве стыпендыі імя Дваранства Віленскай губерні заснаваны ў памяць 300-годдзя царавання дому Раманавых.

Зарплата выкладчыкаў была вышэйшая за сярэднюю па Расійскай імперыі (каля 430 рублёў). Так, кіраўнік вучылішча атрымліваў 1500 рублёў у год, выкладчыкі спецыяльных прадметаў – па 850 рублёў, выкладчыкі агульнаадукацыйных прадметаў – па 600 рублёў, выкладчыкі Закону Божага – па 200 рублёў.

Гаспадарчыя расходы складаліся з наступных артыкулаў: харчаванне 50 навучэнцаў – 6400 рублёў (па 35 капеек у дзень на чалавека); на абмундзіроўку – 2500 рублёў; страхаванне будынкаў – 300 рублёў; ацяпленне – 600 рублёў; асвятленне – 400 рублёў; рамонт будынкаў – 500 рублёў; аплата прыслугі (скотнік, дазорца, кухарка, прачка, тры памочніцы) – 780 рублёў; утрыманне прыслугі – 600 рублёў; аптэка – 150 рублёў; розныя дробныя расходы – 500 рублёў; непрадугледжаныя расходы – 270 рублёў.

Цікавасць уяўляе дакладная запіска, якую падрыхтаваў 6 студзеня 1910 года кіраўнік вучылішча С. Такмачоў. У ёй ён даводзіць, што Варанецкая навучальная ўстанова па сваіх вучэбных планах і арганізацыі навучальнага працэсу наблізілася да ўзроўню сярэдняга сельскагаспадарчага вучылішча, што патрабуе больш грунтоўнага матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння. У сувязі з гэтым С. Такмачоў прапануе даабсталяваць вучэбную установу спецыялізаванай лабараторыяй, бібліятэкай, сучаснымі камплектамі вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў, метэаралагічнай станцыяй і іншымі дапаможнымі матэрыяламі. Сур’ёзнасць намераў паказваў спіс прыбораў і навуковых выданняў, якія планавалася закупіць для вучылішча. Так, метэаралагічная станцыя павінна была камплектавацца барометрам, ападкамерам, флюгерам, геліографам, псіхрометрам, гігрометрам і “др. приборами”, а таксама кнігамі для запісаў метэаралагічных назіранняў. Спецыялізаваныя бібліятэчныя фонды падзяляліся на наступныя раздзелы: сельскагаспадарчыя машыны і прылады; землеробства; глебазнаўства, лугаводства; заатэхнія; сельскагаспадарчая эканомія; садоўніцтва і агародніцтва; рыбагадоўля; папулярныя кнігі па сельскай гаспадарцы. Кнігі прыродазнаўчай тэматыкі адносіліся да такіх навуковых напрамкаў як біялогія, батаніка, фізіялогія жывёл, заалогія, фітапаталогія, геалогія, метэаралогія, фізіка, хімія, геаграфія, грамадазнаўства, літаратура.

Немагчыма сказаць, наколькі ўдалося здзейсніць задуманыя планы, бо мясцовасць каля Варанца патрапіла ў самы вір падзей І Сусветнай вайны. У жніўні 1915 года, калі лінія фронту пачала хутка набліжацца да Паставаў, Варанецкае вучылішча ў спешным парадку было эвакуіравана ў Чарнігаўскую губерню на станцыю Баравіцы ў сцены Майноўскага сельскагаспадарчага вучылішча. Аднак у хуткім часе і гэта навучальная ўстановы спыніла сваё існаванне.

А праз тэрыторыю былога вучылішча прайшла першая лінія абароны германскіх войск з глыбокімі траншэямі і магутнымі жалезабетоннымі ўмацаваннямі. Усе грамадзянскія будынкі былі спалены, разбураны або разабраны і цяпер на іх месцы толькі бітая цэгла ды падмуркі.



Будынак Варанецкага вучылішча




Германскія пазіцыі і будынак вучылішча



Рэшткі школы у канцы I-й сусветнай вайны



Справа аб адкрыцці Варанецкай школы

**Igar Prakapovich: Varanetsky agricultural school**
***(magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p. 125-136, www.sakavik.net)***

Varanetsky agricultural school was established thanks to inspiration and financial support by Prince Vladimir Drutski-Lyubetski - owner of Mankavichi and Kazlouschyna villages that in Postavy district, Vitebsk province. The school, which operated from 1909 to 1915, was situated on the hills between the lakes Varanets, Douza and Myadzelka river. In October 1914, there were 64 students at the school. The article describes the learning process, students' life and history of the creation and existence of the building, which in our days is presented only in broken bricks and foundations.

**Игорь Прокопович: Воронецкое сельскохозяйственное училище**
***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019, выпуск 24, стр. 125-136, www.sakavik.net)***

Воронецкое сельскохозяйственное училище было создано благодаря инициативе и финансовой поддержке князя Владимира Друцкого-Любецкого - собственника деревень Маньковичи и Козловщина, что в Поставском районе Витебской области. Училище, которое действовало с 1909 по 1915 год, было размещено на холмах между озерами Воронец, Должа и рекой Мяделка. В октябре 1914 года в училище занималось 64 студента. Описывается учебный процесс, быт учащихся и история создания и существования здания, от которого в наши дни остались только битый кирпич и фундаменты.

**Лізавета Афанасьева, Аліса Януш, Ігар Пракаповіч:** **Унікальная гідратэхнічная сістэма «Мядзелка-Варанец»** *(даследчая праца)*[2]

Гідратэхнічная сістэма Мядзелка-Варанец з’яўляецца ўнікальным прыродна-гаспадарчым комплексам. У раннім сярэднявеччы па рацэ Мядзелка праходзіў водны гандлёвы шлях, які злучаў Полацк, Вільню і Наваградак. Падчас чатырох комплексных экспедыцый вучнымі Пастаўскай гімназіі зроблена апісанне ўнікальнай гідратэхнічнай сістэмы, распрацаваны і ўладкаваны турысцка-экскурсійны маршрут па ваколіцах возера Варанец, у які ўключаны аб’екты гідратэхнічнай сістэмы (рэшткі млына, пратока, бабровая імперыя, рака Мядзелка, рэшткі былой дарогі).

## Уводзіны

Пастаўскі раён знаходзіцца на паўночна-заходняй ускраіне Беларусі, на мяжы з Літвой, на значным аддаленні ад вялікіх гарадоў і навуковых цэнтраў. Па гэтай прычыне прыродныя і гістарычныя адметнасці яго тэрыторыі вывучаліся часткова і толькі па некаторых накірунках. Даследаваліся, галоўным чынам, вялікія па памерах і найбольш вядомыя аб'екты. Аднак значная частка рэдкіх, а ў некаторых выпадках і ўнікальных, прыродных і гісторыка-культурных комплексаў па розных прычынах застаецца недаследаванай.

Адным з цікавых аб’ектаў з’яўляюцца рэшткі старога млына і былой гідратэхічнай сістэмы на рацэ Мядзелцы каля вёскі Пятроўшчына. Паколькі навукоўцамі аб’ект не даследаваўся, то яго вывучэннем займаліся вучні Пастаўскай гімназіі. Выяўлены ён быў восенню 2018 года, дэталёва даследаваўся падчас экспедыцый 2018-2019 гадоў. Экспедыцыі дазволілі сабраць значны матэрыял, які патрабаваў апрацоўкі, абагульнення і фармулёўкі пэўных высноў. Гэта падштурхнула да напісання даследчай работы па тэме “Унікальная гідратэхнічная сістэма “Мядзелка-Варанец”. Мэта працы - дэталёва вывучыць, апісаць і папулярызаваць цікавы гісторыка-культурны аб’ект – гідратэхнічную сістэму міжваеннага часу, прапанаваць праект

[2] Праца была прадстаўлена на Рэспубліканскі конкурс “Скарбонка краязнаўчых знаходак” (2019). Аўтары: Афанасьева Лізавета Міхайлаўна, вучаніца 8 класа; Януш Аліса Алегаўна, вучаніца 11 класа; Пракаповіч Ігар Мікалаевіч, настаўнік геаграфіі і навуковы кіраўнік. Дзяржаўная ўстанова адукацыі "Пастаўская гімназія", Аддзел па адукацыі Пастаўскага райвыканкама, Упраўленне адукацыі Віцебскага аблвыканкама.

яе аховы, папулярызаваць гідратэхнічную сістэму як цікавы гістарычны і турыстычны аб’ект. Прадметам вывучэння былі рэшткі млына і былой дарогі да яго, рэчышча і берагі ракі Мядзелкі, канал (пратока) і возера Варанец.

**I. Вывучэнне унікальнай гідратэхнічнай сістэмы**

Падчас працы над праектам выкарыстоўваліся розныя метады: літаратурны, картаграфічны, гістарычны, мадэлявання, аналізу і сінтэзу, апісальны і шэраг іншых. Вывучэнне літаратурных крыніц і інтэрнет-рэсурсаў па тэме даследавання не дало вынікаў, што сведчыць пра тое, што дадзены аб’ект ні навукоўцамі, ні мясцовымі краязнаўцамі не вывучаўся. Картаграфічны аналіз мясцовасці быў праведзены на аснове карт рознага часу. У працы выкарыстоўваліся: "трохвёрстка" расійскіх ваенных тапографаў (канец XIX ст.), польскія карты 30-х гадоў XX стагоддзя, карта РККА 1938 года, вайсковая карта 1971 года маштабу 1:100000 (Дадатак 1).

Галоўным метадам даследаванняў з'яўляўся экспедыцыйны. У даследаванні выкарыстоўваліся матэрыялы вандровак, якія былі праведзены навучэнцамі гімназіі ў паўднёвую частку Пастаўскага раёна ў 2018-2019 гадах. Адбыліся 4 комплексныя краязнаўчыя экспедыцыі, у тым ліку дзве з іх разам з супрацоўнікамі Нацыянальнага парка “Нарачанскі”.

Першая экспедыцыя праходзіла 14 красавіка 2018 года па маршруце Паставы-Чарняты-Ідаліна-Пятроўшчына-Варанец-Сарочына-Чарняты-Паставы. Падчас яе правядзення вывучаліся мясціны каля вёскі Пятроўшчына, рэчышча Мядзелкі, берагі возера Варанец, гідратэхнічная сістэма. Удзельнікі вандроўкі (9 чалавек) прайшлі маршрутам распрацоўваемай экспедыцыі, збіралі матэрыялы і фатаграфавалі найбольш цікавыя аб’екты мясцовасці (Дадатак 2).

Другая экспедыцыя ў колькасці 6 чалавек праходзіла 10 мая 2018 года разам з супрацоўнікамі Нацыянальнага парка “Нарачанскі”. Падчас яе правядзення абследаваліся берагі возера Варанец, даліна ракі Мядзелкі, гідратэхнічная сістэма (Дадатак 2).

Трэцяя экспедыцыя была двухдзённай і праходзіла 26-27 ліпеня 2018 года. Удзельнічала ў ёй 12 чалавек, прычым, разам з вучнямі і былыя выпускнікі Пастаўскай гімназіі – студэнты геафака БДУ. Базавы лагер размяшчаўся на заходнім беразе возера Варанец. Удзельнікі экспедыцыі вызначылі размяшчэнне былога моста каля млына, абследавалі былыя каналы і старую дарогу да млына. (Дадатак 2).

Падчас двухдзённай чацвертай экспедыцыі, якая праходзіла 16-17 жніўня 2018 года, яе ўдзельнікі (10 чалавек) займаліся ўладкаваннем турысцка- экскурсійнага маршрута. Каля асноўных аб'ектаў былі прымацаваны інфармацыйныя таблiцы, пастаўлены ўказальнікі, праз зарослыя месцы зроблены просекі (Дадатак 2).

**II. Апісанне гідратэхнічнай сістэмы «Мядзелка-Варанец»**

**Геаграфічнае становішча**

Гідратэхнічная сістэма "Мядзелка-Варанец" знаходзіцца ў паўднёвай частцы Пастаўскім раёне Віцебскай вобласці на мяжы з Мядзельскім раёнам Мінскай вобласці. Размяшчаецца яна на адлегласці 1 км на паўночны ўсход ад вёскі Пятроўшчына, за 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі Язы. На поўнач ад яе ў мерыдыянальным накірунку выцягнулася возера Доўжа, на поўдзень – возера Воўчына. Паміж возерам Воўчына і гідрасістэмай, за 500 метраз ад яе, цяпер праходзіць міжнародная аўтатраса Вільнюс-Полацк. Міжваенным часам яна не існавала. Адлегласць аб'екта даследаванняў ад раённага горада Паставы складае каля 11 кіламетраў.

Каля возера Варанец з паўднёвага захаду на паўночны ўсход ад Пятроўшчыны да Сарочына праходзіць амаль закінутая лясная дарога. У сярэднявеччы гэта быў шлях, які злучаў Полацк і Вільню ("Полацкі шлях", або Альгердаў шлях, або шлях Баторыя-Напалеона). За 2,5 км на захад ад гідратэхнічнай сістэмы з поўначы на поўдзень лясны масіў перасякае Старамядзельскі тракт, які раней злучаў Паставы і Мядзел, а цяпер ператварыўся ў ціхую лясную дарожку.

**Гідратэхнічная сістэма – унікальны прыродна-гаспадарчы комплекс**

На тэрыторыі Беларусі дзейнічала вялікая колькасць водных млыноў, якія стаялі на рэках і працавалі за кошт энергіі падаючай вады. Струмені падалі на лопасці, турбіны круціліся, жорны малолі збожжа на муку. Дзеля таго, каб стварыць запас вады, ставіліся запруды, утвараліся вадасховішчы. І так было амаль паўсюль. У Пастаўскім раёне такія млыны дзейнічалі ў Паставах, Старым Двары, Саранчанах, Каралінове, Манькавічах і ў іншых маёнтках. Гаспадар жа млына каля Патроўшчыны стварыў арыгінальную гідратэхнічную сістэму для таго, каб ён працаваў нават у засуху. Вясной, у час таяння снягоў, высокая вада з ракі Мядзелкі накіроўвалася па каналу (пратоцы) ў возера Варанец і круціла жорны. Летам, пры нізкім узроўні вады ў рацэ, вада ішла з возера і таксама круціла жорны. На

сённяшні дзень ад былой гідратэхнічнай сістэмы застаўся падмурак млына і пратока, якую актыўна асвойваюць бабры.

**Аб’екты гідратэхнічнай сістэмы**

Міжваенным часам гідратэхнічная сістэма складалася з наступных элементаў: млын, мост, дарога Кабайлы-Варанец-Манькавічы, рака Мядзелка, канал Мядзелка-возера Варанец. Побач з ёй размяшчаліся вёска Пятроўшчына і фальварак “Варанец”, які належаў князю У. Друцкаму-Любецкаму. Цяпер многія элементы знаходзяцца ў разбураным або напаўразбураным стане. Матэрыялы праведзеных краязнаўчых экспедыцый дазволілі зрабіць апісанне сучаснага стану былой гідратэхнічнай сістэмы, рэканструяваць яе першапачатковы выгляд. Разгледзім асноўныя яе элементы.

***Рака Мядзелка.*** Галоўным прыродным элементам гідратэхнічнай сістэмы была рака Мядзелка. Для стварэння аб’екта гаспадаром было выбрана месца, дзе рэчышча вададатоку найбліжэй падыходзіць да возера Варанец (Дадатак 3, А). Мядзелка – правы прыток ракі Бірвіты. Выцякае з возера Мядзел. Асноўныя прытокі Лучайка, Вінгра. Па даўжыні ў Пастаўскім раёне яна знаходзіцца на другім месцы пасля Галбяіцы, саступаючы ёй 11 км. Працягнулася Мядзелка з поўдня на поўнач ад возера Мядзел да р. Бірвіты (прыток Дзісны) на 50 кіламетраў. Перапад вышыняў вярхоўя і нізоўя ў межах раёна складае 25 м, ухіл рэчышча –0,8 м/км. Каля Пятроўшчыны рака праразае марэнныя ўзгоркі Свянцянскіх град і таму мае вузкую лагчыну з невялікім поплавам і стромкімі берагамі. З гэтай прычыны цячэнне тут імклівае, шырыня рэчышча 7-10 м, глыбіні нязначныя 0,3 – 1,5 м. Падчас паводкі перавышэнне ўзроўню вады над меженню дасягае 1,5 м, а то і 2 м. У міжваенны час “пры Польшчы” рэчышча Мядзелкі было чыстае і яна актыўна выкарыстоўвалася аматарамі воднага турызму. З Вільні, а то і з Варшавы людзі даязджалі на цягніку да Пастаў і потым на каяках (байдарках) плылі па Мядзелцы да азёр Мядзел, Рудакова, Нарач. У раннім сярэднявеччы па рацэ праходзіў водны гандлёвы шлях, які злучаў Полацк, Вільню і Навагрудак. Каля былога млына пры рацэ Мядзелка ёсць цудоўная пляцоўка для агляду рэшткаў былога мосту, астраўка на рацэ, нагрувашчаных у рэчышчы вялікіх дрэў, бабровай запруды, россыпу камянёў, вымытых з марэны.

***Млын.*** Галоўным гаспадарчым аб’ектам гідрасістэмы быў млын. Да сённяшняга дня ад былой пабудовы застаўся толькі падмурак, які моцна зрос дрэвамі і кустоўем. Яго планіроўка дазваляе вызначыць, што большая вось млына была выцягнута з поўначы на поўдзень, а ў цэнтральнай частцы разсяшчаўся калектар

для вады з турбінай. Шырыня муроў і "быкі"-апоры, якія падпіралі падмурак, сведчаць пра тое, што будынак быў масіўны, верагодна, як і аналагічныя млыны, двухпавярховы. Існавала небяспека размыву ніжняй часткі быдынку, таму рабіўся ён з вялікім запасам трываласці. На жаль, пакуль што не ўдалося знайсці фатаздымкаў млына і сведкаў, якія маглі б падрабязна расказаць пра яго канстукцыйныя асаблівасці (Дадатак 4). Ад млына да рэчышча выступае масіўны бетонны "бык". Аналагічны знаходзіцца на супрацьлеглым баку. Відавочна тут знаходзіўся шлюз (запруда), якая рэгулявала рух вады, павялічваючы ці памяншаючы яе колькасць у залежнасці ад патрэб млына і ўзроўня вады ў рацэ і возеры Варанец (Дадатак 3).

***Канал (пратока).*** Паміж возерам Варанец і ракой Мядзелкай знаходзіцца пратока, якая запаўняецца вадой у часы разводдзяў або паводак. У выніку даследаванняў мы прыйшлі да высновы, што яна была выкапана штучна, хоць, магчыма, тут раней існаваў раўчук, рэчышча якога было заглыблена. На выхадзе з возера, верагодна, таксама мелася драўляная запруда, але рэштках яе на сённяшні дзень не захавалася. На польскіх картах у гэтым месцы паказана невялікая будыніна, ад якой слядоў таксама знайсці не ўдалося. На пратоцы, што злучае Мядзелку і возера Варанец бабры стварылі каскад плацін, якія затрымліваюць ваду і даюць магчымасць бабрам вольна плаваць з адной воднай сістэмы ў другую. На некаторых участках, асабліва каля былога млына, ім даводзіцца спрамляць шлях па сушы, у выніку чаго ўтварыліся адметныя бабровыя сцежкі. На рацэ Мядзелка яны стварылі гіганцкую запруду, паваліўшы шмат вялікіх дрэў у рэчышча (Дадатак 3, В).

***Старая дарога каля млына.*** Паміж падмуркам млына і возерам Варанец захаваліся рэшткі былой дарогі, па якой з Лотвы, Кабайлаў, Маўчаноў людзі ехалі на Манькавічы, Паставы. "Пры Польшчы" і пасляваенным часам транспарт тут хадзіў гужавы – вазы і коні. Каля млына стаяла карчма. Гэтай дарогай не карыстаюцца ўжо каля 70 гадоў, таму яна значна зарасла маладымі дрэўцамі, хоць прыўзняты над нізінай насып і цяпер выяўна прасочваецца ў рэльефе. Часткова дарога ішла ўздоўж паўднёва-усходняга берага возера Варанец. Адсюль адкрываюцца вельмі маляўнічыя краявіды, у якіх спалучаюцца сінеча вады, зеляніна дрэў, блакіт неба і снежнасць аблокаў. Смалісты пах невялікага сасновага бору, духмянасць зёлак і траў ствараюць тут незвычайную аўру і лагодзяць душу. Прыгажосць пануе паўсюль (Дадатак 3, Г).

***Возера Варанец.*** Возера Варанец прываблівае сваёй прыроднай маляўнічасцю і празрыстасцю вады. Яно мае амаль правільную круглую форму і вялікую глыбіню, што ў спалучэнні з высокімі берагамі стварае запамінальны краявід. Максімальная глыбіня дасягае 38 метраў. З возерам звязаны шэраг легенд і таямніц. Да нядаўняга

часу на паўднёва-ўсходнім беразе возера мелася турысцкая стаянка, якой актыўна карысталіся падарожнікі і аматары пікнікоў. Па гэтай прычыне ішло моцнае забруджванне ўзбярэжжа ўнікальнага возера. Пасля перадачы тэрыторыі ў склад Нацыянальнага парка “Нарачанскі” стаянку ліквідавалі, смецце прыбралі і цяпер можна атрымліваць асалоду ад натуральнага прыроднага асяроддзя. З самім возерам звязана трагічнае паданне “Ахвяра возера Варанец” (Дадатак 3, Д).

**III. Цікавыя аб’екты вакол гідратэхнічнай сістэмы**

Вакол рэшткаў гідратэхнічнай сістэмы ёсць шэраг цікавых прыродных і гістарычных аб’ектаў, якія могуць прыцягнуць увагу турыстаў і цікаўных людзей. Вось кароткая характарыстыка некаторых з іх.

***Вёска Пятроўшчына.*** Вёска ўзнікла на месцы фальварка, які належаў Протасу. У пачатку XX стагоддзя тут пражывала 14 чалавек, мелася 70 дзесяцін зямлі, дзейнічала школа граматы. У 2001 годзе засталося 3 двары, 4 жыхары. У вёсцы мела дачу Валянціна Клачкова, былая партызанка, дзяржаўны і партыйны дзеяч, літаратар. З 1963 года яна працавала старшынёй Пастаўскага райвыканкама, з 1970 па 1978 гады была першым сакратаром Пастаўскага РК КПБ. Аўтар сямі кніг.

***Шлях Баторыя-Напалеона (Альгердаў шлях).*** На адлегласці 2 км на поўнач ад гідратэхнічнай сістэмы праходзіць дарога з Полацка на Вільню – стары Альгердаў шлях, або шлях Баторыя-Напалеона, або Полацкі шлях. З’явіўся ён у выніку паходаў Вялікага князя Літоўскага Альгерда на Маскву ў 1368, 1370, 1372 гадах. У часы княжання Вітаўта гэты гасцінец называўся Вітаўтаў шлях. Пазней – шляхам Баторыя, які таксама праходзіў вайной супраць маскоўцаў гэтай дарогай. Назву “шлях Напалеона” гэты гасцінец атрымаў з прычыны таго, што войскі імператара Банапарта ў 1912 годзе ішлі маршам па гэтай дарозе, хоць сам імператар праехаў паўночней, праз Паставы.

***Папуляцыя капавых асін.*** На маршруце каля поплава ракі Мядзелка выяўлена рэдкая папуляцыя капавых асін, якая ўключае 5 дрэў, на ствалах якіх налічваецца па 3-5 вялікіх капаў. Кап (капакорань) – нараст на дрэве з дэфармаванымі напрамкамі росту валокнаў драўніны. Звычайна сустракаецца ў выглядзе круглявага выросту на ствале або галінцы, напоўненага дробнымі драўнянымі вузельчыкамі спячых пупышак.

***Паміраючы дуб-волат.*** Непадалёку ад млына знаходзіца вялікі дуб, які паступова памірае. Дуб – самае велічнае дрэва Беларусі. Гэта рэкардсмен па працягласці

жыцця, велічыні сваёй кроны і трываласці драўніны. Дуб – гэта род кустоў і дрэў сямейства букаў.

***Рэшткі былога Варанецкага сельскагаспадарчага вучылішча.*** За 500 метраў на паўночны ўсход ад млына на ўзгорках паміж азёрамі Варанец, Доўжа і ракой Мядзелкай у пачатку XX стагоддзя размяшчалася сельскагаспадарчае вучылішча. Дзейнічала яно з 1909 па 1915 год дзякуючы ініцыяцыве і фундацыі ўласніка Манькавічаў і Казлоўшчыны князя Уладзіміра Друцкага-Любецкага.

У час Першай сусветнай вайны праз тэрыторыю вучылішча прайшла лінія фронту. Тут размесціліся передавыя пазіцыі геманскіх войск. У выніку баявых дзеянняў амаль усе будынкі былі разбураны. Ад былога вучэбнага корпусу засталіся рэшткі падмурку, склеп і бітая цэгла.

***Германскі ўмацаваны раён часоў Першай сусветнай вайны.*** Паміж азёрамі Варанец, Доўжа і ракой Мядзелкай знаходзіцца адзін з буйнейшых на Пастаўшчыне германскі ўмацаваны раён часоў Першай сусветнай вайны. Ствараўся ён у 1915-1917 гадах, і ўяўляе сабой густую сетку трашэяў з вялікай колькасцю (звыш 20) доўгатэрміновых умацаваных кропак (ДАКаў). Збудаваныя яны з жалезабетону, маюць тоўстыя сцены і на сённяшні дзень знаходзяцца ў даволі добрым стане.

## IV. Папулярызацыя ўнікальнай гідратэхнічнай сістэмы

Па матэрыялах даследаванняў, якія былі праведзены вучнямі Пастаўскай гімназіі ў 2018-2019 гадах каля возера Варанец, удалося распрацаваць і ўладкаваць турысцка-экскурсійны маршрут. У яго ўключана і гідратэхнічная сістэма з аб'ектамі, якія ўваходзяць у яе склад (Дадатак 5). Вызначэннне і маркіроўка ніткі маршута праводзілася падчас вясенніх і летніх экспедыцый вучнямі Пастаўскай гімназіі. Імі ж у жніўні 2018 года былі зроблены просекі на маршруце, прымацаваны інфармацыйныя табліцы і ўказальнікі. У правядзенні больш складаных работ (усталяванне банера, вялікафарматных табліц, выкашванне травы, высечка вялікіх паваленых дрэў) дапамаглі супрацоўнікі Нацыянальнага парка "Нарачанскі".

Для папулярызацыі маршрута і аб'ектаў на ім (у тым ліку і гідратэхнічнай сістэмы) быў падрыхтаваны поўнакаляровы даведнік "Прыродна-гістарычны комплекс "Крыжоўкі": турысцка-экскурсійны маршрут" аб'ёмам 68 старонак фармату А-5, які выдадзены тыражом 50 асобнікаў (Дадатак 6). Інфармацыя пра гідратэхнічную сістэму Мядзелка-Варанец была пададзена ў тэлевізійнай праграме "Ітогі" кампаніі

“Паставы-ТБ”, у шэрагу публікацый ў мясцовым і рэспубліканскім друку. Прадстаўлена яна і на сайтах ДУА “Пастаўская гімназія” і ўстановы “Нацыянальны парк “Нарачанскі” (Дадатак 7).

**Заключэнне**

Па выніках даследавання можна зрабіць наступныя высновы:

1. Гідратэхнічная сістэма Мядзелка-Варанец з’яўляецца ўнікальным прыродна-гаспадарчым комплексам, які патрабуе дадатковага вывучэння, зберажэння і папулярызацыі
2. Гідратэхнічная сістэма выяўлена і вывучана вучнямі Пастаўскай гімназіі шляхам правядзення чатырох комплексных экспедыцый.
3. Вучнымі пастаўскай гімназіі распрацаваны і ўладкаваны (разам з супрацоўнікамі Нацыянальнага парка “Нарачанскі”) турысцка-экскурсійны маршрут па ваколіцах возера Варанец, у які ўключаны аб’екты гідратэхнічнай сістэмы (рэшткі млына, пратока, бабровая імперыя, рака Мядзелка, рэшткі былой дарогі).
4. Вучнямі гімназіі былі зроблены пэўныя захады для папулярызацыі вынікаў даследавання праз размяшчэнне матэрыялаў у сродках масавай інфармацыі, на мясцовым тэлебачанні, у інтэрнеце, пры правядзенні экскурсій для школьнікаў і іх бацькоў. У працэсе работы ўдалося дасягнуць пастаўленай мэты, выканаць амаль усе заяўленыя задачы: прааналізаваны літаратурныя і картаграфічныя крыніцы, праведзены краязнаўчыя экспедыцыі, сабраны і сістэматызаваны атрыманы матэрыял, зроблена апісанне ўнікальнай гідратэхнічнай сістэмы.

**Спіс выкарыстаных крыніц**

1. Блакітная кніга Беларусі: Энцыкл. / Беларус. Энцыкл.; Рэдкал.: Н.А. Дзісько і інш. – Мн.: БелЭн, 1994. – 415 с.: іл.
2. Могильницкий, В.Я. Природа Поставского края / В.Я. Могильницкий. Маладзечна, Перамога, 2000. – 84 с.
3. Пракаповіч, І.М. Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна / І.М. Пракаповіч. Віцебск, ІУН, 1994. – 50 с.
4. Якушко, О.Ф. Озероведение: География озёр Белоруссии / О.Ф. Якушко. Минск: Выш. шк., 1981. – 223 с.

Дадатак 1.




Аб’екты гідратэхнічнай сістэмы рака Мядзелка каля былога млына і старая дарога




Рэшткі млына




Канал (пратока) Мядзелка-Варанец і Возера Варанец

Дадатак 2




Рэканструкцыя гідратэхнічнай сістэмы “Мядзелка-Варанец”

(малюнкі Л. Афанасьевай)

Дадатак 3. Схема турысцка-экскурсійнага маршрута па прыродна-гістарычным комплексе “Крыжоўкі”

**І. Аб’екты гідратэхнічнай сістэмы:** 7. Канал (пратока); 8. Рака Мядзелка; 9.Рэшткі млына; 10. Старая дарога да млына; 11. Возера Варанец. Пляцоўкі для агляду.

**ІІ. Цікавыя аб’екты каля гідратэхнічнай сістэмы:** 1. Турстаянка каля воз. Варанец; 2.Вёска Пятроўшчына; 3. Руска-германскі могільнік часоў І Сусветнай вайны 1915-1917; 4. Дрэва жаданняў; 5. Папуляцыя капавых асін; 6.Паміраючы дуб-волат; 13.Варанецкае сельгаспадарчае вучылішча. Мурашыная калонія; 15. Германскі умацаваны раён (траншэі); 28. Шлях Баторыя-Напалеона (Альгердаў шлях). Зараснік глогу. Вінаградныя смаўжы.

Дадатак 4.

Даведнік: Пракаповіч, І., Януш, А. Прыродна-гістарычны комплекс “Крыжоўкі”: турысцка-экскурсійны маршрут. Мінск: Каўчэг, 2018. – 68 с.



**Afanasjeva L.M., Janush A.A. Prakapovich I.M.: Unique hydro-technic complex "Mjadzelka-Varanets"**
***(magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p. 137-149, www.sakavik.net)***

In the early middle ages, a water trade route that connected Polatsk, Vilnja and Navagrudak passed via Mjadzelka river. During four expeditions in 2018-2019 the students of Pastavy gymnasium made a description of the unique complex, designed and equipped tourist routes in the surrounding area of Lake Varanets, which includes objects of hydro-technic complex (residues of mill, canal, beaver area, Mjadzelka river, the remains of the former road).

**Афанасьева Л.М., Януш А.А., Прокопович И.М.: Уникальная гидротехническая система «Мяделка-Воронец» (исследовательская работа)**
***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019, выпуск 24, стр. 137-149, www.sakavik.net)***

Гидротехническая система Мяделка-Воронец является уникальным природно-хозяйственным комплексом. В раннем средневековье по реке Мяделка проходил водный торговый путь, который соединял Полоцк, Вильнюс и Новогрудок.
Во время четырех комплексных экспедиций учениками Поставской гимназии сделано описание уникальной гидротехнической системы, разработан и обустроен туристско-экскурсионный маршрут по окрестностям озера Воронец, в который включены объекты гидротехнической системы (остатки мельницы, проток, бобровая зона, река Мяделка, остатки бывшей дороги).

*Юбілеі*

**Сяргей Панізьнік:**
**Да юбілею сяброўкі Беларусі - украінскай пісьменніцы Галіны Кірпа**



Галіна Мікалаеўна Кірпа нарадзілася 1.01.1950 года. Закончыла філалагічны факультэт Кіеўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1976). Паэтэса, празаік, перакладчыца, літаратурны рэдактар, сябра Нацыянальнага саюза пісьменьнікаў Украіны (1986). Працавала на выдавецкай і журналісцкай рабоце. Галіна Кірпа перакладала з польскай, беларускай, рускай, нямецкай, шведскай, датскай, нарвежскай моваў. А яе творы перастрованы на албанскую, англійскую, беларускую, польскую, французскую, рускую мовы.

Галіна Мікалаеўна пачынала ствараць паралелі з беларускіх мерыдыянаў - з вершаў і казак Валянціна Лукшы (“Лета цэлы год”, 1985). Потым пераклала трылогію Сяргея Грахоўскага “Зона маўчаньня”. Вынік наступных гадоў –перастварэньне твораў Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча, Казіміра Камейшы, Міколы Маляўкі, Ніны Мацяш, Сяргея Панізьніка, Сяргея Тарасава…

Прапаную на агледзіны некалькі гучальных галінак з творчага нажытку Галіны Кірпы ў маім перакладзе, а таксама пару прысвячэньняў.

**Падумкі з клёнам за вакном**

Учора ў клёна за вакном пытаю:
- Ў цябе, мой дружа, восень пачалася?
    І мне спакойна клён апавядае,
    гайдаючы лістоту на галінках:
- Трывожыцць восень? Гэта паўбяды.
Табе цяжэй – нажытак навісае…

**На сходнях неба**

Я кніжку неба
чытала
ўпрыцемках -
пры цёплай лампадцы сэрца,
якое ўзносіла святло да столі,
пераводзіла ў высокае неба,
на сходнях якога ўселася
малое дзяўчо
і малявала слова л ю б о ў.
А слова ўздымалася,
фальшы цуралася,
зыркасцю напаўнялася,
ў малітву ўкладалася.

Я кніжку неба чытала,
вышэй і вышэй пераступала -
аж да тое малечы,
якое на сходнях уселася
і малявала слова л ю б о ў.
Пачувалася мне,
што змагу дакрануцца да Неба
і там, каб ніхто не ўбачыў,
Божым дзецям – анёлам -
выцалую слязу.

Я ногі збіла…
Душу стаміла…
Ды плынь свяціла…
Мяне скарыла -
дзіця на сходнях,
сляза на крылах.

**Мая крохкая душа**

Мая крохкая душа
даўно ўжо
распалася б, мой Божа,
на драбнюткія крошынкі,
і тыя няўцешна
рассыпаліся б на скразняку.

Але Ты паспяваеш
падстаўляць, Божа, далонькі,
вяртаючы скавыш з паўдарогі.
Заўжды я дзіўлюся,
як гэта Ты адчуваеш,
што крохкая душа вось г э т а
і без Цябе ёй
не выжыць?

**Штодзённая малітва**

Дай, Божа,
здароўя радні і сябрам,
якіх я люблю
і якія любяць мяне.
Дай на ўсе дні
        на ўсе ночы,
                навекі.
Але не забудзь
і пра тых, хто адварочваецца,
дакарае і судзіць,
жыве самапраўна,
нібыта мяне ўжо няма на свеце.
Прашу Цябе -
не забудзь і пра іх
у штодзённых сваіх турботах,
мой Божа Адзіны,
нават тады, калі й сапраўды
у сне вечным я буду.
Заўжды ласкавей тым людзям,
пра якіх хоць зрэдчас,
а ўсё ж нехта згадае.

**Гора**

Гора згаргулася
ў клубочак
і прытулілася да парога -
не чутно нават подыху.
Дзвярэй не адчыняць!
Хай жа гора пабачыць,

што тут яго не чакаюць
і сыйдзе самохаць прэч.

Дождж з найменнем Вівальдзі

А сёння дождж хадзіў па вулках,
як Вівальдзі,
магчыма, паравіны году выбіраў,
ды вызначыць ніяк не мог, бо лета…
Любіў жа лета больш за ўсё на свеце.
Ён лужыцы перабягаў з падскокам
і радасна смяяўся:
- Ну хай бы як даўжэй
спявала лета!
Яго ж ніколі не бывае ўдосталь. -
Пасля крутнуў узнёсла галавою
і басанож пашлёпаў па траве.
Ці гэта дождж там быў,
а можа сам Вівальдзі?

----------------------------------------------------------------

*Антоніа Вівальдзі (1678—1741) – італьянскі кампазітар, скрыпач, майстар ансамблева-аркестравага канцэрта (заўвага перакладчыка).*

**За далягляд**

Мой родненькі, любы,
і мы ўжо на краю далягляду:
лелю-палелю…
лелю-палелю…
Памятай вось пра што:
не бойся, што знікну.
Зарок мой:
далёка не крочыць,
не заблукаць там
і не прапасці.
Я абяцаю
спыніцца ў чаканні.
А ты йдзі на зыркат
заплюшчаных вачанят -
каб апынуцца
ў маіх абдымках.
Не бойся, цябе апазнаюць рукі:

лелю-палелю…
лелю-палелю…

---------------------------------------------------------------

*Лелю-палелю – у значэнні: мала памалу, нага за нагу, ледзь-ледзь, абы дзень да вечара... (заўвага перакладчыка).*

**Нядаўнія…**

Няма тут Валянціны, Валянціна,
няма Святланы,
Ліды
і Юрка…
Яўгена і Марыі не пабачыць -
няма іх з н а м і.
Гуннэль не стала,
Торгні,
Геннінга і Ульфа --
сыйшлі
без развітальнага ліста.
Пазней і Мікалас забыў азвацца,
“iki pasimatymo!” чутно…
Пятро знаёма
узмахнуў рукою,
Пакрочыўшы ў нязведаны прасёлак…
Парожні свет -
пустэчай непапраўнай.
Аж страх бярэ,
што іх вось тут
няма ўжо.
І разам з тым дзівосна:
тут б я з л ю д з е ,
а іх усмешкі т а м -
за далягглядам…
Хоць далягляд
ужо не далячынь -
пагляд прыблізіў
важкі той абшар.
Яны не паміраюць -
мне вядома -
а першымі бяруць з зямлёю шлюб,
каб сцежку нам пракласці

і не разлучацца
пасля сваіх заручын з Богам.
-----------------------------------------------------------------------------------------

*Валянціна – сястра Дзмітра Чараднічэнкі—паэта, перакладчыка, мужа Галіны Кірпы; Валянцін Задарожны – перакладчык з нямецкай, англійскай моваў; Святлана Жолаб – паэтэса, перакладчыца; Яўген Дарашкевіч – паэт, бандурыст; Ліза Новікава – паэтэса; Гуннэль Ліндэ, Ульф Старк, Геннінг Манкель, Торгні Ліндгрэн – шведскія пісьменнікі; Мікалас Карчаўскас—літоўскі літаратар: творцы, з якімі супрацоўнічала Галіна Кірпа.*
*“iki pasimatymo!”— развітальнае зычэнне.*

- * -

Рана-раненька,
дасвеццем
іду я
павітацца з дрэвам -
ускідваю галаву, гукаю:
- Вітаю, Таццянка!
Вызначылася ты, гляджу, -
стала зусім дарослай.
І табе зараз бліжэй да неба,
чым да зямлі.
Цяпер ты, магчыма, бачыш,
каб распавесці,
а колькі на свеце
таполяў з абзыванкай
Т а ц ц я н к а ?

- * -

Людзі жывуць у фэйсбуках,
у блоках:
скрабуцца,
скубуцца,
клікаюць,
лайкаюць,
грызуцца,
лаюцца -
і ў палоне дзівацкіх слоў,
ўнепрыкмет для сябе
страчваюць незалежнасць.
Хаця якая тая свабода,

нібыта збуцьвелы пянёк
на ўскрайку здзічэлага саду,
куды карабкаецца істота
найменшая ў свеце – мураш,
шчаслівы ўжо тым,
што яго аніхто не бачыць.

- * -

На хвілінку сустрэцца,
у абдымках
прытуліцца шчакой да шчакі.
Божа Вялікі, як Табе вымавіць,
што такая л ю б о ў – вечнаму Валадарству.

Яна ўсё чуе, толькі
не прамаўляе,
бо маўчуння, як асенні палын.
Божа Праведны,
у сэрцы любові – гора,
таму ў несуцешшы баліць і ные.

На хвілінку б сустрэцца, каб доўжыць яе
у бясконца расцяглы час.
Ойча Нябесны, паспрыяй адчуць:
Ты ж на векі вечныя любіш нас.

- * -

*Пятру Сароку*

Ёсць людзі
нібыта той лес:
камлі там усе – браты,
а зязюлі ўсе – сёстры.
Ёсць людзі
у спадобе на явар,
на таполю, ці ясень.
Але ёсць гаспадар
падобны на цэлы лес,
дзе б’ецца сэрца
явара, ясеня і таполі.
Бо вызнаў там ён

кожную зязюльку
па імені
і з кожным коннікам
перастракатацца ўмее.
І не толькі таму,
што ён песнятворца,
(паэтаў на свеце больш,
чым казуль і цвыркунчыкаў),
а таму,
што вось толькі яму
даверыў
Госпад Бог
глыбокую і густую
душу лесу.

---------------------------------------------------------------------------------------------

*Пятро Сарока (1956—2018)—украінскі празаік, паэт, літаратуразнаўца, крытык, публіцыст, перакладчык.*

**Летам**

Летам усе летуценнікі:
кветкі нічога не дзеяць -
толькі цвітуць.
Кроны не прыніжаюцца -
толькі растуць.
Рэчка берагі не зрывае -
толькі журкоча.
Дбалае ж сонца па небу гоцае -
у танцы ёй рупіцца пакружыцца!

- * -

Відно,
дзе згарнулася поле
і кустарыцца лес.
А як апазнаю,
дзе з летніх снапоў
ускрыляецца восень?
За разумнай рачулкай?
За крутою гарою?
Хто ўжо прыкмеціў, --

прашу перадаць,--
калі ласка.

- * -

Цяпер анікога дома не знойдзеш -
усе блукаюць
па розных базарах фэйсбукаў,
марнаю звягаю балабоняць.
А лепш мо пайсці нам
у падсуседзі да букаў,
тапаляў, яблынь, вішань, бяроз.
Лістотай разам з імі прыкрыцца,
якая на дно восені ападае
і засыпае ўсе зёлкі прысадаў.
Трымцець голым веццем азызлым
сярод завірухаў нахабных,
і трымацца жывой душою
за прыстань у небе,
страсаючы далонькай адчай,
бо сам па сабе не сходзіць.
І толькі з прадвесьнем ў зелень крочыць,
усклаўшы абярэг на плечы,
каб напярэймы лету
шыбаваць басанож.

- * -

Паспець бы мне да навальніц густых,
надыхацца прыпарам, надзівіцца,
на бляклы бераг, пустыя кусты,
на зёлку, якая чакае вадзіцы.

На яхту, ачужэлыя берагі,
на дальнія, нібы міраж, хмурыны,
на цень той нязніклы, бо дарагі,
і на качынае гняздо ля адрыны.

На сцежку, што вядзе з забыцця,
на ясакар: высь нябёс падпірае,
на ўспомненне, якое гадуе дзіця,
на тое, што ёсць, і што лёс падбірае.

\- * -

Ісці…брысці…знянацку заблудзіцца
у пералеску апраметных сноў,
упрошваць Бога: “Збаў нас ля бажніцы
ад панавання легкаважных слоў”.

Хай знікне змрок – спадзе на дол сняжынкай,
страсе расінку палыновы квет.
Душа ўздыхне, як бабця на дажынках:
-- А вось і ён, багаслаўлёны свет.

\- * -

Паэты жыць маглі б і на лугах
збіраць нібы чмялі
нектар з багатак*.
Заплюшчыць вочы -
пераначаваць
у дзікай канюшыне.
Збягаць , мо дасць Бог сілы,
ад выплескаў кіпучай славы
у зарасніку пушчы.
Ну а там --
і ясеня лістоту цалаваць,
дасветнаю расіцай умывацца,
вятрыскам абцірацца
і павяртацца ў будні --
з чыстаю душой
бялюткімі анёламі прышэсця.

---

* *Багатка – адна з назваў малачая.*

**Прысвячэньні паэтэсе ад Сяргея Панізьніка:**

*З нагоды атрымання прэміі імя Олены Пчілкі.*

Сяргей з Прыдзвінскага папара
падумаў: “Прэмія – не кара,
бо праведніца Кірпа
яе зняла ажно з гарба
у паэтычнага Атланта!

Ну, а на мне вісіць … лаванда.
Галіне прыкладу да банта, -
абмякне пустаслоўя банда.
А прэмія – не пахвальба.
Кірпа – бурштыніна- вярба:
для Пчолачкі – сяўба, пасьба…
Максіму Рыльскаму – каманда!

*5 ліпеня 2016 года*

**Шлях велічна кліча**

Пакуль гарыць прамень тугі
Насуперак змяркання, -
Будзь рады сонцу і жыццю,
І нашаму каханню.
(*з верша "Будзь рады!",*
*напісанага Дзмітром, мужам Галіны Кірпа**)

Вітаю вас, Галіна і Дзмітро,
на Мацерыку, дзе вы – сябры і друзі!
Не жыў бы ў сэрцы сум па Беларусі, -
спяваў бы Украіне, як жаўро…

Растаяла б тады мяжы таўро:
спрадвечнае сваяцтва – на дабро!
І каб абдымкі тузалі рабро,
варголаю не поўніў бы нутро, -
быць з вамі вырашыў – пяро ў пяро!

У Полацак знаходліва упруся,
праз Віцьбеск, Воршу, Гомлю прабяруся, -
і ў Кіеве –упобачкі - знайдуся.
З Героямі Дняпра не размінуся,
Оксане і Наталцы пакланюся.

Ў пячоры Лаўры траплю праз метро
(прыму прычасце споведзі - сітро)…
Прызнаюся Пячэрскаму бюро:
натхняльнікі – Галіна і Дзмітро!

Пры Золаце смяецца Серабро:
- Не спарахнее Бронза Беларусі!
Галіна і Дзмітро, я не згублюся.
На Радаўніцу, Стрэчанне, Пятро
зноў да бажніцы з вамі прытулюся:
ГЕРОЯМ УКРАІНЫ памалюся.

*Муж Галіны – Дзмітро Чараднічэнкам (нарадзіўся 30.11.1935). Кавалер ордэна Вялікага князя літоўскага Гедымінаса… (Сп. Панізьнік – кавалер ордэна Трох Зорак Латвійскай Рэспублікі).*

*Жаўро – жаўрук; таўро – пазнака; варгола – вар голы: кіпень; згадваюцца паэтэсы Оксана Шалак, Наталка Пазняк; пячоры Лаўры – Блізкія і Далёкія пячоры ў Кіева-Пячэрскай лаўры; Радаўніца – свята Уваскрэсення Хрыстовага; Стрэчанне, Грамніцы—"Калі на Грамніцы нап"еցца певень вадзіцы, то на Юр'я наесца вол травіцы"; Пятро – земляробчае свята, завяршэнне Купалля.*

*6.10.2019*

**ПАД АБЯРЭГАМ ЦЕПЛЫНІ І СВЯТЛА**

Я часта адклікаўся на інтэрнэтаўскія заклікі дачушкі Галіны і Дзмітра – паэтэсы, перакладчыцы, мастачкі, якая мае спеўны псеўданім – Оляна Рута (нарадзілася 6.08.1977). Аднаго разу яна мне перакінула свой фотаздымак, пазначыўшы, што гэты рушнік вышыла яе мама паводле перасланага мною здымка. "Які фантастычны "пераклад", падумалася мне. Так, я пераслаў у Кіеў здымак рушніка-абярэга бабкі Параскі Белавус з-пад Дзісны. Вучоныя мне тлумачылі, што на рушніку такія выявы: Берагіня (Вялікая Багіня Маці-Зямля-Карміцелька), Вясна-Лада – памяць русалляў з XI—XII ст. А Вясну-Ладу яшчэ азываюць Багіняй юнацтва; гэта сімвал прыгажосці і пладаноснасці, цеплыні і святла; яна апякунка кахання і шлюбаў.

У Кіеве напоўніцу ўваскрэсла аўтэнтыка дзісненскага абярэга, напаўняючы цеплынёй і святлом насельнікаў жытла. Вы ж толькі ўявіце творчую пладаноснасць гаспадыні Галіны – паэтэсы, празаіка, перакладчыцы, уганараванай прэміяміі імя Івана Огіенкі (1996), "Світлослов" (2005), імя Максіма Рыльскага (2007), "Крышталёвы птах" (2011), ужо згаданай прэміяй імя Олены Пчілкі…Таму я і жадаю Галіне – незвычайнаму Творцу: несуціху ў працы, натхнення ў новых пошуках Слова-Абярэга.

*10.10.2019, Сяргей Панізьнік*

**Siargei Paniznik: On the anniversary of G.M.Kirpa**
***(magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p.150-162, www.sakavik.net)***

Galina Kirpa, novelist, translator and literary editor, the member of the National Union of Writers of Ukraine (1986). She was born on January 1, 1950. She was engaged a lot in the translation of Belarusian literature: V.Luksha, S.Grahouski, M.Tank, U.Karatkevich, K.Kamejsha, M.Maljauka, N. Mátsjásh, S. Paniznik, S.Tarasau ... In the honor of the hero of the day S. Paniznik sent notes, some of his translations of her poems in the Belarusian language, as well as a couple of dedications.

**Сергей Панизьник: К юбилею Г.М.Кирпа**
***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019, выпуск 24, стр. 150-162, www.sakavik.net)***

Галина Николаевна Кирпа, поэтесса, прозаик, переводчик, литературный редактор, член Национального союза писателей Украины (1986). Она родилась 1 января 1950 года. Много занималась переводами произведений белорусских авторов: В.Лукшы, С.Граховскага, М.Танка, В.Короткевича, К.Камейшы, М.Малявки, Н.Матяш, С.Панизьника, С.Тарасова... В честь юбиляра С.Панизьник прислал заметки, несколько своих переводов ее стихов на белорусский язык, а также пару посвящений.

**Сяргей Панізьнік: Зерне слоў.** *Да 92-годдзя з дня нараджэння Івана Бурсава*

Іван Цярэнцьевіч Бурсаў нарадзіўся 19 снежня 1927 года ў Клімавічах Магілёўскай вобласці. Працоўны шлях пачынаў на Чэлябінскім металургічным заводзе, на Мінскім трактарным…

Свае першыя вершы чытаў сябрам літаб'яднання пры газеце «Знамя юности». Па сканчэнні Літінстытута ў Маскве некаторы час працаваў рэдактарам часопіса «Нёман» (1962—1964). Пазней стаў супрацоўнікам маскоўскага часопіса «Молодая гвардия». Апрача кніг прозы Іванам Бурсавым выдадзена 14 зборнікаў вершаў, 20 «творчых пасланняў» для дзяцей. Многія набыткі Бурсава перакладзены на балгарскую, нямецкую, польскую, украінскую і іншыя мовы. А самому Бурсаву-перакладчыку былі ўдзячныя Р. Барадулін і Г. Бураўкін, У. Караткевіч і В. Зуёнак, Е. Лось і К. Цвірка, М. Федзюковіч і Д. Бічэль-Загнетава, П. Броўка і А. Астрэйка… Дружылі з маскоўскім суайчыннікам і мінскія кампазітары.

У 2011 годзе Іван Бурсаў выдаў прэзентатыўную анталогію беларускай паэзіі «Шаги». У кнігу падабраны творы «пачынальнікаў», «нашаніўцаў», «маладнякоўцаў» і «ўзвышэнцаў» — усяго сорак сем творцаў з вялікай грамады літаратурнага шэсця. Асобны раздзел анталогіі напоўнены перакладамі спадчыны Алеся Смаленеца (А. Ружанцова), Ларысы Геніюш, Аляксея Пысіна. Зборнік заканчваецца ўдумным артыкулам «Мой Янка Купала» і вершам-прысвячэннем з нагоды ўсталявання ў Маскве помніка класіку беларускай літаратуры.

А ў 2016 годзе Іван Цярэшкавіч (як называў свайго сябра Рыгор Барадулін), выдаў новы зборнік пад назвай "Дыхание времени», дзе змешчаны яго пераклады на рускую мову вершаў многіх беларускіх паэтаў. Удзячны добразычліваму маскоўскаму Творцу і я. У сціплую падзяку нястомнаму і нязводнаму магілеўчаніну паспрабаваў я "вярнуць" на мову радзімы Бурсава некалькі яго лірычных вершаў.

С. Панізьнік, 2019

*Ад рэдакцыі: Пасля атрымання артыкула рэдакцыяй стала вядома, што Бурсаў Іван Цярэнцьевіч, паэт, празаік, перакладчык, журналіст, пакінуў свет 12 лістапада 2019 года. Вечная памяць.*

Ніжэй падаюцца два прысвячэнні сп. І. Бурсаву, напісаныя сп. С. Панізьнікам раней, і некалькі вершаў І. Бурсава ў перакладзе з рускай мовы С. Панізьніка.

**Сцэпшчык вякоў**

Масквічу Івану Бурсаву – паэту, перакладчыку,
даследчыку "Двух вякоў беларускай паэзіі"

Бурсаў бурсу не закончыў.
Шпалаўкладчыкам ён крочыў.
З прозы "Немана" у "Горсть"
трапіў клімавіцкі госць.
І Лабжанка па Маскве
аж па сённека плыве.

Небылічкі весялелі,
Вожыкі пілі і елі…
Ён злавіў Сарок мо сорак
ля саміх крамлёўскіх зорак.
А гадочкаў – удвайне!

На лірычным палатне,
там, дзе счэплены, прытулены
Караткевіч з Барадуліным,
і Бураўкін, і Бічэль, -
іскры з бурсавых вачэй:
з урачыстасцю арганнай,
з дружалюбнасцю адданай
да ідэйных сваякоў.

Слава Слову Іаана!
Лаўры – сцэпшчыку вякоў!

---

*"Перакладчыкі –шпалаўкладчыкі…"* - *радок з верша Рыгора Барадуліна.*

10.XII.2008, 21.01.2011

**Будзь праслаўны на цэлы бел свет!**

Івану Бурсаву – аўтару кнігі "Шаги" (Анталогія беларускай паэзіі. Артыкулы і пераклады вершаў беларускіх паэтаў на рускую мову. Мінск. Выдавец Віктар Хурсік. 2011 г).

Чачот, Баршчэўскі… Колас поруч
тварцоў з Устроні і Парнаса.
Буйлянка з Цёткаю – прыўкраса,
і Геніюш не чуе горыч.

Са шляхтай гордай – граф Альгерд
да нашаніўцаў, узвышэнцаў
вядзе адноўлены свой рэйд.
Алесь Смаленец між прышэльцаў.

А Ваш Купала гуслярам
дае параду: мець свой храм,
каб – замест пустак і балотаў -
народ Дзяржаваю валодаў.

"Час не змяніў яго аблічча…"-
чытаю ў  Вашых я "Шагах".
Так, Беларусь з ягоным клічам
жыве, каб шчыранька маліцца
і нам – ўсясвету аб"явіцца,
Купалы ажывіць Пасад:
узвысіць Дом, уквеціць Сад.
………………………………..
... "Шагі" ускрыляюць далягляд!

2.XI.2011, 7.06. 2012

**Іван БУРСАЎ** *(вершы ў перакладзе С. Панізьніка)*

**Зерне слоў**

Шурпаты шум палёў,

птушыны гмах нябёс —

усё, што пакахаў,

і ў сэрцы прыбярог, –
узняў на думны лёс,
над плёсамі разнёс,
каб зерне
спелых слоў
сабраць у звонкі рог.
Каханне не замрэ…
І пойдзе новы рост
ад збажыны, з якой
я ўсплыў
па-над зямлёй…
Вам любасці сцябло!
Будзь плоднаю, любоў,
над вашаю вясной,
над… памяццю маёй!

**Лабжанка**

Крылатым соснам
лета як служанка —
яны звіняць,
каб знікла і слата…
А рэчка
называецца Лабжанка,
і ў рэчцы той
зялёная вада.

Яна хвалюецца

на асачынах,

дае хвастам яршовым круцяля.

Тут не вада —

жывы нектар айчыны,

дзе сам я прытуляўся да камля.

Крылатым соснам

Лета як служанка —

прымкнулася дзяцінства

дабрата…

Я ў горкі час

уміг з табой, Лабжанка!

У прысмаку

зялёная

вада.

**Зазімак**

Слязу

скаціла кропля за акном.

А на двары ані зімы,

ні лета.

І лес,

разнюханы бялюткім сном,

страсае снег з махровых эпалетаў.

Ля ног яго

сумёты

з-пад палы

выглядваюць, бо ім ужо не спіцца,

камлі і кроны ў водары смалы,

капежыцца вясёлая ігліца.

Прачнуўшыся між летам і зімой,

з пагодай лес нядужы разабрацца.

Стаіўся, як і я перад табой,

не ведаючы —

плакаць,

ці ўсміхацца.

САКРЭТЫ БЕЗ ПАДМАНА
АД БУРСАВА ІВАНА

**Словы склаў я з мэтаю**
**У КНІЖЫЦУ ГЭТУЮ**

Казкі тут як на падбор.
Іх прыдумаў мудры бор,
а я,
на пажытак,
запісаў у сшытак --
разам з прыказкамі,
каламбурамі,
дражнілкамі няхмурымі.
Слухайце-чытайце
і ў бор завітайце!
ТС—СС!

**Прыказка ЗАГАДКА,**
**дзе ўсё коратка і гладка**

Рванулі бабры
стрымгалоў з гары.
Па імху, па глыжу,
а куды – не скажу.

Калі ўсё прапісана дбайна -
казка гучыць звычайна…

Сакрэты трымае – тайна!

**Прыказка**
**ПРА ПЕЎНІКА І БАРАНА**
**Ра-на Ра-на!**

Смела на вожыка ўсеўся баран -
пеўніку ён выхваляўся як пан:
- З ночы – як з донца -
клічаш ты сонца?
Бойся, бо раніца -
аб дзюбу параніцца…
А певень, дзівак, -
не глядзіць на зявак,
ад песняў яго і сонейку ўсмак.
Ведаў баран, хто без пеўня
прачынацца навучаны…
Ды вось казка-прыдумка -
ЖЫВУЧАЯ…

**Прыказка-СВАЯЧКА,**
**якую прынесла качка**

Кролікі зайцу ў хваёвыя далі
на дзень нараджэння кавун прыслалі.
Згрувасціўся ўвесь белавежскі народ:
- Вось гэта плод!
- Дзе знайсці агарод?
- Ну і пу-пыш-ка!
- Ш ы ш – к а …

Мядзьведзь ушчыкнуў непрыкметна лісу:
- Прывіць бы такія на нашу расу -
хапіла б на ўсіх яды!
Былі б атаўсцелымі я і ты!..
Камар запярэчыў:
- Паслухаць вас мне балесна -
ад ягад такіх і ў кустах стала б цесна!

Сярод звяроў і сёння, як мудрасці сястра,
вельмі паважаецца думка КАМАРА…
Ура-а-а!!!

**Заяц частуе морквай сяброў**

-Добра без ваўка мне ў лесе -
брудны ён,
і зубы злыя.
Ешце, зайцы, колькі ўлезе:
без ваўка
і мы сытыя!

**Вожык
у недашытым жупане**

Хай жупан не ўсім раўня,
ён для вожыка – браня.
Бо наўкруг абновачкі -
вострыя іголачкі.
У жупан, пан, апрануся,-
і Страшыдлу не збаюся!

**Прыказка ПРА КАТА,
які ў гарлачы грукатаў**

-Дзе ты, коцік, уначы быў?
- У каморы сырадой піў.
- І куды цябе дзень лялеіць?
- Гарлачы тыя клеіць...

**Прыказка ПРА ЛАСЯ,**
**які марыў займець гарбы**
**Абы! Абы!**

Аднойчы лось падбег да няўклюда -
вярблюда.
“Ну й прыгажосць! – падзівіўся лось. -
Шукаў я гарбы, а яны - вось!
Гэткія мне
хоць бы дзень панавіць…”
І ўзяўся ласёнак сена касіць…
Рупіўся як масціты –
накасіў дзве сцірты.
Побач паставіў, пад іх падлез
і пратрубіў на ўвесь лес:
- Вось я – вярблюд, гарбатая цаца!
ДАРЭМНАЯ ПРАЦА…

**Развітальная песня леса**

Я стоены і стойкі
густы і добры бор.
Мае ствалы як стойкі:
дзівосных чараў збор.
Жывуць там без падказкі
у хатках без акоў
і прыказкі, і казкі
пра птушак і звяркоў.

Пацешкі не ў сакрэце:
я з імі век дружу…
Паслухайце іх, дзеці!
Ш-Ш-Ш-У… Ш-Ш-Ш-У…
Ш-Ш-Ш-У… Ш-Ш-Ш-У…

**Sergei Paniznik: Grain of words. By the 92th anniversary of Ivan Bursau**
**(*magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p.163-172,* *www.sakavik.net*)**

Ivan Bursau was born on December 19, 1927 in Klimavichi of Magileu province.
In 2011, Ivan Bursau presented the anthology of Belarusian poetry "Steps". In 2016, he published a new book entitled "Breath of time", where his translation into Russian of many poems of Belarusian poets were placed. The magazine received several poems by I. Bursau translated from Russian by S.Paniznik and two dedications to him as well. During publication of this issue it became known that I. Bursau paassed away. Eternal memory!

**Сергей Панизник: Зерно слов. К 92-летию со дня рождения Ивана Бурсова**
***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019 г., выпуск 24, с.163-172, www.sakavik.net)***

Иван Терентьевич Бурсов родился 19 декабря 1927 года в Климовичах Могилевской области. В 2011 году Иван Бурсов представил антологию белорусской поэзии «Шаги». В 2016 году он опубликовал новую книгу под названием «Дыхание времени», где был размещен его перевод на русский язык многих стихотворений белорусских поэтов. Журнал получил несколько стихов И. Бурсова в переводе с русского на белорусский С. Понизника, а также два посвящения ему. Во время публикации этого номера стало известно, что И. Бурсов ушёл из жизни. Вечная память!

*Інфармацыя аб падзеях з культурнага жыцьця беларускіх суполак*

**Олег Рудаков: О беларусах-воинах и их семьях, сосланных в Иркутскую область в 1950-51гг.**

Дорогие друзья!
Иркутский Белорусский клуб «Крывічы» приглашает на очередное Заседание Литературно-исторического кружка (ЛИК) «Белорусские мыслители», в рамках которого пройдёт презентация книги «Монте-Касино. Черемхово», автора Василя Ракиты – черемховского беларуса.
*Встреча состоялась 26 апреля в 17-30 в Областной юношеской библиотеке по адресу: Инкутск, ул. Чехова, 10.*




На этой встрече-презентации пойдёт разговор о беларусах, участниках известной Армии Андерса (польского генерала, происходившего из дворянского рода балтийских немцев), воевавших против фашистов, и сосланных сталинским режимом в 1950-51гг. в город Черемхово Иркутской области.

Вина этих воинов заключалась только в том, что они были солдатами генерала, который не любил Сталина, и который после 2-ой Мировой войны, остался в эмиграции и не признал марионеточное правительство социалистической Польши.

«Армия Андерса», или правильное название 2-ой Польский корпус был сформирован из поляков, западных украинцев и западных белорусов, которые попали в плен после военной компании 1939 года, когда фашистская Германия и Советский Союз разделили Польшу.

Многих поляков, западных украинцев и западных белорусов причём как военнопленных, так и «подозрительных» гражданских сослали в ГУЛАГ и другие спецпоселения Сибири и Средней Азии. Однако вскоре после начала Великой Отечественной войны правительство СССР приняло решение разрешить формирование на территории СССР национальных комитетов и национальных воинских частей из чехов, словаков, югославов, поляков, западных белорусов и западных украинцев, а также оказывать помощь в деле вооружения и обмундирования этих национальных частей.

30 июля 1941 года в Лондоне посол СССР И. М. Майский и премьер польского правительства в изгнании В. Сикорский подписали соглашение о восстановлении дипломатических отношений и взаимопомощи в борьбе с Германией, которое предусматривало создание польских воинских частей на территории СССР. Вместе с соглашением был принят протокол: «Советское правительство предоставляет амнистию всем польским гражданам, содержащимся ныне в заключении на советской территории в качестве или военнопленных, или на других достаточных основаниях, со времени восстановления дипломатических отношений».

К польским гражданам отнесли и западных беларусов и украинцев. Заместитель наркома внутренних дел комиссар госбезопасности 3-го ранга В. В. Чернышёв, курировавший ГУЛАГ и Управление по делам о военнопленных и интернированных, представил руководству страны «Справку о количестве расселённых спецпереселенцев-осадников, беженцев и семей, высланных **из западных областей** УССР **и** БССР**, по состоянию на** 1 августа **1941 года**». В справке были приведены следующие данные о количестве спецпереселенцев беларусов и украинцев: военнопленные – 26 160 человек, осадники и лесники – 132 463 человек, осуждённые и следственные – 46 597 человек, беженцы и семьи репрессированных - 176 000 человек. Всего 381 220 человек.

6 августа 1941 года командующим польской армией был назначен генерал Владислав Андерс. Год шло формирование этой армии. Летом 1942 года

Сталин при посредничестве английского правительства и по договорённости с В. Сикорским разрешил перебросить Армию Андерса в Иран. С этого момента она получила название 2-ой Польский корпус Британской армии. В составе этой армии была и 5-я Кресовая пехотная дивизия «Зубры» (командир — бригадный генерал Никодим Сулик).

«Кресами» поляки называли Западную Беларусь и Западную Украину. Стоит отметить, что беларусы были не только в этой дивизии, но и в других воинских формированиях 2-го Польского корпуса, в том числе в составе 1-ой отдельной десантно-диверсионной роты «коммандос». По подсчетам белорусского историка Игоря Мельникова в армии Андерса состояло около 20 тысяч белорусов, уроженцев западных областей Беларуси. Это была значительная часть войска, ведь максимальная численность солдат во II Польском корпусе составляла около 100 тысяч. Особенно беларусы прославились во время кровопролитной битвы при итальянском монастыре Монте-Касино.

После окончания 2-ой Мировой войны, большинство солдат и офицеров Армии Андерса остались на Западе. Особенно отказались возвращаться на Родину в Советский Союз и социалистическую Польшу – украинцы и поляки. Беларусы-андерсовцы же наоборот в большом количестве решили вернуться домой, пусть даже в Советскую, но родную Беларусь. Хотя многие беларусы-эмигранты, которые уехали с Беларуси ещё после Революции и Гражданской войны предлагали своим землякам помощь в адаптации в западных странах и предупреждали о сталинских репрессиях, но герои боёв против фашистов не верили, что их будут встречать дома не как воинов-освободителей, а как предателей и врагов.

Однако репрессивная «машина» сталинского правительства была неумолима.
**Уже в 1950 году первые беларусы-андерсовцы были осуждены. А в конце марта 1951 года сослали всех, причём с семьями. Согласно архивным данным репрессиям подверглись 4 520 бывших солдат (с учётом членов их семей). Все они были отправлены на** спецпоселение **в** Иркутскую область **в город Черемхово, на угольные разрезы.**

Василь Ракита пишет: «Храбрый солдат Касьян Кадолич, прошедший тяжёлые испытания, награждённый знаками воинской доблести, имел реальную возможность остаться в Англии. Ему намекали, что если он вернётся домой, то и до Сибири путь недалёкий. На что он отвечал: «Няхай у Сібір, але пабачу родных на ганку (крыльце)». Не знал Касьян, что его единственный сын умер в 1943 году, да и встреча, общение с близкими будут недолгими. Уже в 1951 году он будет сослан в Сибирь, в Черемхово».

В книге «Монте-Касино. Черемхово» Василь Ракита рассказывает о беларусах-андерсовцах, с которыми ему удалось познакомиться в Черемхово, после того как он сам хлопец с Полесья приехал в этот город по распределению в 1961 году после окончания Тульского механического института. Одно из достоинств книги, что здесь собраны личные воспоминания солдат и их родных.

Что ещё особенно Василь Ракита подчёркивает, что практически все сосланные беларусы стали добросовестными тружениками, а некоторые из них достигли определённых должностей. Черемховцы уважали и уважают бывших солдат и их потомков. Кстати на нашем Вечере будут присутствовать дети и внуки солдат-андерсовцев. Они расскажут о своих отцах и дедах. А рассказать есть что! Ведь они и вправду были героями!!

Стоит отметить что в 1971 году Верховный суд БССР признал необоснованность депортации бывших «андерсовцев».

**Aleg Rudakou: About Belarus warriors and their families, exiled to the Irkutsk region in 1950-51** ***(magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p.173-176, www.sakavik.net)***

Irkutsk Belarusian Club «Kryvych" organized the presentation of the book "Monte Cassino. Cheremkhovo", author Vasil Rakita. This book is about Belarusians, members of the famous Anders' Army (a Polish general who came from a noble family of Baltic Germans), who fought against the Nazis and who were exiled by the Stalin regime in 1950-51 to the city of Cheremkhovo, Irkutsk region. In 1971, the Supreme Court of the BSSR ruled that the deportation of the former "Anders" was unreasonable.

**Олег Рудаков: О беларусах-воинах и их семьях, сосланных в Иркутскую** ***(журнал «КУЛЬТУРА. НАЦИЯ», декабрь 2019, выпуск 24, с.173-176, www.sakavik.net)***

Иркутский Белорусский клуб «Крывiчы» организовал презентацию книги «Монте-Касино. Черемхово», автора Василя Ракиты – черемховского беларуса. На этой встрече-презентации шёл разговор о беларусах, участниках известной Армии Андерса (польского генерала, происходившего из дворянского рода балтийских немцев), воевавших против фашистов, и сосланных сталинским режимом в 1950-51г.г. в город Черемхово Иркутской области. В 1971 году Верховный суд БССР признал необоснованность депортации бывших «андерсовцев».

*Каляндар важнейшых дат у жыцьці беларусаў у 2019 годзе*

**Юбілейныя дні нараджэньня паэтаў і пісьменьнікаў**

**СТУДЗЕНЬ 2019**

150-годдзе з дня нараджэння Ядвігіна Ш.
120-годдзе з дня нараджэння Міхася Лынькова
115-годдзе з дня нараджэння Алеся Якімовіча

**ЛЮТЫ 2019**

105-годдзе з дня нараджэння Аркадзя Куляшова

**САКАВІК 2019**

205-годдзе з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі
90-годдзе з дня нараджэння Еўдакіі Лось

**МАЙ 2019**

115-годдзе з дня нараджэння Адама Русака
115-годдзе з дня нараджэння Паўлюка Труса

**ЧЭРВЕНЬ 2019**

95-годдзе з дня нараджэньня Васіля Быкава

**ЛІПЕНЬ 2019**

150 гадоў з дня нараджэння Вітана-Дубейкаўскага (Дубяйкоўскага) Лявона Іванавіча (1869 – 1940), беларускага паэта, архітэктара

**ЖНІВЕНЬ 2019**

470 гадоў з дня нараджэння Радзівіла Мікалая Крыштова (мянушка Сіротка) (1549 – 1616), дзяржаўнага і ваеннага дзеяча ВКЛ, мецэната, пісьменніка

**ВЕРАСЕНЬ 2019**

160 гадоў з дня нараджэння Эпімаха – Шыпілы Браніслава Ігнатавіча (1859 – 1934), дзеяча беларускай культуры, выдаўца, фалькларыста, мовазнаўца, літаратуразнаўца

**КАСТРЫЧНІК 2019**

135 гадоў з дня нараджэння Ждановіча Фларыяна Паўлавіча (1884 – 1937), беларускага акцёра, рэжысёра, тэатральнага дзеяча, аднаго з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра

**ЛІСТАПАД 2019**

29 лістапада - 160 гадоў з дня нараджэння Янчука Мікалая Андрэевіча (1859 – 1921), беларускага, украінскага і рускага вучонага-славіста і пісьменніка, этнографа, фалькларыста, літаратуразнаўца, антраполага

**СНЕЖАНЬ 2019**

115 гадоў з дня нараджэння Дудара Алеся (сапр. Дайлідовіч Аляксандр Аляксандравіч) (1904 – 1937), беларускага паэта, крытыка, перакладчыка

## Каляндар гістарычных дат

**1 студзеня 1919 года створана Беларуская савецкая сацыялістычная рэспубліка (БССР)**

| | |
|---|---|
| **1045** | гадоў назад (974) паводле Віцебскага летапісу кіеўскай княгіняй Вольгай заснаваны Віцебск |
| **1000** | гадоў назад (1019) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Брэст (Берасце, Бярэсце) |
| **975** | гадоў з пачатку будаўніцтва (1044) у Полацку Сафійскага сабору (будаўніцтва скончана ў 1066 г.) |
| **975** | гадоў з часу княжання (1044 – 1101) у Полацку Усяслава Брачыславіча, празванага Чарадзеем |
| **975** | гадоў назад (1044) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Навагрудак (Новогород, Новогородок) |
| **960** | гадоў назад (1059) у летапісах упершыню ўпамінаецца Копысь як горад Полацкага княства |
| **915** | гадоў з дня нараджэння Еўфрасінні Полацкай (свецкае імя Прадслава) (каля 1104 – 1173), беларускай асветніцы |
| **860** | гадоў назад у летапісах упершыню ўпамінаецца Чачэрск |
| **745** | гадоў назад (1274) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Капыль |
| **735** | гадоў назад (1284) войскі літоўскага князя Рынгальда разграмілі мангола-татарскія войскі каля вёскі Магільна (цяпер Уздзенскі раён Мінскай вобласці) |
| **605** | гадоў назад (1414) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Глыбокае |
| **580** | гадоў назад (1439) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Лепель |
| **575** | гадоў назад (1444) Гродна атрымаў поўнае самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **565** | гадоў назад (1454) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Стары Мядзел (цяпер г. Мядзел Мінскай вобласці) |
| **525** | гадоў назад (1494) горад Высокае атрымаў самакіраванне паводле магдэбургскага права |

| | |
|---|---|
| **525** | гадоў назад (1494) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Косава (Косаў) |
| **520** | гадоў назад (1499) Мінск атрымаў самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **515** | гадоў з часу ўтварэння (1504) Полацкага ваяводства |
| **515** | гадоў назад (1504) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца в. Будслаў (Буда, Буцлаў, Будцлаў) Мядзельскага раёна |
| **505** | гадоў назад (1514) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаюцца Мёры |
| **490** | гадоў з часу ўвядзення (1529) Першага Статута Вялікага княства Літоўскага, збора законаў айчыннага феадальнага права |
| **485** | гадоў назад (1534) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Сянно |
| **490** | гадоў назад (1 ліпеня 1569 г.) заключана Люблінская унія – урачыстае абвяшчэнне пра аб’яднанне на аснове роўнасці Польскага Каралеўства і Вялікага княства Літоўскага ў федэратыўную дзяржаву – Рэч Паспалітую |
| **450** | гадоў назад (1569) Радашковічы і Дзісна атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **445** | гадоў з часу заснавання (1574) у Вільні друкарні братоў Мамонічаў (дзейнічала да 1623 г.) |
| **445** | гадоў з часу выдання (1574) Сымонам Будным у мяст. Лоск каля Валожына Новага Запавету |
| **440** | гадоў назад (1579) Гродна стаў рэзідэнцыяй караля Польскага і Вялікага князя Літоўскага Стэфана Баторыя |
| **430** | гадоў назад (1589) Кобрын і Пружаны атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **420** | гадоў назад (1599) у пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца Вілейка |
| **385** | гадоў назад (1634) Чавусы і Бешанковічы атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права |
| **295** | гадоў назад (1724) створана Нясвіжская капэла Радзівілаў (існавала да 1809 г.) |
| **290** | гадоў назад (1729) заснавана Пінская друкарня (існавала да 1746г.) |

| | |
|---|---|
| **250** | гадоў назад (1769) у в. Бабоўня (Капыльскі раён) заснавана суконная мануфактура |
| **250** | гадоў з пачатку дзейнасці (1769) у Гродна тэатра Тызенгаўза (дзейнічаў да 1780 г.) |
| **250** | гадоў з часу заснавання (1769) шклозавода “Залессе” ў мяст. Ілля |
| **245** | гадоў назад (1774) у Гродна створана музычна-тэатральная школа Тызенгаўза (існавала да 1780 г.) |
| **225** | гадоў з пачатку паўстання (1794) у Польшчы, Беларусі і Літве пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі |
| **225** | гадоў з часу ўтварэння (1794) Віленскага генерал-губернатарства (існавала да 1912 г.) |
| **215** | гадоў з дня нараджэння Гарбачэўскага Мікіты Іванавіча (1804 – 1879), беларускага архівіста, мовазнаўца, педагога |
| **215** | гадоў назад (1804) завершана будаўніцтва Агінскага канала, які злучыў водныя сістэмы рэк Нёмана і Дняпра |
| **210** | гадоў з часу заснавання (1809) у Магілёве першай у Беларусі метэаралагічнай станцыі |
| **210** | гадоў назад (1809) у Магілёве на базе галоўнага народнага вучылішча адкрыта першая гімназія |
| **195** | гадоў з часу выдання (1824) “Беларускага архіва старажытных грамат”, першага зборніка па гісторыі беларускіх зямель |
| **190** | гадоў з пачатку дзейнасці (1829) Беларускай навучальнай акругі |
| **180** | гадоў назад (1839) скончана будаўніцтва Аўгустоўскага канала, які злучыў водныя сістэмы рэк Нёмана і Бебжы (басейн Віслы) |
| **180** | гадоў назад (1839) заснавана метэаралагічная станцыя ў Гродна |
| **160** | гадоў назад (1859) уведзена ў эксплуатацыю першая ў Беларусі тэлеграфная лінія Мінск – Бабруйск |
| **155** | гадоў назад (1864) заснавана Маладзечанская настаўніцкая семінарыя (існавала да 1920 г.) |
| **150** | гадоў назад (1869) пачалося будаўніцтва Маскоўска-Брэсцкай чыгункі (скончылася ў 1878 г.) |
| **145** | гадоў назад (1874) у Гомелі заснаваны галоўныя механічныя майстэрні Лібава-Роменскай чыгункі (у далейшым Гомельскі вагонарамонтны завод) |
| **140** | гадоў назад (1879) заснавана Навабеліцкая запалкавая фабрыка |

| | |
|---|---|
| | “Везувій” (з 1944 г. Гомельскі фанерна-запалкавы камбінат) |
| **135** | гадоў з часу ўводу ў эксплуатацыю (1884) чыгуначнай лініі Вільня – Пінск |
| **135** | гадоў з часу пабудовы (1884) Пінскага параходабудаўнічага завода (з 1939 г. суднарамонтны завод) |
| **120** | гадоў назад (1899) заснавана Мінская абласная бібліятэка імя А.С.Пушкіна (адкрыта 25 снежня 1900 г.) |
| **115** | гадоў назад (1904) у Брэсце адкрыта жаночая гімназія |
| **110** | гадоў назад (1909) у Брэсце быў адкрыты першы кінематограф |
| **110** | гадоў назад (1909) пачалося выданне “Минской старины”, зборніка дакументаў, навуковых прац і артыкулаў па гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Беларусі |
| **110** | гадоў назад (1909) пачалося выданне “Полоцко-Витебской старины”, зборніка дакументаў, навуковых прац і артыкулаў па гісторыі Беларусі |
| **110** | гадоў з пачатку дзейнасці (1909) настаўніцкай семінарыі ў Рагачове (дзейнічала да 1919 г.) |
| **110** | гадоў з часу выдання (1909) у Гомелі грамадска-палітычных і літаратурных газет “Полесье” і “Полесская жизнь” |
| **105** | гадоў з часу стварэння (1914) у Мінску кампазітарам У.В.Тэраўскім аднаго з першых беларускіх харавых калектываў |
| **100** | гадоў назад (1919) заснавана Віленская беларуская гімназія (існавала да 1944 г.) |
| **100** | гадоў назад (1919) у Магілёве адкрыта музычная школа, адна з першых у Беларусі (з 1937 г. музычнае вучылішча імя М.А.Рымскага–Корсакава, з 2009 г. Магілёўскі дзяржаўны музычны каледж імя М.А.Рымскага–Корсакава) |
| **65** | гадоў з часу ўрачыстага адкрыцця (4 ліпеня 1954 г.) у Мінску манумента Перамогі – помніка воінам Савецкай Арміі і партызанам, якія загінулі ў баях за вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў |
| **50** | гадоў назад (5 ліпеня 1969 г.) адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнага комплексу “Курган Славы” |

**Calendar of important events in the life of Belarusians in 2019**
***(magazine "CULTURE. NATION", December 2019, issue 24, p.177-183,***
*www.sakavik.net)*
In this issue: Calendar of wrirers' and poets' birthdays, and Calendar of historical dates.

*Наступны 25-ты нумар часопіса «КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ» выйдзе ў красавіку 2020 года*